Першая
кніга
празаіка

# АЛЕСЬ АСТАШОНАК



# ФАРБЫ ДУШЫ

Апавяданні,
настроі,
аповесць



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1989

ББК84 Бел7
А 91

Серыя заснавана ў 1976 годзе

Рэцэнзент
Міхась Тычына

В миниатюре «Краски души», давшей название книге, молодой автор говорит о поэтическом постижении мира. Лиричность, психологизм свойственны и повести «Рисунки на пепле», посвященной драматической судьбе таланта.

Острым сюжетом отличаются рассказ «Супер», в центре которого «трудная» молодежь, притчи «Метаморфоза» и «Очередь». Герой рассказа «Возвращение» — поэт Максим Богданович.

$А \frac{4702120201-081}{М 302(03)-89}$ 34—89

ISBN 5-340-00345-0

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1989

Гадоў восем назад прыйшоў да мяне хлопец, як мне здалося, вельмі заклапочаны нейкімі жыццёвымі непрыемнасцямі.

Пагаварыў з ім і зразумеў, што неспакой у яго — ад таленту.

Па-рознаму людзі пачынаюць пісаць.

Некаторыя вось так, адразу ж нагружаючы сябе болем цяперашняга і мінулага жыцця свайго народа.

Такім убачыў я і Алеся Асташонка.

І, здаецца, не памыліўся, калі вельмі высока ацаніў для сябе яго першыя апавяданні. Талент ёсць, ён паглыбляўся, і доказам гэтага з'яўляюцца яго новыя апавяданні, п'есы.

*Алесь Адамовіч*

# Patria eterna [1]

Я часта гляджу на гэтую манету... З рэверсу яе на мяне пазіраюць пільныя вочы імператара Каракалы. Я зноў уяўляю сябе ў старажытным Цімгадзе...

Хлопчыкі, вылузваючыся перад турыстамі, імітуюць двубой гладыятараў — іншаземцы, смеючыся, кідаюць на сцэну амфітэатра манеты.

Калісьці на гэтай сцэне перамагалі і паміралі гладыятары сапраўдныя — галы, фракійцы, дакі... На незнаёмай нашаму слыху латыні гучалі тут вершы Гарацыя і Авідзія, Лукрэцыя і Вергілія... Гэтак жа, як цяпер вось турысты, смяяліся невядомыя людзі *жывога вялікага* горада — гледзячы камедыі Цярэнція ці слухаючы байкі Федра, або проста пачуўшы ўдалы жарт гаваруна суседа... Можа, сюды прыязджаў, стаяў тут дзесьці непадалёку славуты святар і філосаф Аўгусцін Блажэнны, што жыў у гэтых мясцінах...

А цяпер тут толькі гатуюць і абслугоўваюць...

Дзень сённяшні і ўчарашні...

І я тут выпадкова — сведка гэтага цуду, калі ці не твар у твар сутыкаюцца тысячагоддзі.

Я — і тысячагоддзі... Як змяншаецца гэтае «я» насупраць спакойнае мудрасці часу...

Але раптам, калі я чытаю надпіс над суровым і жорсткім лікам Каракалы, бачацца іншыя вочы — самотныя і задуменныя, і мяне агортвае новы ўспамін...

---

[1] Радзіма вечная *(лац.)*.

Дарога з Анабы ў Біскру, куды мы ехалі ў геалагічную разведку, праходзіла каля Цімгада. Месца прыгажосці было ўжо амаль побач, у запасе ў нас заставаліся цэлыя суткі, і мы вырашылі затрымацца і правесці дзень на развалінах старажытнарымскага горада, некалі аднаго з буйнейшых у рымскай Паўночнай Афрыцы.

Спехам павячэраўшы ў рэстаранчыку пры гатэлі, мы ляглі спаць. Ноч была халодная, і, можа, ад гэтага, а можа, ад нецярпення я ўзняўся на золку, хуценька адзеўся і выслізнуў на двор.

Цімгад здаваўся жывым. Ён нібыта ўсяго толькі спаў — як і гатэль ці селішча на далёкіх пагорках. Махану зараз напрасткі праз увесь горад — глядзіш, зданню вырасце на дарозе легіянер-вартавы з дзідаю дый запытае штось на латыні. Такая вось дзіўнаватая думка мільганула раптам, хваляваннем аддаючыся ў сэрцы...

Нават парцье і той яшчэ спаў, але побач з гатэлем сядзеў ужо, разаслаўшы на бетоне посцілку, стары, белы, што той мышалоў, араб і задуменна глядзеў на свае манеты і фінікі. На які ж гандаль мог разлічваць дзівак у такую пару?

Пачуўшы крокі, гандляр з надзеяй зірнуў на мяне. Але манеты я купляць не стаў, бо пачцівы парцье папярэдзіў нас учора, што гандлююць тут даўно ўжо адными падробкамі. Кіўнуўшы на пагоркі, аблепленыя малюпасенькімі хаткамі з ацынкаванае бляхі, ён падміргнуў мне і даверліва, быццам які сакрэт, прашаптаў: «Рымскі манетны двор»,— пасля зарагатаў, задаволены жартам.

Каб даць старому хоць крыху зарабіць, я ўзяў жменю фінікаў — на сняданак. Разлічыўшыся, пайшоў далей — і адразу ж, як таго і чакаў, пачуў нуднае мармытанне старога: мсье дарма спяшаецца, мсье яшчэ пашкадуе — сапраўдных манет засталося не так

ужо і багата, толькі ў яго аднаго... Каторы ўжо раз чуў я ў Алжыры ад гандляроў гэтае «толькі», але ж цішыня была такая невыносная, а голас араба такі сумны, што я не вытрымаў і, вярнуўшыся, выбраў адну з манет дый купіў, хоць цана — трыццаць алжырскіх дынараў за адзін нібыта рымскі дынарый — удвая перавышала звычайную. Усміхнуўся толькі, падумаўшы: яшчэ дваццаць дзевяць манет — і можна стаць уладальнікам меры сумлення сыноў чалавечых, якую вызначыў некалі з Юдам пракуратар рымскі Понцій Пілат...

— Vous n'êtez pas Français, c'est évident... Un Anglais non plus,— спытаўся араб, узіраючыся ў мяне.— Qui êtez-vous alors? [1]

— Je suis Soviétique,— адказаў я.— Biélorusse [2].

Стары з раптоўным хваляваннем недаверліва паглядзеў мне ў вочы. Нашы спецыялісты ў Цімгадзе — госці не дужа рэдкія, і неспакой араба быў мне незразумелы.

Узняўшыся, ён расшпіліў каўнер кашулі, што віднелася пад яго даўгаполай адзежынай, падобнай крыху на наш бурнос,— я ўбачыў на грудзях у старога каталіцкі крыжык.

Між тым на шчацэ ў яго сінеў іншы крыжык — распаўсюджаная ў тамтэйшых мясцінах татуіроўка.

— Божа літасцівы,— прашаптаў гандляр па-беларуску, і, дальбог, болей я не здзівіўся б нават і рымскаму легіянеру, каб устаў той зараз перада мною.

— Я з Наваградка.— Стары сказаў гэта так, нібыта быў там зусім нядаўна.

І толькі цяпер да мяне дайшло, наколькі чыстая была для араба, што жыве на самым парозе Сахары, яго французская гаворка, на якую я хвіліну назад не

[1] Вы не француз, гэта відавочна... І не англічанін. Хто ж тады вы? *(франц.)*

[2] Я з Савецкага Саюза. Беларус *(франц.)*.

звярнуў увагі: у стракатых алжырскіх гарадах і селішчах не зважаеш надта на шматмоўе жыхароў.

— Хадземце, я пакажу вам горад... Лепш за мяне вам не раскажа пра яго ніхто,— мармытаў стары, завязваючы ў вузел посцілку.

Рукі ў яго дрыжэлі, на бетон упала колькі манет, але ён і не бачыў гэтага: утаропіўся ў мяне, як завароханы, нерухомымі вачыма, быццам баяўся, што я раптам знікну.

— Манеты,— выціснуў я з сябе,— вы забыліся пра вашы манеты...

— Вазьміце іх сабе, яны — аўтэнтычныя, рымскія... Я не ашукваў вас: я яшчэ не збываю падробкі.— Ён нахіліўся долу, спрытна, ураз падабраў дынарыі і працягнуў іх мне.— Гэта манеты Каракалы, у гонар якога пабудавана непадалёк ад Форума арка. У неадольнай настальгіі тутэйшы намеснік загадаў адчаканіць дынарыі з прыдуманым ім надпісам...

Я разгублена ўзяў дзве манеты.

— Я ведаю, чым тут дыхае кожны камень,— задыхаўся ад хвалявання стары.— Давайце лепш вунь праз тыя вароты, па дарозе на Карфаген...

І мы ўжо хутка ішлі па брукаванай вуліцы...

— Цімгад, Тамугадзі — афрыканскімі Пампеямі называюць гэты цуд археолагі. За шэсць стагоддзяў жыцця горад, заснаваны рымлянамі ў сотым годзе эры Хрыстовай, знішчаўся тройчы: быў спалены вандаламі, затым кабіламі [1] і ўрэшце зруйнаваны арабамі. Зруйнаваны ці не дашчэнту — і ўсё ж такі і сёння жывы! Спярша тут стаяў невялічкі ваенны лагер. То быў пачатак заняпаду вялікай імперыі, па бязмерных абсягах якой пракаціліся лютым смерчам паўстанні непакорлівых васалаў і рабоў...

[1] Кабілы — адзін з народаў Алжыра.

«Чорт ведае што,— адно стаяла ў мяне ў галаве.— Рым... Карфаген... Наваградак...»

Урэшце, нічога надта дзіўнага ў тым, што я сустрэў на алжырскай зямлі славяніна, не было... Яны тут трапляюцца дзе-нідзе, асабліва на ўзбярэжжы: і такія, што захавалі яшчэ мову сваю і звычаі,— гэтыя найрадзейшыя, і зусім ужо арабізаваныя, што ніводнага роднага слова не ведаюць. Але ж дзе я спаткаўся з гэтым, у якой глухмені,— і што ў яго быў за выгляд!

— Гігант слабеў,— працягваў стары тонам экскурсавода. Праўда, гаварыў ён на нейкай неверагоднай трасянцы, якую, бадай што, немагчыма тут перадаць: словы былі найчасцей беларускія, але густа прыпраўленыя польскімі, а то нават і французскімі. Адно ж усё роўна, нягледзячы ні на якія моўныя перашкоды, нарастала няспынна ў яго ўсхваляваным расказе ўзнёсласць.

— Гігант занядужаў. Ён яшчэ не перастаў заваёўваць, але сон яго, яшчэ стагоддзем раней роўны і велічны, працінаў цяпер неадольны клопат аб ахове далёкіх фарпостаў. Таму за кроў, пралітую ў славу Рыма і цэзара, імператар Траян узнагародзіў ветэранаў афрыканскага легіёна надзеламі выпаленай нумідзійскай зямлі з наказам зацвярджаць магутнасць імперыі на гэтым краі свету: наперадзе рассцілалася неабсяжнае мёртвае мора пяску...

Міжволі захоплены, я ўсё ж чакаў ад яго іншага аповяду: які вецер занёс яго сюды з Наваградка?

— Я дзесяць гадоў служыў тут гідам,— вінавата паглядзеў на мяне стары, адчуўшы маю збянтэжанасць, і спыніўся.— Прабачце, я нават не ведаю, ці маю права... вось так... з вамі...

Ён быў сумеўся, але вельмі хутка ўзяў сябе ў рукі і па-шляхецку гжэчна кіўнуў галавою.

— Маю гонар рэпрэзантавацца: шляхціц Вінцэнты Краеўскі.

— Як трапілі сюды? — адно спытаўся я ў адказ.

— Вам, пэўна, цяжка будзе ва ўсё гэта паверыць... вы ж бачыце... мая вопратка, занятак, крыжык вось... на шчацэ... але ў тым, як я апынуўся тут, няма нічога незвычайнага. Мы ўцяклі ў трыццаць дзевятым. Дакладней, уцёк бацька, а з ім ужо разам і я: мне не было тады і дваццаці.

Змяк ён гэтак жа імгненна, як і падабраўся толькі што.

— Спярша мы аселі ў Францыі, але ў сорак трэцім — калі немцы акупавалі і паўднёвую частку краіны, дзе мы знайшлі прыстанак,— перабраліся ў Алжыр. Бацька неўзабаве памёр, а мне прапанавалі ў Боне — так тады называлася на французскі манер Анаба — неблагое месца ў гарадской пракуратуры... У Францыі я паспеў скончыць універсітэт, факультэт права — нейкі час у нас былі яшчэ грошы, і хапіла іх якраз на маё навучанне... У Анабе я, каб стаць як след на ногі,— бо быў ужо амаль ні з чым,— ажаніўся. З рускаю. Бацькі яе трапілі сюды яшчэ ў дваццатым, з Крыма. Цесць пусціў тут карані глыбока, стаў пракурорам акругі. Ну, і мяне, вядома, чакала кар'ера не з горшых... Але я яшчэ ў Францыі стаў... сумнявацца, ці ж добры лёс... занёс мяне на чужыну... І калі памёр цесць, я ўзяў ды прапанаваў жонцы падацца ў метраполію, у Парыж... Там пасольства... а адтуль...

Стары не даказаў — апошнія словы ўвогуле даліся яму вельмі цяжка.

— Ды яна адно палічыла мяне вар'ятам... Мусіць, і дагэтуль верыць у маці-Францыю, хоць засталася тут пасля рэвалюцыі. Бог ведае, што б яна мела там, на зямлі гэтай маці?.. Але французы з іх выйшлі зацятыя, што з жонкі, што з дачкі. Жонка і веру памяняла: з праваслаўя перайшла ў каталіцтва. Гэта значыць, каб больш француженкай быць. Дачка, я чуў, выйшла замуж за кабіла, пагналася, мусіць, на грошы: ён з сям'і

тутэйшых арыстакратаў — дык і гэты, відаць, цяпер таксама француз... Тут і сярод мясцовых афранцужаныя сустракаюцца. Небагата, ды ёсць. Роднай мовы нават не ведаюць...

— А вось і бібліятэка,— сказаў ён раптам, спыніўшыся.— Прабачце, мы прайшлі ўжо рынак Серцыя, а я не сказаў вам пра горад ні слова... Паглядзіце толькі, які прыгажун! Ён і сёння ўразіць любога бездакорнасцю планіроўкі і ўладкаванасцю, прадуманасцю кожнай драбніцы... Гэта ўваход.

Краеўскі паказаў на невысокія прыступкі, і мы ўзняліся ў паўкруглую залу.

— У цэнтральнай нішы, вунь у той, паміж дзвюх мармуровых калон, была статуя багіні мудрасці Мінервы, апякункі навук, мастацтваў і рамёстваў. А па баках, у два паверхі — нішы для манускрыптаў...

— Прабачце,— перапыніў я яго,— але што сталася з вамі пасля?

— Не хапіла мне нечага,— адказаў ён, памаўчаўшы,— вось і ўсё... Стаў піць. Спачатку жонка ўзялася за мяне, але калі я быў звольнены з пракуратуры, выгнала з дому. Ды мне ўжо стала ўсё роўна, што будзе далей. Я досыць прыстойна гуляў у більярд, і знаёмыя з англійскага консульства дапамагалі мне трымацца маркёрам у іх клубе. Але сталі трэсціся рукі — выперлі і адтуль. Уладкаваўся грузчыкам у порт, дый там не надта затрымаўся: арабы і кабілы сустрэлі мяне як чужынца, а ўрэшце і зусім парэзалі ў бойцы. Пачаў тады бадзяцца па барахолках, перапрадаваў усякае рыззё: трэба ж было хоць неяк зарабляць на хлеб... Толькі які там хлеб! Мізэрную выручку ці не ўсю прапіваў, на знаёмых ужо не звяртаў аніякай увагі. Жонка, няйначай, бога маліла, каб я хутчэй аддаў канцы. Падабраў мяне адзін заходні немец, кінарэжысёр: ён ехаў у Сахару здымаць фільм, і яму патрэбны быў перакладчык, ну а я пасля ўсіх блуканняў па ба-

рахолках добра ведаў арабскую мову... Немцы мяне і за еўрапейца не палічылі: выгляд у мяне быў, мякка кажучы, не з лепшых. З немцамі я дабраўся ажно да самага Ін-Амгеля — тысячы з паўтары кіламетраў да ўзбярэжжа. Там яны вырашылі, што далей ісці небяспечна: муджахіды, партызаны, шырылі інсургенцкі рух, пачыналася сапраўдная вайна, час усякіх пераваротаў — французы самі ўзнімалі мяцяжы,— трэба было ўцякаць, пакуль не позна, назад у Еўропу. Ім удалося дамовіцца з адным лётчыкам, які вырашыў зарабіць пад шумок, што ён пераправіць іх на поўнач. У Ін-Амгелі яны мяне і кінулі, ледзь разлічыўшыся. У кішэні сто франкаў, а які заробак мог я знайсці ў пустэльні? Прапіўшы грошы, прыстаў, каб выжыць, да хададаў — кавалёў. У туарэгаў — гэтыя плямёны ў тых мясцінах у асноўным і жывуць — былі тады яшчэ свае касты: арыстакраты, васалы, парабкі... Кавалі — усё роўна як ізгоі... Гэта майстры на ўсе рукі: яны і ганчары, і гарбары, і цырульнікі, і зубадзёры, але перш за ўсё маюць справу з жалезам, якое лічыцца там нячыстым металам,— таму нячыстыя і самі кавалі. Аднойчы я не вытрымаў і зарэзаў аднаго князька ахагараў — гэта адно з туарэгскіх плямёнаў,— які гнюсна абразіў мяне і ўдарыў нагою ў твар. Мяне б разарвалі жывым, але я паспеў уцячы і схавацца ў халупе ў аднаго васала: я перадаў яму неяк раней прыгожы нож, які прызначаўся для арыстакрата, і васал згадзіўся дапамагчы мне. Але ж трэба было яшчэ выбрацца з гарадка. Ахагары пакінулі ўсю жывёлу на жанчын і так і шнырылі па Ін-Амгелі. Васал выкалаў мне на шчацэ крыжык, замазаў чымсьці татуіроўку, каб тая не выглядала свежаю, перашыў і перафарбаваў мае рызманы ў распаўсюджаны там колер індыга, і я сярод белага дня прайшоў скрозь нажы ахагараў. Але ці ж ведаеце вы, што да бліжэйшага ад Ін-Амгеля аазіса сотні дзве кіламетраў? І я іх прайшоў,

хоць ужо месяц не еў нічога, апроч праснакоў і фінікаў, а ў кішэнях былі толькі дзве пляшкі вады. Дарэчы, у туарэгаў для злодзея простае смяротнае пакаранне — выгнанне ў пустэльню. Злачынцу даюць з сабою торбачку з мукою і жменьку солі — калі чалавек выжывае, то можа ўжо не баяцца супляменнікаў. А выжываюць нячаста, калі не сказаць, што амаль ніколі. Выходзіць, і я быў усё роўна як асуджаны на смерць: невялікі шанц даў мне васал на ўратаванне. Апошнія кіламетры я ледзьве поўз, трымаўся адною надзеяй сустрэць хоць які ручаёк, і памёр бы, пэўна, зусім ужо непадалёк ад мэты, калі б зноў не пашэнціла: мяне падабралі ахагары. Так, калі я толькі ўбачыў іх, то пацямнела ў вачах: гэта ж трэба было столькі паўзці ад смерці, каб трапіць нарэшце ў самыя яе рукі!.. Але ж, выявілася, гэта былі васалы. Яны нічога не ведалі пра тое, што нейкі каваль забіў іх князя, і давезлі мяне да самага Амгіда, а там перадалі — я ўсё яшчэ не мог як след ачуняць — французскаму унтэр-афіцэру, які перабіраўся разам з салдатамі-арабамі з аднаго гарнізона ў другі. Па дарозе салдаты забілі унтэра і рушылі да муджахідаў, а мяне адпусцілі з богам. Да Амгіда было ўжо зусім недалёка, і я пайшоў туды адзін. У горадзе мяне адразу ж схапілі французы і кінулі, як падазронага тыпа, у каталажку: да іх дайшлі ўжо звесткі пра знікненне атрада і забойства унтэра. Але праз колькі дзён горад захапілі муджахіды. Яны выпусцілі мяне з турмы і заангажавалі нават на месца пісара ў іх атрадзе — як ахвяру каланіяльнага рэжыму...

У мяне ўжо фантазіі не хапала, каб уявіць сабе ўсе прыгоды Краеўскага. Быццам гэта і не жыццё было, а нейкі круцельскі раман. Прыкмеціўшы маё здзіўленне, стары адно ўсміхнуўся.

— Гэта толькі пачатак. У горадзе я нарваўся на ахагара, арыстакрата з таго самага племені, князька

якога забіў. Мусіць, яны разаслалі самых адчайных у пагоню: помста ў некаторых туарэгскіх плямёнах — найсвенты абавязак. Калі забіты князь не будзе адпомпешчаны, імі пачнуць пагарджаць іншыя плямёны, перастануць слухацца васалы і парабкі, нават жанчыны могуць кінуць мужчын. Ахагар пазнаў мяне і двойчы параніў нажом. Абараняючыся, я адштурхнуў яго — ахагар упаў і ўдарыўся галавою аб камень. Пакуль ён апрытомнеў, я паспеў схавацца. Месца наўкол было амаль голае, і паратунак заставаўся адзін: гэта была медзіна, гістарычная частка гарадка, і я залез у магільны склеп марабута, мусульманскага святога. Мсціўцу і ў галаву прыйсці не магло, што я асмеліўся туды забрацца. Апаганіць месца апошняга прытулку святога — значыць, накласці праклянцце на ўвесь свой род, а самому загінуць ад рукі ўзрушанага духа страшэннай смерцю: жахлівыя яе пакуты горшыя нават за тыя выпрабаванні, што чакалі мяне ў пекле. Два дні раз'юшаны ахагар з перавязанай наспех ім самім галавою цягаўся па медзіне, нават ноччу не дазволіў сабе ні разу прысесці, а я адно назіраў за ім... Боль у ранах і смага былі такія невыносныя, што я хацеў ужо быў выпаўзці са склепа, каб ахагар прыкончыў мяне, ды не змог: не хапіла сілы, столькі страціў крыві. Урэшце французскі патруль, які праходзіў непадалёк,— пакуль я адлежваўся ў склепе, французы зноў захапілі Амгід,— затрымаў ахагара і, паколькі той супраціўляўся, прыстрэліў яго на месцы. Тады я, сабраўшы ўсе свае сілы, выбраўся ўрэшце са склепа. Паспеўшы адно расказаць, хто я і чаму тут, адразу ж страціў прытомнасць. Ачуўся ў ваенным лазарэце. І тут мне зноў, у каторы раз, пашчасціла. У Амгід забраліся два дзівакі-ангельцы, этнографы — для іх вайны ўсё роўна як і не было — і, выпадкова сустрэўшы мяне ў лазарэце, амаль ужо здаровага, узялі ў сваю кампанію. Так я зноў стаў тлумачом. Я праехаў разам з імі да

Форт-Лальмана — і даволі шчасліва... Але ў самым ужо канцы падарожжа нас абстралялі французы, прыняўшы за муджахідаў. Мне прастрэлілі нагу, а ангельцам — галовы... І я зноў застаўся ў пустэльні адзін, цяпер ужо ранены і амаль без правізіі і вады... Але да Форт-Лальмана было рукою падаць, і я поўз, упэўнены, што выжыву і на гэты раз. Нашто — не думаў. Жыццём я ўжо зусім не даражыў і не ведаў, чаму за яго чапляўся: гэта быў, відаць, звычайны інстынкт самазахавання, калі проста не хочацца гінуць — вось і ўсё. Ды пад самым амаль ужо горадам — трэба ж было! — трапіў у буру. Туарэгі кажуць, што ў Сахары болей людзей патанула, чым памерла ад смагі: пясок у буру — што тая багна, а часам у пустэльні праходзяць страшэнныя ліўні, якія ўмомант запаўняюць вадою нават і глыбокія ўпадзіны. Дык вось: толькі я выпаўз з адной такой упадзіны — хлынуў лівень. Туарэгі, што падабралі мяне, адразу ж прызналі, што я пазначаны боскай рукою: тры ж смерці падмануў — выжыў адзін у пустэльні і не даў праглынуць сябе ні буры, ні ліўню... Ну, а я ўжо вяртаўся да ўзбярэжжа ў іншым гуморы: пасля ўсіх выпрабаванняў, якія выпалі на маю долю, здалося, што лёс нездарма дарue мне так упарта жыццё ў самых безнадзейных выпадках. Нават піць ужо не цягнула: адвык. Не скажу, што ішоў к якойсьці вялікай мэтай, але і... хацелася нечага. Ну, а поўнач выбраў міжволі, тут яна для еўрапейца заўсёды галоўны арыенцір. Словам, ніякіх канкрэтных планаў не меў. У дарозе расходаваў патроху тыя грошы, што засталіся ад ангельцаў. Хапіла іх да Цімгада. І вось тут мяне заангажавалі раптам на месца гіда. Дазналіся, што я не толькі валодаю мовамі, але і ведаю, як юрыст па адукацыі, гісторыю Рыма. Я згадзіўся: трэба ж было хоць неяк уладкоўвацца ўрэшце ў жыцці...

На апошніх словах Краеўскі самотна паглядзеў на

мяне, і што толькі не пачулася мне ў гэтым «уладкоўваўца»...

— Спачатку я нават меў нейкую сатысфакцыю. Цікава было корпацца ў кнігах, карцела пра ўсё даведацца. Удзень я вадзіў турыстаў па гэтых вось вуліцах, а ўвечар чытаў манаграфіі пра Цімгад і рымскую Паўночную Афрыку ўвогуле, якія толькі мог адшукаць. Я мог бы напісаць дысертацыю, столькі сустрэў у кнігах памылак і недакладнасцей. Адзін час пачаў нават... пісаць... Не, прабачце, нешта не тое я ўсё кажу, не тое...

— Расказвайце,— ціха папрасіў я яго.

— Тут мне стала лягчэй, спакайней: я ўсё адно як заблытаўся ў часе, забыўся на ўсё, што са мною здарылася, на ўсё, што... што было мне патрэбна раней... Я яе напісаў... амаль напісаў... гэтую дысертацыю... Ды толькі ў чым можа знайсці спакой такі чалавек, як я?.. Не,— злавіў ён мой позірк,— я не стаў яе паліць... Гэта была ўсё-такі праца... нешта, магчыма, патрэбнае людзям... Я аддаў яе аднаму даследчыку, што прыязджаў сюды. Мусіць, ён як-небудзь выкарыстаў яе... Вы, пэўна,— зноў ускінуў ён на мяне свае сумныя вочы,— дрэнна мяне разумееце... Я мог бы гаварыць з вамі па-французску, і думкі мае былі б для вас яснейшыя... Але... але я хачу гаварыць з вамі на... *роднай* мове... Вы мяне разумееце?..

Ды калі ўжо гаварыць пра яго мову, то цяпер я быў толькі здзіўлены тым, як можа забыцца гэты *цуд* — родная мова і як можа яна аднавіцца ў вуснах чалавека праз дзесяцігоддзі маўчання... Цяпер гаворка Краеўскага была ці не зусім чыстая.

— Дык вось... Я гадзінамі мог расказваць пра любы з кварталаў. Але толькі што ім, турыстам, Каракала ці Траян, першае стагоддзе альбо пятае, калі кожны другі рвецца адно паглядзець на фрэску з Дома Гермафрадыта... Не ведаю, што мне трэба, але раптам

абрыдла дзень пры дні, нібыта я завадны механізм, расказваць пра гэтую фрэску, паўтараць адны і тыя ж завучаныя фразы пра водаправод, што захаваўся да нашага часу, пра акустыку амфітэатра, якой дамогся антычны дойлід і якой пазайздросціць сёння любы архітэктар... Толькі такое і цікавіць яшчэ звычайна наведнікаў... Я звольніўся і стаў прадаваць манеты — тут іх, хто хацеў, мог нядаўна яшчэ знайсці, трэба толькі было пашукаць як след. Заробак, вядома, не вельмі багаты — вось калі б я прадаваў рымскую парнаграфію! — і манеты апошнім часам купляюць усё радзей, лепш ужо возьмуць учарашнюю падробку, бо каштуе ўдвая менш дый прыгажэйшая нават! А ўсё ж жыць неяк можна... Затое я магу спакойна сядзець і думаць. Праўда, часам я быццам губляю сябе і, гледзячы на такіх, як я, гандляроў, поруч з якімі сяджу тут, пачынаю таксама... прасіць, мармытаць... Гэта, калі... калі сонца пячэ і ўжо не згадваеш... што з табою... і дзе ты... Тады неяк усё роўна... нібы цябе і няма... Нібы ўсё гэта сон...

Ён глядзеў кудысь удалячынь — быццам і напраўду не было яго тут...

— Ды і бог з тым, як я зарабляю — хіба ж гэта галоўнае?.. У чым можа знайсці спакой такі чалавек, як я?.. Чытаў дзесьці... Кіруючыся на чужыну, мае землякі, шануючы звычай продкаў, бралі з сабою жменьку роднай зямлі і... засыпаўшы яе ў маленечкі мяшочак... вешалі на грудзях... Бо калі выпадзе лёс сканаць не на бацькаўшчыне, дык хоць грэшныя косці супакояцца разам з роднай зямелькаю... А ў мяне... і гэтага не будзе...— задрыжэў у старога голас.

З Сахары падзьмуў гарачы «шэхіль» — паўднёвы вецер. Спякота была невыносная.

Краеўскі раптам спыніўся і, заплюшчыўшы вочы, ціха-ціха спытаўся:

— Як там цяпер... у Наваградку?..

Я расказаў яму ўсё, што мог прыгадаць пра горад, які наведваў колькі гадоў таму...

— Я часта бачу яго ў снах... Наваградак,— прашаптаў стары і адвярнуўся.

Я сціскаў у далоні манету з надпісам, сэнс якога зразумеў да канца толькі цяпер: «Vita brevis, patria eterna». («Жыццё — кароткае, радзіма — вечная»).

Плечы ў Краеўскага ўздрыгвалі.

Наш рафік каціў па пракладзенай праз пустэльню магістралі. Паабапал аўтастрады ляжала выпаленая амаль дашчэнту зямля, пакрытая скрозь каменьчыкамі, з-пад якіх, аднак, прабіваліся дзе-нідзе калючкі.

Я стаў думаць пра тое, як апісаць хараство Сахары ў кароткім апавяданні.

Яна можа быць такая ж прыгожая, як і наш лес, варта адно ўгледзецца ў яе, хоць і цяжка паверыць у гэта чалавеку, што ніколі не быў у ёй. Хараство яе, можа, і прасцейшае, толькі не менш велічнае: ёсць у ім свая непаўторная вытанчанасць.

Сахара — гэта не адзін пясок.

Пясчаныя моры, эргі, як называюць іх,— маленькая частка вялікай пустэльні. Сахара — гэта і суровыя, бясконцыя раўніны, скрозь пакрытыя каменнем — рэшткамі скал, якія даўно ўжо выпетрыў моцны і жорсткі вецер, празваны туарэгамі ўладаром пустэльні... Гэта і змрочныя плато, што велічна ўзвышаюцца над тымі раўнінамі, нібы гіганцкія прыступкі да высачэзных гор, якія часта збіраюцца тут у сапраўдныя каменныя лясы, казачныя гарады з купкамі дрэваў, вежамі, мастамі, палацамі, даўжэзнымі караванамі, з бедуінамі, што ўзлятаюць у неба з сядла... А то раптам статкі антылоп чамусьці кідаюцца ўздагонку паляўнічым, то ўсе наўкол, і людзі, і жывёла, і нават скрыўленыя ў імклівым парыве масты, палацы і вежы пускаюцца ў шалёныя скокі. Далучаюцца да іх і пры-

віды, не падобныя ні на што знаёмае нам,— якія толькі вывявы ні сустрэнеш на дарогах валадара, то выкшталцонага разьбяра, то проста вар'ята... Нездарма ж першыя арабы, што траплялі ў глыб Сахары, прымалі гэтыя цуды прыроды за д'яблавы гарады і сады...

Хвалі Сахары пясчанай асабліва прыгожыя ўвечар, калі дагарае захад: пустэльня паглядная ўжо толькі сваёй бясконцасцю, а жоўта-чырвоныя промні сонца, што ласкава-стомлена падаюць на яе, ствараюць дзівосныя адценні, якімі пачынае высвечвацца пясок — нібыта мяняючы строі, ён то сляпіць вочы, то вабіць іх ціхім сваім спакоем...

Здзіўляе Сахара, калі пасярод велізарнага мора пяску ўзнікае раптам адна-адзінюткая стромкая пальма. І здавалася б, бог яго ведае, як апынулася тут гэтае дрэўца, чым жыве-корміцца. Ды няма тут нічога звышнатуральнага: мусіць, ёсць непадалёку крынічка...

А то нават і праз некалькі дзён пасля дажджу могуць з'явіцца дзівосна пяшчотныя кветкі — іерыхонскія ружы...

Многія еўрапейцы сцвярджалі, што небагата бачылі ў жыцці карцін гэткіх жа пекных і незабыўных, як, напрыклад, звычайныя тэлеграфныя слупы, ледзь не да самага верху занесеныя шэрым пяском,— у шэрым святле сахарскіх прыцемкаў... Неверагодна — ды так. Пэўна, у гэтым ёсць свая *таямніца*?..

І таму не будзе нічога дзіўнага ў тым, калі які-небудзь туарэг, што ніколі не выходзіў за межы свайго амаль безжыццёвага плато, убачыўшы наш лес, прыгадае ўсхвалявана родныя мясціны, як ні здзівіцца цуду чужой прыроды...

І, мусіць, таямніца любай туарэгу прыгажосці будзе яшчэ і ў тым, што ніяк не аднімеш у яго вачах ад звычайнае роўнядзі каменьчыкаў гэтую найвялікшую пагляднасць — хараство *роднага*...

Я прыгадаў Краеўскага і зразумеў раптам шчым-

ліва ясна, што і заўтра, і паслязаўтра, і заўсёды ўжо да скону сваіх дзён той будзе бачыць у снах Навагрудак, а ў жыцці — посцілку на бетоне, да якой звялося яго існаванне ў краі, такім дарагім для тых, сярод каго ён жыў, побач з кім сядзеў у гандлярным радзе...

Праз тры месяцы мы вярнуліся ў Анабу.

Паляцела дадому адна партыя, на змену ёй прыслалі іншую, большую. Стала не хапаць кватэр, і мы былі вымушаны выправіцца на пошукі свабоднага жылля. Дзень за днём мы кружлялі па вузенькіх вулках прыватных кварталаў: вілы, вілы, вілы...

Гэтая была цудоўная: на скалістым узгорку каля самага мора, з цяністымі тэрасамі, ружоўнікам, рупліва дагледжанымі газонамі. І гаворкі быць не магло пра тое, каб паспрабаваць зняць на ёй хоць адзін пакойчык: мы прадчувалі цану, якую мог заламаць за яе ўладальнік, і проста спыніліся троху перадыхнуць, палюбавацца пекным відам на мора. Але гаспадар, прыкмеціўшы нас на вуліцы, выйшаў на двор і, даведаўшыся, у чым справа, запрасіў да сябе. Наўрад ці ён быў араб. Я зразумеў гэта адразу ж па яго блакітных вачах і бездакорным французскім вымаўленні.

У самой віле было не горш: мармур, мазаіка, раскошная еўрапейская мэбля, персідскія дываны... Карціна на сцяне хутчэй за ўсё была арыгіналам.

— Сіслей? — спытаўся я.

— Але,— задаволена адказаў гаспадар і гучна камусь паклікаў: — Жэнэўева!

У гасцёўню ўвайшла гаспадыня, маладая яшчэ жанчына, прыгожая, статная, таксама, мусіць, француженка. Нахіліўшы пачціва галаву, яна прывабна ўсміхнулася.

— У нас госці, дарагая. Скажы Фаціме, калі ласка, каб сабрала што-небудзь хуценька.

— Дзякую, мы спяшаемся,— пачаў быў я, але гаспадар спыніў мяне выразным жэстам.

— Часу заўсёды так мала — і так шмат. Нам, еўрапейцам, не так ужо часта выпадае тут сустракацца. Сядайце, будзьце як дома. Ведаеце, рэдкі госць можа вось так адразу,— задаволена ўсміхнуўся ён,— сказаць, што гэта — Сіслей... Гэты пейзаж — наша найвялікшая каштоўнасць. Але ён у нас не адзіны. Прашу вас,— гаспадар ветліва запрасіў мяне з таварышам падняцца наверх.

Мы абышлі ўсе пакоі гэтай шыкоўнай двухпавярховай вілы, і ў кожным была карціна якога-небудзь французскага мастака, іншы раз даволі вядомага.

— Мясцовых майстроў не маеце? — спытаўся я.

— Майстроў? — паблажліва ўсміхнуўся гаспадар.— Ну што вы? Іх, так сказаць, жывапіс знаходзіцца яшчэ на прымітыўным узроўні. І доўга яшчэ, мяркую, будзе на ім заставацца.

— Я быў днямі на выставе ў горадзе і бачыў адмысловыя карціны,— запярэчыў зноў я, але гаспадар перапыніў мяне.

— Магчыма,— змерыў ён нас позіркам,— але ўсё роўна я выпішу лепш работу з метраполіі, чаго б мне гэта ні каштавала.

Францыя ўсё яшчэ была для яго метраполіяй.

— Гэта калі гаварыць пра сучасных мастакоў,— дадаў ён.— Што ж датычыць старых, то дзед Жэнэўевы — а большая частка калекцыі — ягоная спадчына — не збіраў абы-што. Дарэчы, адкуль вы?

— З Савецкага Саюза,— адказаў я.

— Ого!.. Вельмі прыемна... Гэта будзе сюрпрыз для Жэнэўевы.

Мы вярнуліся ў гасцёўню. Паміж адмысловымі фатэлямі, у якіх мы неўзабаве літаральна патанулі, стаяў бар-вазок з рознымі напоямі і закускаю. Кінуліся ў

вочы рэдкай прыгажосці фужэры: крышталь быў відавочна антыкварны.

Гаспадыня сядзела крыху ўбаку, на канапе, і, як толькі мы ўвайшлі, зноў пачціва, але ўсё-такі штучна ўсміхнулася.

— Жэнэўева, ты чула: нашы госці — рускія!

— Вось як? Я ж таксама нейкім чынам руская. Па дзеду,— сказала яна [redacted] усё той жа ўсмешкаю, да якой не дадалося, бадай, нічога.

— Каньяк, віскі? — спытаўся гаспадар.

— Дзякуй, але мы па чарзе сядаем за руль,— адмовіўся я.

— Шкада,— развёў рукамі гаспадар.— Будзем тады піць кока-колу. Яна ў мяне сапраўдная, з Марселя. Не раўня тутэйшай бурдзе.

— Генуэзскае шкло,— звярнула гаспадыня ўвагу на тое, што мы міжволі любаваліся фужэрамі.

— У нас яшчэ ёсць калекцыі венецыянскага, і бардоскага, і багемскага,— дадаў гаспадар ганарліва.— Са збору графа Міхайлава.

— Дзед і граф сябравалі,— стала расказваць жонка.— Дарэчы, граф пахаваны ў нашым гарадскім саборы: ён ахвяраваў вялікія грошы на яго ўтрыманне. Згадзіцеся, гэта немалы гонар — быць пахаваным у Бонскім саборы, храме, дзе захоўваюцца мошчы святога Аўгусціна. Вы ж, пэўна, ведаеце: ён быў тут біскупам, менавіта ў гэтым краі закладзены ім падмурак хрысціянскай тэалогіі.

— Так, васпане,— уздыхнуў, зірнуўшы на мяне, муж,— калісьці гэтыя мясціны, наш такі непрыкметны, на жаль, сёння Бон былі ўладаннем вялікага Рыма...

— Дзеда таксама маглі б пахаваць у саборы, але ён застаўся артадоксам,— сумна ўсміхнулася гаспадыня.— Я-то ўжо каталічка. Думаю, не пакрыўджу вас,

калі скажу, што каталіцкае веравызнанне больш цывілізаванае.

Я не стаў ёй пярэчыць: чакаў, што яна скажа далей.

— Дзеда пахавалі на гарадскіх еўрапейскіх могілках, але магіла яго, помнік на ёй — тут таксама адна з прыкметных выдатнасцей. Мы не шкадавалі грошай на ўшанаванне яго памяці. Што ні кажы, а ён быў генеральным пракурорам усёй акругі...

Сумнявацца больш не прыходзілася.

«Дык вось адкуль твае блакітныя вочы, «француз»,— падумаў я, гледзячы на гаспадара.— Такія тут бываюць хіба што ў кабілаў...»

— А ваш бацька? — спытаўся я раптам.

— Бацька,— крыху сумелася гаспадыня,— таксама быў паважаным у Боне чалавекам, юрыстам з рэнамэ, але, на жаль,— узняла яна фужэр на святло і, прыплюшчыўшы вочы, паглядзела, як іскрыцца напітак,— заўчасная смерць...

— Ён, прабачце, таксама пахаваны на гарадскіх могілках?

— Не,— стрымана адказала яна, здзіўлена зірнуўшы на мяне.— Ён загінуў у Сахары, у час судовага расследавання.

— Дазвольце,— сказаў я і прайшоў да кніжнае шафы.

Рабле, Паскаль, Вальтэр... Міцкевіч?.. Славацкі, Сыракомля... Абдзіраловіч... «Беларускі каляндар»...

— Прабачце, адкуль у вас гэтыя кнігі? — павярнуўся я да гаспадароў.

— Ад бацькі,— з найгранай абыякавасцю адказала гаспадыня.— Ён таксама быў ці то рускі, ці то паляк — я дакладна не ведаю.

Акторка яна была ўсё ж неблагая, а гаспадар ужо крыху замітусіўся.

— А ваш чалавек, напэўна, француз? — спытаўся я, пільна гледзячы ў вочы кабілу.

— О, вядома! — адказалі яны ў адзін голас.

Але кабіл быў прыкметна разгублены: я збіў яго з панталыку амаль няўлоўным тонам, з якім задаў раптам пытанне — уяўляю, наколькі яму непрыемнае.

— Нарадзіўся Рабэр тут,— падаспела на выручку жонка,— у сям'і даўніх перасяленцаў.

— Адкуль яны пераехалі? — зноў нічым сябе не выдаючы, спакойна спытаў я.

— Як адкуль? — збянтэжылася, ледзь прыкметна пачырванеўшы, гаспадыня.— Ведама ж, з Францыі! Там у яго і цяпер застаецца шматлікая радня, мы падтрымліваем з ёю рэгулярныя сувязі. Штогод ездзім да ўсіх у госці.

— У Нант, Ніццу, Парыж,— запэўніў гаспадар.

— Дый тут не забываемся, хто мы,— паглядзела на яго жонка.— У нас шмат сяброў у французскай суполцы, сам консул выдатна ведае нас. Мы, французы, увогуле трымаемся тут адно аднаго — інакш нельга.

— У вашага бацькі быў някепскі густ,— сказаў я, зноў павярнуўшыся да кніжнае шафы.

— Мажліва... Тут я вам нічога не магу сказаць. Дзед яшчэ крыху спрабаваў вучыць нас гаварыць па-свойму, а ўжо бацьку гэта рабіць маці не дазваляла. Загаворваў, праўда, калі-нікалі, я памятаю... Толькі нашто гэта нам? Маці ўвогуле была супраць, каб я ведала штось пра сваё паходжанне. «Мы — французы,— заўсёды казала яна,— і Францыя — наша радзіма...»

— А дзе яна цяпер, прабачце? — зноў збянтэжыў я гаспадароў.— Ваша маці.

— О,— змушана засмяялася жонка, а ўслед за ёю заўсміхаўся і муж,— наша старэнькая энтузіястачка па-ранейшаму перапоўненая энергіяй. Сёння яна ў французскім клубе, праводзіць з дзецьмі каланістаў

заняткі па роднай мове. Сама стварыла гэты факультатыў і аддае яму ўсё, што можа.

— Скажыце, а ці мог бы я купіць у вас гэтыя кнігі? — паказаў я на беларускія выданні.

— Вы думаеце, яны такія цікавыя?

— Мне здаецца, што так. Ці яны дарагія вам як памяць пра бацьку?

— Пакажыце мне іх,— быццам бы абыякава адказала дачка Краеўскага. Але ў голасе ў яе пачуўся холад.

Я выбраў кнігі і паклаў перад ёю.

— Я дару іх вам,— сказала яна, пагартаўшы дзеля прыліку некаторыя кніг. Цяпер абыякавасць у яе на твары была самая што ні ёсць сапраўдная.

— Я не магу так, мадам,— адказаў я.— Я заплачу столькі, колькі яны могуць каштаваць у нас.

— Добра. Хоць яны і не маюць для нас каштоўнасці, мы возьмем грошы, раз вы лічыце, што так будзе лепш.

Разлічыўшыся, я дадаў:

— Але вы, мадам, былі такія велікадушныя, уступіўшы мне гэтыя кнігі, што я не магу абмежавацца аднымі грашыма. Дазвольце мне зрабіць вам падарунак. Ведаеце, я прывёз з Цімгада сапраўдны рымскі дынарый. Мне падарыў яго адзін беларус, якога лёс закінуў туды. Ёсць такі народ — *беларусы*. Думаю, ваш бацька якраз беларусам і быў.— Я паглядзеў на манету.— Гэта не падробка, паверце! Вазьміце на памяць.

— Дзякую, мсье,— паважна адказала гаспадыня і, узяўшы дынарый, прачытала надпіс на ім.

Твар у яе скамянеў, але ўсё ж такі яна змаўчала. Збіралася была нешта сказаць, ды, відаць, перадумала. На змену халоднай адкрытасці прыйшла штучная ўсмешка — толькі цяпер ужо безнадзейна фальшывая.

І ўсё ж такі мне было шкада яе: скрозь маску прабіваліся стомленасць і непрытульнасць.

Падзякаваўшы гаспадарам за гасціннасць, мы развіталіся з імі і выйшлі.

Праз месяц мы зноў праязджалі праз Цімгад. Я шукаў Краеўскага, каб перадаць яму кнігі, але таго нідзе не было. Урэшце гандляр, якога я распытаў, паведаміў мне, што тыдзень назад чужынец памёр. Не ведаючы хрысціянскага абраду, арабы пахавалі яго па мясцовым звычаі.

## Вяртанне

Там хоць у гліне,
хоць у брудзе,
Там, пад зямлёй,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.

М. Багдановіч

Максім ціха, на дыбачках, увайшоў у бацькаў кабінет. Цішыня ў доме была, нібы ноччу. Каб нічым не выдаць сябе, ён нават затаіў дыханне. Але ўсё ж зачапіў нагою крэсла — і, спалохаўшыся, што яго пачуюць, прыкусіў язык. Пераканаўся, што ўсё абышлося добра, з палёгкаю ўздыхнуў. І адразу ж усміхнуўся: прыгадалася, як год назад, калі яны толькі яшчэ пераехалі ў Ніжні Ноўгарад, ён, дурэючы, адкусіў сабе кончык языка. І тут зразумеў раптам, што, пасля таго, як крэсла ўпала, ён так і застаўся стаяць на адной назе, усё адно як бусел на малюнку ў кніжцы. Гэта развесяліла яго, і, хоць ад страху ў грудзях троху яшчэ халадзела, ён прыкрыў рот рукою, каб не засмяяцца.

Ён хацеў паглядзець на *тыя* кнігі.

Спакуса гэтая з'явілася даўно: яны жылі яшчэ ў Гродне, і мама была жывая...

Ён агледзеўся. Ступіў яшчэ колькі крокаў і стаў ціхенька красціся ўздоўж кніжных шафаў.

Вось *яны*! Спыніўшыся, ён замёр. Праз шкло на яго пазіралі залачоныя пераплёты важных, тоўстых тамоў. Сярод іх сціпла затаіліся тоненькія брашуры.

Максім паволі заварушыў вуснамі, чытаючы дзіўныя назвы:

«Словарь белорусского наречия, составленный И. И. Носовичем».

«П. Шейн. Материалы...»

Максім задумаўся: матэрыялы — што за яны?..

«А. Е. Богданович. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов».

Хто гэта — «А. Е. Богданович»?

Ён зноў прыкрыў рукою рот, каб не засмяяцца: гэта ж яго бацька!

Азірнуўшыся, ён асцярожна зняў кручок. Шкляныя дзверцы ціха падаліся, і ў твар яму дыхнуў дзівосны кніжны пах.

Якую ўзяць?

Хацелася і тую, і тую, і тую, але найперш бацькаву, хоць і была яна ў простым пераплёце, не зіхацела прынаднаю пазалотаю. Але, узняўшыся, колькі мог, на дыбачках, дацягнуўся толькі да «Материалов» — бацькава кніга стаяла надта высока.

Ад хвалявання не стала чым дыхаць. Толькі б не ўвайшоў бацька! Кніга была цяжкая, і ў Максіма дрыжалі рукі. Ён прыкрыў дзверцы і, каб не адыходзіць далёка, прысеў на падлозе, паміж шафаю і сталом: калі што, можна будзе лёгка схавацца. Разгарнуўшы кнігу, зноў нягучна заварушыў вуснамі:

«Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Быт и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях».

Беларуса... А хто гэта — беларус?.. Мусіць, беларусамі называюць людзей, што жывуць там, у Паўночна-Заходнім краі — там, дзе колісь жылі і яны... Значыць, і ён, Максім,— таксама беларус, раз нарадзіўся там?..

Ён стаў гартаць кнігу, шукаючы малюнкі. Не знайшоўшы іх, спыніўся нарэшце на адной са старонак і пачаў чытаць:

«Мы нічога не прадаём! — кажа гаспадар.— Гаспадарка ў нас не надта якая — нічога на продаж няма».

Пры гэтым гаспадар раіць «купцам» ехаць да іншых людзей (называе суседзяў, што маюць дарослых дачок). Сваты адказваюць, што ноч цёмная, што яны могуць з дарогі збіцца. Акром таго — яны нямала прайшлі ўжо,— стаміліся і зглададаліся. «Пусціце хоць

пераначаваць»,— просяць. Гаспадар адказвае, што хата ў яго цесная, да таго ж, ёсць ужо ў яго начлежнікі. Сваты свайго дамагаюцца: месца ім трэба няшмат, народ яны непераборлівы, улягуцца і на падлозе.

Гаспадар гоніць іх прэч і кажа, што ён нават сумняваецца, ці няма тут якога падману, ці купцы яны на самай справе. «Вы — разбойнікі!» — крычыць ён нарэшце ўпэўнена».

Максім чытаў, забыўшыся на ўсё,— усмешка не сыходзіла з яго пачырванелага твару.

Але ў калідоры скрыпнулі раптам дзверы, і, загарнуўшы ад страху кнігу, ён стаў напружана прыслухоўвацца. Нікога...

Зноў разгарнуў наўздагад кнігу.

«Цяжка ўявіць, як бясстрашна і пакорліва сустракае смерць беларускі селянін! За рэдкімі выключэннямі, ён робіць свае вусныя тастаменты з надзвычайнай падрабязнасцю, не будуць ім забытыя не толькі ўсе родныя, іх далейшае жыццё да апошняй, найдрабнейшай акалічнасці, знаёмыя і сябры, з якімі ён спяшаецца развітацца на смяротным ложы, але і ўказаны будуць варункі і ўвесь парадак яго захавання. Так можа сустракаць смерць адна толькі высокая хрысціянская душа!

Я не здзіўлю вас тым, што беларус сярэдніх гадоў, асабліва жанчына, прызапашвае на смерць кашулю, якую яна беражна захоўвае ў сваім кублe, разглядвае яе ў вольны час і размаўляе з ёю, будучаю спадарожніцаю ў вечнае жыццё: гэта ў нас вядома ці не кожнаму. У дзяцінстве я сустракаў такіх старых, у якіх падрыхтавана было для смяротнага часу «дамаўё» (труна), што звычайна захоўвалася ў клеці; памятаю, што гэтыя старыя паказвалі сваё «дамаўё» мне і бацьку майму, як нешта святое; стаялі перад ім без шапак».

Было страшна, але Максім не мог адарвацца.

«Калі ж нябожчык быў чараўнік, то пасля смерці ён з'яўляецца ў выглядзе самых нячыстых жывёл, накшталт кошкі, мышы ці кажана і іншых, і нават сканание такога чалавека адбываецца самым жахлівым парадкам: з яго чэрава ці рота выбягае кошка, або мыш ці якая іншая жывёліна... У момант смерці чараўніка разам правіцца дванаццаць чортавых вяселляў, дзеля святкавання якіх губіцца дванаццаць нявінных душ. Для таго каб чараўнік не мог пасля сваёй смерці шкодзіць добрым людзям, трэба ўбіць у яго магілу асінавы кол...

Калі цела пакладзена на кутняе месца, у хаце адразу ж выбіваюць вушак, а за акно, перад якім знаходзіцца нябожчык, перавешваецца ручнік, з аднаго боку, як знак жалобы, а з другога — для патрэб нябожчыка, які часам, як вераць нашы сяляне, вяртаецца ў пакінутую ім хату».

Маці... Максім ізноў прыгадаў маці...

Яна ляжала ў труне, рукі былі складзены на грудзях. Гарэлі свечкі. Адна з іх пачала раптам гарэць хутчэй за іншыя, задрыжэла і неўзабаве згасла, за ёю — яшчэ адна, маленькая, гэтаксама хутка... Максім падаўся назад і засланіў твар рукою...

У той дзень ён прачнуўся вельмі рана, радасны, весела бегаў з пакоя ў пакой, смяяўся, але раптам да яго падышоў бацька, узяў за плячо і загадаў сесці. Твар у бацькі быў нейкі нядобры, і Максіму стала трывожна... Пасля да іх прыйшоў высокі худы чалавек у пенснэ і з невялічкай валізкаю — ён прыходзіў і раней, калі ў мамы з горла ішла кроў. За ім заявіўся бацюшка — Максім яшчэ ні разу не бачыў яго ў доме. «Чаму ён тут?» — падумаў Максім, гледзячы ўслед яго доўгай расе, але з крэсла не злез — так і праседзеў на ім усю тую раніцу, быццам прывязаны...

Забыўшыся на кніжку, Максім плакаў.

— Максім, што ты?

У кабінет хуткімі крокамі ўвайшоў бацька.

Ці не з таго дня бацька дазволіў Максіму карыстацца ягонай бібліятэкаю...

Максім гадзінамі чытаў кнігі па беларускай этнаграфіі — адарвацца было немагчыма.

Ён любіў разгортваць наўздагад «Словарь белорусского наречия» і выбіраць словы, якія былі яму найбольш даспадобы, кранаді яго сваёй мілагучнасцю і нейкай загадкаю, што таілася ў іх...

«...Абгалочаны... аблашчаны... аблыжны... абмерлы... абмінуты... абражаны... абраснелы... абсцёбаны... абуджаны... абхвостаны... абшлоганы... абязвечаны...»

Адны з іх былі светлыя, цёплыя — як ён іх ні прамаўляў, сам сабе ці ўголас, яны ўсё роўна здаваліся прыгожымі і лёгкімі, быццам [redacted] паветра былі сатканыя — усё роўна як ноты [redacted] аркуша, што дзівоснымі гукамі ўзлятаюць з-пад пальцаў чараўніка-піяніста, які прыходзіў да бацькі калі-нікалі вечарамі...

Іншыя ж — нейкія горкія... Чаму так шмат іх у гэтай мове — такіх?.. Мусіць, людзі *там* і абгалочаныя, і абмінутыя, і абражаныя...

Чаму і калі абмінуў бог гэтых людзей?.. І хто — і калі — абудзіць іх?..

«...Абыклы... агрублы... агрэлы... адлеглы...» *Адлеглы*... «Адлеглыя ад царквы вёскі».

Максім глядзеў кудысь удалячынь... Здавалася, быў ён ужо недзе ў полі, нібыта і не было вакол яго ніякіх сцен,— і бачыў і вёску, і царкву на пагорку, і *тых* людзей... Прыгожае слова — *адлеглы*, думаў ён, з асалодаю зноў і зноў яго паўтараючы. Таксама лёгкае, такое, што, здаецца, знікне зараз, быццам сатрэцца — усё роўна амаль і няма яго, гэтага слова...

Дзе яна — адлеглая *тая* зямля?.. Хораша, мусіць, там у полі, асабліва ўвечары, калі дагарае захад... І хаты адлеглыя з пагорка відаць: маленькія, усё адно як цацачныя... Бацька кажа, што дамы там інакшыя, чым тут...

Калі ён убачыць тыя дамы? Бацька, колькі Максім ні прасіў, не абяцае нічога... А навошта ён адтуль паехаў? Там жа так хораша... Маці памерла?.. Дык хто ж цяпер даглядае яе магілу?..

Максіму цяжка было зразумець, чаму бацька перабраўся сюды, у Расію. Няпраўда: з-за таго, што памерла мама, не трэба было пераязджаць. Наадварот, трэба было там застацца — каб быць каля мамы...

Нічога, ён сам паедзе туды, як скончыць гімназію!

З гэтаю думкаю яму рабілася лягчэй. Вось толькі кашаль пачынаў мучыць. Ён і чытаць прызвычаіўся лежачы на канапе — як спрабаваў седзячы, дык балелі грудзі і хутка стамляўся. Бацька кажа, што ў іх, Багдановічаў, ва ўсіх хворыя грудзі, што ім трэба ездзіць адпачываць адно ў Стары Крым: там паветра сухое. А яму хочацца на Беларусь... Лепей бы бацька туды яго звазіў, да цёткі: там бы ў яго ўсё прайшло, ён ведае...

Максім зноў гартаў слоўнік.

«...Асмяглы... асаблівы... асачоны... аспалы... асталы... астатні... астыглы...»

Словы зачароўвалі яго, пачыналі кружляць перад ім у бясконцым сваім карагодзе — Максім бачыў іх так, нібыта яны былі жывыя... У кожнага слова быў свой вобраз, сваё аблічча — іх можна было маляваць, надаючы і пэўныя рысы, і колер... Не, колераў не хапала, так шмат было ў іх розных зусім не падобных адно на адно адценняў — светлых, густых, чыстых, празрыстых, змрочных, пяшчотных, гарачых, сцюдзёных... Словы можна было перадаць і нейкімі іншымі гукамі, не толькі тымі, што абазначаліся скупымі літарамі,—

хіба ж не была ў кожным слове свая таямніца, свая музыка?..

Шкада вось толькі, што ён не ведае нот, а то запісаў бы мелодыю гэтых слоў і папрасіў таго дзядзьку-піяніста сыграць яе. Не, ён сыграў бы сам, навучыўся б! Толькі вось трэба яшчэ вучыцца, а мелодыя так і просіцца!

Нічога, ён напіша вершы! Але, ён сядзе і напіша зараз вершы!

Ён напіша іх так, каб хапіла яму гукаў, што абазначаны літарамі! Трэба адно ўкласці ў тыя гукі ўсё, што адчуваеш, чым поўніцца сэрца...

Ён напіша іх пра тую пекную, адлеглую зямлю, дзе ён нарадзіўся і дзе нарадзілася і памерла яго маці, пра тых абражаных і абмінутых людзей, сярод якіх яны самі некалі жылі і ад якіх чамусьці паехалі...

І напіша іх па-беларуску...

Але, ён напіша іх на сваёй *роднай* мове!

Па слоўніку вывучаў Максім мову сваіх продкаў.

І, амаль і не чуўшы беларускага слова, памятаючы яго троху хіба што з цьмяных успамінаў з далёкага, ранняга зусім маленства, калі ў ім толькі яшчэ пачынаў прачынацца чалавек, чуў Максім яе мелодыю — чароўную мелодыю мовы маці, мовы ягоных дзядоў і прадзедаў...

Калі здзейснілася нарэшце яго мара і ён прыехаў, скончыўшы гімназію, на родную зямлю, каб хоць на імгненне ўдыхнуць паветра яе, ён, ужо вядомы на Беларусі паэт, з цяжкасцю мог гаварыць на той самай мове, на якой былі напісаны яго цудоўныя, дзівоснае прыгажосці вершы, многія з якіх і дагэтуль застаюцца непераўзыдзенымі шэдэўрамі ў доўгім і зладжаным шэрагу тых, што былі на ёй створаны.

Ён не ўмеў расстаўляць націск — пра гэта пісалі, здзіўляючыся, ва ўспамінах. Ён не ўмеў вымаўляць як след гукі, але *адчуваў* музыку мовы лепей за многіх з тых, хто з маленства *чуў* гэтую мову штодня... Ён мог нават прозу зрабіць падобнай на верш, да краёў напоўніўшы тую мелодыяй...

«Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго гранні нуда, што аж сэрца хапала...

Плача скрыпка, льюць людзі слёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам слёзы: так і ўдарыўся б груддзю аб зямлю ды ўсё слухаў бы музыку, усё плакаў бы па сваёй долі...

А бывала яшчэ й так, што музыка быццам вырастаў у вачах людзей і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, звоніць рымка, бас, як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну і завець ён народ. І людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчалі іх вочы...»

Ці ж не такім самым музыкам вярнуўся Максім на родную Беларусь?..

За акном пачыналася навальніца, і Максім раптам бачыў, як ішла да яго маці. Яна падыходзіла да яго, усміхаючыся, з валасамі, аплеценымі стужкамі, як у нявесты на беларускім вяселлі, у вышыванай кашулі, з ручніком цераз плячо, але твар у яе быў бледны, змярцвелы, а наўкол дрыжэлі кволыя агеньчыкі свечкаў, і дзве з іх дагаралі хутчэй за іншыя: яе, матчына, і ягоная... Ён зноў засланіў твар рукамі.

— Максім, табе нельга так многа чытаць,— строга казаў, увайшоўшы ў пакой, бацька.

Максім упарта круціў галавою і ўсміхаўся.

— Можна, тата. Я знаю: можна.

Маці клікала яго да сябе. Маці-краіна.

2 Зак. 1532

І ён з усіх сваіх слабых сіл цягнуўся насустрач — да роднай зямлі.

Ён будзе цягнуцца да яе ўсё сваё кароткае жыццё.

Ні ён сам, ні бацька яго не маглі яшчэ ведаць, што наканавана яму жыць нядоўга, але жыццё вялікае пражывуць вершы, якія напіша ён, выпакутаваўшы іх у душы, што ўбірала ў сябе боль іншых людзей, як свой...

На Беларусі ён пражыве за два свае нядоўгія туды прыезды ледзь больш за паўгода, і пахаваюць яго ў зямлі, ад яе вельмі далёкай.

Але паэт Багдановіч застанецца ў сэрцы Бацькаўшчыны навечна...

А ён нават не ўпэўнены быў, што яго будуць чытаць пасля смерці які яшчэ час... Ведаў толькі, што, паміраючы, пакідае за сабою маленькую кніжачку вершаў, свой «Вянок»... І ўжо таму не лічыў сябе самотным...

Яму не было калі думаць шмат пра сябе — жыццё адмерала яму надта мала часу і надта многа душэўных сіл.

Маці родная, Маці-Краіна!
Не ўсцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Гэтыя радкі ён напіша незадоўга да развітання і з радзімаю і з жыццём... Хвароба адымала ў яго ўжо апошнія сілы, але больш, чым свой горкі лёс, хвалявала яго будучыня Беларусі...

Максім падышоў да бацькі.

— Тата, у гэтым годзе я заканчваю гімназію.

— Добра, што ты думаеш пра гэта,— адказаў бацька, падымаючы галаву ад стала.

— Прафесару Шахматаву патрэбны вучань, які мог бы ў далейшым весці ў пецярбургскім універсітэце даследаванні на кафедры беларусазнаўства, якую ён цяпер узначальвае. Ён звяртаўся ў «Нашу ніву». Газета рэкамендавала мяне.

— Вось як? — Адам Ягоравіч зазірнуў Максіму ў вочы і, склаўшы рукі за спінаю, стаў хадзіць па пакоі.— Гэта вельмі добра: значыцца, цябе шануюць.

Максім сумна ўсміхнуўся: вось яна, вышэйшая бацькава адзнака...

— Але бачыш, Максім...— спыніўся раптам бацька, шукаючы словы.— Ды ты і сам, зрэшты, павінен гэта добра разумець: тваё здароўе... Я думаю, што пецярбургскі клімат будзе табе вельмі шкодны: вечныя дажджы, сырасць, блізкасць балот... І потым, гэтыя сталоўкі... Да таго ж, я выдатна ведаю цябе: ты не знойдзеш часу і ў сталоўку забегчы. Не, Максім, я рашуча не магу згадзіцца з тым, каб ты жыў там. Гэта па-першае. Па-другое,— кінуў Адам Ягоравіч позірк на сына,— у наступным годзе гімназію заканчвае Лёва, твой брат.

Цяпер Максім ведаў усё наперад, болей можна было не гаварыць.

Бацька крочыў па пакоі.

— Ты ведаеш, у яго выдатныя матэматычныя здольнасці. А вывучаць матэматыку ў Расіі варта толькі ў Маскоўскім універсітэце: менавіта там сканцэнтравана ўся наша лепшая прафесура. Таму, Максім, улічваючы нялёгкія грашовыя абставіны, у якіх знаходзіцца наша сям'я і пра якія ты, я спадзяюся, маеш яснае ўяўленне, я зусім пэўна магу сказаць, што вашае ўтрыманне ў навучальных установах у розных гарадах, на жаль, рашуча немагчымае. Так, Максім, немагчымае, як гэта ні сумна...

Бацька з усё той жа бездакорнай логікай абгрунтоўваў сваё рашэнне, зноў казаў штосьці пра нездаро-

вы пецярбургскі клімат, пра дрэнныя абеды ў танных сталоўках і шкоду сухаядзення, але Максім нічога ўжо не чуў. Гэта быў прысуд.

— Я думаю,— скончыў Адам Ягоравіч, пільна гледзячы сыну ў вочы,— табе будзе лепш за ўсё паступіць у наш Яраслаўскі юрыдычны ліцэй і забяспечыць сабе тым самым прыстойную адукацыю і далейшае становішча ў жыцці.

І хоць Максім і любіў спрачацца, нястрымна адстойваючы свае погляды, выйшаў ён моўчкі: бацьку ў сям'і не пярэчылі. Да таго ж, ён ведаў, які будзе адказ, калі яшчэ збіраўся ўвайсці ў кабінет. Ён толькі цьмяна на штосьці спадзяваўся.

Але, гэта быў прысуд.

Усе мары, якія ён патаемна песціў, малюючы сабе ва ўяўленні далёкі Пецярбург з бурлівым жыццём у гуртках студэнтаў-беларусаў, універсітэт са знакамітым прафесарам Шахматавым, вучнем якога ён мог бы стаць неўзабаве,— усё гэта было разбурана.

Бацька ніколі не разумеў яго.

Вядома, у нечым ён мае рацыю: пецярбургскі клімат напраўду шкодны яму. Але ж ці шмат лепшы яраслаўскі? Гаворкі пра тое, каб ён мог пераехаць на сталае жыхарства ў Крым, і быць не можа: адкуль узяць грошы? А што больш пашкодзіць яго здароўю: заняткі любімай справаю ў сырым Пецярбурзе ці марнае вывучэнне юрыспрудэнцыі, да якой не хінецца душа, у «несырым» Яраслаўлі? Дактары ж цяпер толькі і кажуць, што ва ўсіх хваробах галоўнае — нервы.

Не ў клімаце справа. І не ў грошах, урэшце. Ён бы знайшоў і магчымасць і сілы даваць якія-небудзь прыватныя ўрокі, каб расходы на яго ўтрыманне ў Пецярбурзе не нашмат перавышалі тыя, што чакаюць іх у Яраслаўлі. Усё роўна ж і тут ён будзе не служыць, а вучыцца.

Бацька проста не верыць, што тое, чым ён займаецца, можа прынесці хоць нейкі плён.

Няўжо яго паэтычныя ці філалагічныя здольнасці меншыя за Лёвіны матэматычныя?.. Максім сам не ведаў дакладна, ці ёсць яны ў яго — паэтычныя, але зрэдку яму здавалася, што на нешта ён здольны. Узяць хоць бы яго апошні санет — «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...». Або раманс, напісаны яшчэ два гады назад, які ён цяпер перарабляе,— «Зорка Венера...». Вядома, гэта не Фет і не Сюлі-Прудом, але ўсё ж такі... Хоць і лютаваў так часта ў душы «самаед», ды нейкае зернейка таленту і яму самому ў гэтых рэчах калі-нікалі бачылася...

Толькі адкуль бацьку ведаць пра тыя крокі наперад, якія ён зрабіў за апошні час? Сынавы вершы ён даўно ўжо не чытаў... Яны для яго — не больш чым юнацкае захапленне, якое, на жаль, зацягнулася. Але ўсё роўна, мяркуе ён, пэўна, прыйдзе гэтаму дзівацтву калі-небудзь канец.

Не знаёмы бацька і з яго нататкамі, каб ацаніць хоць трохі яго магчымасці, як крытыка... «Глыбы і слаі», надрукаваныя ўзімку, ён адно прабег вачыма — дзеля прыліку. Ды ён «Нашу ніву» і не праглядае нават: не бачыць ні ўзроўню, ні перспектывы...

Што ўжо тады казаць аб рукапісах? Накіды «Кароткай гісторыі беларускай пісьменнасці» і паказваць бацьку не стаў...

Максім горка ўсміхнуўся: ён піша па-беларуску...

Вось у чым уся справа, калі называць рэчы сваімі імёнамі, а не спасылацца на клімат, харчаванне, брата.

Дакладней будзе нават сказаць, для бацькі ён піша на беларускім «наречии», а гэта ў яго разуменні загадзя асуджана на няўдачу, нябыт, забыццё: вершам не будзе ніякага ходу, артыкулы хлеба таксама не прынясуць, бо ў іх даследуецца тое, чаго практычна няма —

нейкая міфічная, нікому не патрэбная беларуская літаратура.

Неяк з месяц назад ледзь не пасварыліся. «Твая беларуская літаратура, скажу я табе,— кінуў яму ў спрэчцы бацька,— усяго толькі «un pensier del tio capo», выдумка тваёй галавы — не больш!» Толькі і згадаў з «Веранікі», накіды якой прагледзеў па яго просьбе, што эпіграф з Джавані... А так хацелася параіцца з бацькам — чамусьці зноў уздумалася зрабіць гэта... Ды справа, урэшце, глыбей, не ў ягоных вершах. «Выдумка маёй галавы»?..

А хіба ж не разыходзяцца сёння «Наша ніва», беларускія літаратурныя зборнікі? Іх тыражы павялічваюцца на вачах! Ці ж не з'явіліся ўжо ў самым пачатку нацыянальнага адраджэння цікавыя, вартыя ўвагі паэты?

Не, бацька ніколі не разумеў яго. Ніколі... А мог бы і дапамагчы...

Максім успомніў, як ён гадамі вывучаў мову па слоўніку Насовіча і фальклорных зборніках — і гэта ў той час, як побач быў бацька, вядомы некалі беларусіст, аўтар прызнанай навуковай працы...

Перад вачыма Максіма сталі праходзіць старонкі «Пережитков...» — адной з любімых ягоных кніг. *Бацькавай* кнігі.

«Справядлівасць патрабуе паставіць беларуса па тыпе душэўнага развіцця ніжэй за яго братоў з вялікай рускай сям'і... І жыццё беларуса, і яго творчая дзейнасць рэзка пазначаны пячаткай неразвітасці, адсталасці, забітасці...»

Бог ты мой, і гэта побач з такімі выдатнымі, дакладнымі назіраннямі, што так часта траляліся яму ў кнізе! Бацька ж сам сабе пярэчыць! Што ён пісаў, напрыклад, у нарысе для «Материалов» Шэйна?

«Гэтыя вось «лішнія людзі» ў вёсках, якія пабывалі ў гарадах, на чыгунках, на фабрыках, заражаюцца

пошласцю і мярзотнасцю жыцця вялікіх прамысловых цэнтраў, губляюць сваю першабытную чысціню нораваў, заснаваную на бытавых умовах і сямейных паданнях, і скажаюць сваю гаворку залішняй колькасцю ім самім незразумелых слоў».

Максім памятаў багата якія месцы з бацькавых прац — яны то ранілі яго любоў да Беларусі, то падтрымлівалі надзею, што калі-небудзь — прыйдзе час — бацька ўсё зразумее... Сын не баяўся быць суддзёю свайму бацьку, хоць і не было ў свеце чалавека, якога б ён паважаў больш. Ён ведаў, за што яго можна было прыводзіць у прыклад — чалавека з вельмі нялёгкім лёсам, які здолеў нястомнаю працаю «выбрацца ў людзі» з самых нізоў, але знаў цвёрда і тое, за што яго варта было дакараць.

«Беларуская мова, перш за ўсё, небагатая на словы... Яна таксама бедная на формы выяўлення і моўныя формы...»

Божа літасцівы, якая жахлівая несправядлівасць! Нават у кароценькай прадмове да слоўніка Насовіча адзначана, што «беларуская гаворка ўжо даўно звярнула на сябе ўвагу айчынных філолагаў каштоўнымі рэшткамі старажытнай мовы». Каштоўнымі! Адам Міцкевіч называў яе самай чыстай з усіх славянскіх моў, гарманічнай, багатай і цудоўна распрацаванай!

На гэтай мове можна пісаць усё. Але, усё!

Максім ускочыў з канапы і ўзнервавана захадзіў па пакойчыку.

Вось ужо год, як ён піша санеты, ронда, трыялеты; два гады, як робіць пераклады з нямецкай, французскай, латыні: Гейне, Гарацый, Верлен — каб толькі давесці самым зацятым скептыкам, што на беларускай мове, так, *мове*, а не «наречии», можна пісаць усё, што ні захочаш. Хіба ж беларускае слова вымаўляецца горш за якое-небудзь іншае?

Канечне, пакуль яшчэ шмат хто адно засмяецца,

пачуўшы такія меркаванні. Але беларусы пройдуць свой шлях да стварэння сусветных каштоўнасцей, хоць і мусяць адолець яго не за стагоддзі, як немцы або французы, а за дзесяцігоддзі! Інакш нельга: свет павінен пачуць іх голас як мага хутчэй. Каб дайшоў гэты голас і да тых беларусаў, каго вымусілі зняверыцца ва ўласнай годнасці.

Ён адзін напіша яшчэ тысячу ронда і столькі ж санетаў і трыялетаў — чаго толькі ён не напіша! І дакажа ўсім ім, тым, хто ўпарта не верыць у паўнацэннасць яго народа, дакажа, *што* можа зрабіць беларус!..

Максім стомлена апусціўся на канапу. Цiснула ў грудзях.

Добра, ён будзе вывучаць юрыспрудэнцыю. Нічога, гэта толькі пазбавіць яго тых шчаслівых мажлівасцей, якія дарыў яму лёс, і сіл, якія ён змарнуе. Але ў яго яшчэ хопіць іх, каб было што аддаць бацькаўшчыне. А летам ён наведае ўрэшце Беларусь. Здасць добра ў гімназіі выпускныя экзамены і паедзе — бацька не зможа адмовіць яму хоць у гэтым.

У грудзях стала лягчэй. На твары з'явілася змучаная ўсмешка.

Ён паміраў адзін, забыты бацькам, які быў так заняты сваімі справамі. Паміраў, не сагрэты цяплом і пяшчотаю хоць самага кволага жаночага сэрца — не адчуваў ён, хворы, за сабою права ўтрымліваць побач якогасьці чалавека. А як заўсёды хацелася гэтага простага шчасця, як роспачна было без яго ў душы!

Паміраў далёка ад роднай зямлі, якой прысвяціў жыццё і аддаў усе сілы.

Горлам ішла кроў, знядужаныя лёгкія ўжо не дазвалялі ўставаць.

А побач, побач ляжаў пачаты ім буквар для маленькіх беларусаў.

Ён правіў яшчэ свае вершы.

Пра што думаў ён, паміраючы?

Можа, пра тое, што, нягледзячы ні на што, паспеў усё ж галоўнае, што мог здзейсніць у сваім кароткім жыцці,— вярнуцца да роднай зямлі... Няхай цела яго застанецца ў гэтым краі сініх бухтаў — душа яго, вершы, якія з яе выліліся, будуць там, на роднай васількова-сіняй Беларусі!..

Яму яшчэ не было дваццаці пяці з паловаю... Паловаю... Колькі каштавала для яго кожная такая палова! Чым яна магла стаць для нас — яшчэ хоць адна палова, якую б уступіў яму лёс!..

Завошта, чаму?..

У гэтай заўчаснай смерці — недарэчная трагедыя жыцця. Але як ні цяжка вымавіць гэтыя словы, ёсць у ёй і жыццясцвярджальны пачатак.

Ён змог. Змог адолець, перамагчы смерць і застацца жывым пасля яе — у сваіх вершах і ў сэрцах удзячных людзей, якія чытаюць іх сёння і будуць чытаць праз гады. Здолеў, бо моцнае жыццё можа біцца і ў кволым целе, калі толькі трымаецца і за найменшую з надзей.

А яго надзея і вера былі бясконцыя.

# Гэлька, Шуркава маці

*Бабулі маёй*
*Алене Емяльянаўне*

З году ў год штодня выходзіла старая адвячоркам на дарогу. І кожны раз, як ступала асцярожна Гэлька на падворак з ганка сваёй занядбалай хацінкі, самай нецікавай у вялізных Астравах, адзін і той жа час заставаўся да надыходу цемрадзі.

Вызначала Гэлька набліжэнне гэтае пары не па гадзінніку — каторы ўжо год маўчала ў ім зязюлька, пакорліва чакаючы, што дакранецца да яе чыясьці ўмелая рука,— не па мычанні статка, што нарастала ўжо тым часам ад балота, а нейкім асаблівым чуццём старога чалавека.

Паддаўшыся хваробе — балела ад старасці галава, не даючы ніколі спакою,— магла яна гадзінамі ляжаць, забыўшыся на ўсё, нічога не прыкмячаючы — хіба што калі навальніца грымела, дык пачынала жагнацца. Ляжала, не ведаючы, дзень гэта ці ноч на двары, а іншы раз і таго нават, ці жывая яна яшчэ, ці, можа, ужо настала ўрэшце яе апошняя ноч, перапыніць якую няздольны ніводны світанак.

Але толькі наставаў гэты нічым для іншых не адметны час, Гэлька ўзнімалася — і невядома адкуль браліся сілы ў яе ссохлым, скрыўленым, знямоглым целе.

Ішла яна быццам навобмацак, з цяжкасцю робячы кожны свой дробненькі крок, ледзь выносячы ўперад кульбу — даўнюю сваю, незаменную сяброўку. Ішла, прымружыўшы вочы, пільна ўзіралася ў дарогу. Баялася прагледзець чалавека, якога гадамі на той дарозе чакала, дзеля якога і знаходзіла толькі сілы, каб уста-

ваць у заўсёдны свой час, адганяючы астатнюю, адзіную цяпер сваю напарозніцу, што пабрала ўжо да сябе з Астравоў апошніх Гэльчыных сябровак — у той далёкі, невядомы свет, куды сама старая яшчэ не збіралася патрапіць, бо ўпарта верыла, што чалавека таго мусіць усё ж дачакацца ў гэтым жыцці.

Ішла яна сустракаць свайго сына.

І таму было радасна ёй і страшна.

Баялася яна прагледзець, як выслізне нячутна з зялёнай халадэчы лесу яе Шура і пойдзе да вёскі палёваю сцежкаю, маці сваёй не заўважыўшы. А раптам сальецца ён непрыкметна з хвалістымі жытнёвымі перакатамі, знікне ў іх — і не ўгледзіць тады ўжо яна, як ні будзе пільнаваць, сінечу незабыўных яго вачэй паміж сотняў валошак, што падміргвалі ёй, кланяючыся ветру?.. Азірнецца яна, адчуўшы трывогу,— ды плямай нераспазнавальнай ляжа на чыімсьці шэрым плоце яго злінялая гімнасцёрка. І пройдзе тады ён міма роднае хаты, не прызнаўшы гнязда, адкуль у свет гэты вылецеў, не апусціць каля бацькоўскіх веснічак свой салдацкі мяшок.

А можа... а можа, баялася Гэлька, пройдзе сынок зусім побач з ёю, і ўбачаць яны адно аднаго, але не пазнаюць, не пачуюць шэпту роднае душы, размінуцца, быццам чужыя, як будзе яна няўважлівая: колькі ж часу прайшло з тае пары, як бачыліся яны — кульба і тая даўно ўжо нібыта ссохлася і адсвечваць стала якімсьці старэчым бляскам, усё адно што гора з гаспадыняй разам падзяліўшы, схуднела і ўчарнела, як тая.

Ішла Гэлька да павароту на суседнюю Росну. Ад хаты яе да мудрагелістай гэтай пятлі, што даўжэзнаю стужкаю закручваецца патроху ўгару, недалёка было, як на маладыя ногі,— кіламетры, можа, з два, ды толькі дарога тая адымала ў старой увесь вечар. Вярталася яна дамоў зусім позна, як і не відаць ужо было амаль

нічога. Адна напарозніца з маўклівым у вачах пытаннем сустракала на ганку сваю незгаворлівую прыяцельку, а то і гамонку распачынала, як надта стамлялася Гэлька.

Нерухомая, стаяла маці каля таго павароту на Росну хвіліну, другую і нягучна амаль варушыла перасохлымі вуснамі, шапляла бяззубымі, са збялелымі дзяснамі ротам:

«...Шабуня Андрэй Пятровіч, Шабуня Сяргей Пятровіч, Шылік Антон Іванавіч... Якубовіч Аляксандр Аляксандравіч...»

Чытала яна выціснутыя на абеліску, што стаяў на павароце, прозвішчы тых, хто, як і сын яе, не вярнуўся ў родныя вёскі, да пары знайшоў апошні прытулак далёка ці блізка ад дому... Шмат каго з іх памятала старая, бачыла цяпер усё роўна як жывых, але болей было такіх, каго і не бачыла ніколі, пра бацькоў каго нават мала што чула, хоць і лічылася ў наваколлі першым знаўцам тутэйшага люду. Ды ці дзіва, думала Гэлька, што не ведаю іх усіх, бо колькі ж іх тут, сыночкаў, запісана — не пералічыш, як ні лічы... Колькі разоў ні спрабавала сама гэта зрабіць, да канца не даходзіла ніколі, бо збівалася рана ці позна, прыгадаўшы некага з блізка знаёмых, з радні, якой нямала мела ў суседніх вёсках.

І колькі ні прыглядалася маці да горкіх гэтых радкоў на абеліску, ясна бачыла: неяк паасобку, у баку ад усіх астатніх, зіхацелі сынавы прозвішча і імя.

Сто сорак тры прозвішчы былі выціснуты на абеліску, і прозвішча сына яе, Якубовіча Аляксандра Аляксандравіча, стаяла ў доўгім тужлівым спісе апошняе.

Была ў тым для старой ёй адной зразумелая праўда: *жывы* быў яе Шура.

Усе прозвішчы зліваліся сваёю фарбаванай пазалотай у адзін непарушны гурт, быццам напаўзалі адно

на адно — цяжка, мусіць, было тым, хто насіў гэтыя прозвішчы, думала Гэлька, на невядомым свеце, і яшчэ больш мучыліся яны там, сыночкі, каб лягчэй цярпець было тое жыццё, хоць і бясконцае і бестурботнае нават, ды ўсё ж без зямелькі, якою не надта налюбаваліся, без матак, якіх да часу пакінулі.

Сынава ж прозвішча, упэўнілася старая, не выпадкова запісалі майстры, што будавалі помнік, апошнім. Не мелі яны ў яго смерць цвёрдае веры, думалі, мусіць: а што, як раптам вернецца Якубовіч, аб'явіцца праз гады, тады і прозвішча тое лягчэй будзе сцерці, не прыйдзецца непакоіць тых, што даўно навечна паснулі, дый сораму будзе меней, што жывога ў мёртвыя патрапілі ўціснуць.

— Глядзі, Мікітка, а Шура ж мой паасобку прапісаны, бачыш, не? — пыталася Гэлька ў падслепаватага ад ранення калгаснага пастуха з Росны, што хадзіў калісьці з сынам яе ў адным партызанскім атрадзе, а цяпер пасвіў кароў на полі непадалёк ад помніка.

Мікітка жмурыў хворае вока, узіраўся.

— Дзе?

— Дый вунь дзе!.. Няўжо ж не бачыш, што троху ніжэй?..

— Не бачу, цётка Гэля,— адказваў Мікітка, угледзеўшыся яшчэ раз.

— Гэта ўсё вока тваё хворае, няхай на іх ліха, на злыдняў, праз якіх табе яго засціла... Але ж ты прыгледзься, Мікітка, ніжэй троху прапісаны ён, чым астатнія... І апошні і троху паасобку...

— І напраўду, што троху ніжэй,— казаў пастух пасля некаторых ваганняў, але потым раптам дадаваў: — Гэта цётка, майстар памыліўся.

— Які майстар? — бянтэжылася старая.

— Што прозвішчы тыя прапісваў. А можа, і не памыліўся, а знарок, для прыгажосці.

— То якая ж тут табе, дурань ты сівы, прыга-

жосць? — узрушана ківала галавою Гэлька.— Гора тут наша, а не прыгажосць. Яны і так прыгожыя, сыночкі нашыя, што ў зямельку да часу за нас ляглі, хоць ты іх золатам, як тут, прапісвай, хоць чым яшчэ.

— Гэта каб роўна было,— супакойваў яе Мікітка, дакараючы сябе за неасцярожнасць.

— Як — роўна?

— Бачыце, цётка, прозвішчы ўсе гурточкамі прапісаны, радамі, і ў кожным радзе, як палічыць,— лічыў Мікітка,— па дванаццаць роўна.

— Бачу, Мікітка, бачу,— адказвала старая, гадаючы сама сабе, што ж такое той угледзеў.

— А ў тым, дзе Шурка прапісаны,— зноў лічыў пастух,— на адно менш, адзінаццаць. Не хапае аднаго, вось яго, Шурку, і апусціў майстар той, каб роўна было...

— Не хапае аднаго, кажаш? — ажно выпрасталася згорбленая Гэлька, заглядаючы Мікітку ў самыя вочы.— Можа, яшчэ каго трэба забіць, каб зараз роўна было майстру твайму?

Мікітка ўжо і не рады быў, што напаткаў старую,— занесла ж ліха пад той помнік! Што авадзень у карову, учапілася ў пастуха Гэлька, дапякала, хоць уцякай...

Сорак гадоў прайшло, як атрымала яна пахавальную: «Ваш сын, Якубовіч Аляксандр Аляксандравіч, загінуў смерцю храбрых у баях за вызваленне Савецкай Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у раёне горада Мыйзакюла Эстонскай ССР...»

Але ні ў той страшны дзень, жахлівей якога не зведала Гэлька ніводнага ў гэтым жыцці, і ніколі пасля не паверыла яна ў тую смерць да канца. Не паверыла ні на дзень. Хоць і былі ўсё ж гадзіны, калі боль непапраўнага працінаў яе ўсю, прыбіваў надзею, халадзіў сэрца, вымушаў заломваць рукі і без слёз ужо плакаць наўзрыд...

Як магла яна ў тое паверыць?

Восем гадоў чакала яна дзіцёнка — толькі яго аднаго і нажыла з нябожчыкам Ляксандрам... Да часу ў пакутах яго нарадзіла, ледзь не прыняўшы смерць, выгадавала насілу, тры разы малому грамніцу [1] ў рукі давала — як магла яна пасля ўсяго згадзіцца з тым, што не вернецца ўжо яе Шура? Быў, быў, а то раптам не стала?..

Нікому не верыла старая, нікога і слухаць не хацела, як заводзілася гаворка пра сынаву смерць.

А чуць ёй разважанні пра старэчае яе дзівацтва выпадала нярэдка. Як ні шкада было людзям старой, але шмат хто з астраўскіх, гледзячы на Гэльчыны «паходы», думаў даўно ўжо, што тая блізка што ненармальная, хоць і не выяўляла яна тае ненармальнасці, як на іх разуменне, ні ў чым іншым.

Асабліва сталі думаць так пра Гэльку пасля яе сутычкі з сельсаветаўскай камісіяй.

Саветнікі, як называла старая работнікаў сельсавета, не надта часта згадвалі пра яе да нядаўняга часу, хіба што з майскім святам віншавалі. А вось апошнія гады спачыну ёй ад іх не было. Калгас, у які хадзілі астраўскія людзі, неяк спакваля выйшаў у заможныя, так што Гэльчына хата, якая раней нікому не замінала, ператварылася раптам у брудную пляму на чысцюткім вясковым твары.

Ты ж паглядзі, цётка, казаў Гэльцы старшыня, па самыя вокны асела ў зямлю твая хата дый страхой сваёй чорнай страх (як ёсць *страха*!) наводзіць на людзей — адзіная ж на ўсе Астравы, калі не лічыць Баркуновай хаты.

Кажучы пра людзей, ён, канечне, меў на ўвазе раённае начальства, што надта часта стала наведвацца

---

[1] Грамніца — свечка, якую давалі ў рукі чалавеку перад смерцю.

ў Астравы дый круціла носам, гледзячы на такі сорам у перадавым калгасе.

Непарадак, пераконваў Гэльку старшыня, каб у гэткім калгасе, як наш, развалюха твая прыезджых людзей бы пудзіла сустракала. А калі не семінар аграномаў будуць у нас тут праводзіць, а прышлюць турыстаў на наша жыццё паглядзець, шведаў якіх ці грэкаў — што тады будзе? Трэба нам, цётка, падводзіў рысу заклапочаны старшыня, нешта з гэтай тваёй халупай прыдумваць. З Баркуноваю хатаю ўжо нічога не зробіш: не памяняе Баркун сам страху, скваппы на грошы — нашто толькі вось іх збірае? — і калгас яму нічога не можа зладзіць, бо ж былы паліцай, адседзеў за тое ў паўночных краях дваццаць гадоў. Дый на самым канцы Астравоў тая Баркунова хата, тым больш ад раёна дальнім, нібыта й паасобку, усё роўна што хутар стаіць,— твая ж ледзь не ў самым сяродку сяла, лічы, метраў якіх з трыста да сельсавета — куды ж гэта варта?

Так што, запрапанаваў нарэшце старшыня Гэльцы, як маці «паўшага воіна», за калгасны кошт спярша страху на шыферны дах памяняць, а пасля ўжо і ўвогуле сказаў, што трэба ўсё жытло як ёсць дашчэнту знесці дый новае збудаваць.

Хтось, праўда, стаў меркаваць, што няма тут прычыны надта спяшацца, бо старая не вечная, не сёння дык заўтра адыдзе, і заўважалі, што слушна гэта было, але ж надта ўжо тая Гэльчына хата замінала раённаму начальству. І ўжо і камісія да Гэлькі прыйшла, каб зрабіць належны акт, абмярала ўсё, запісвала, лічыла, правярала — але выправіла старая з хаты тую камісію, бо, расказвала сама яна Ганьцы, Мікіткавай маці, «пастанавіла яе непатрэбнаю».

Колькі ні даводзілі Гэльцы, што ўбогая тая хацінка — калгасу адна ганьба, дый старой самой ніяк не на карысць, бо й холадна ў ёй дужа, і страха праця-

кае, і сцены адсырэлі, а ў гаспадыні, людзі кажуць, лёгкія не надта каб здаровыя — усё роўна не звярушыць было Гэльку з месца ў тым, што вырашыла яна сама, без усялякіх нязваных камісій, якія яны ні ёсць «панамочныя».

Галоўнае, ніяк не прызнавала сябе Гэлька маткаю «паўшага воіна».

Ніякае мне ні хаты, ні страхі не трэба, казала яна, адмахваючыся рукамі, нічога тут у мяне і не працякае, і не адсырэла, і цёпла ў хаце, хоць грэцца заходзьце, надта як грубку сваю, не лянуючыся, натаплю... І ніякае тут калгасу вашаму ганьбы няма, бо й вокны ўсе цэлыя, вунь як акуратна шклом пазастаўленыя, і дзверы, дарма што пакасіліся, ніякага холаду, як вы будзеце казаць, не прапускаюць, дый ганак не такі ўжо кепскі, не трэба вам яго ганьбіць так... Хочаце згаджайцеся, хочаце не, а я ўжо лепш за вас ведаю, што благога тут нічога няма — не выгледзіце, дарма шукаеце...

Па праўдзе сказаць, збіралася Гэлька, абдумаўшыся, папрасіць урэшце, каб ганак ёй новы ўсё ж такі зладзілі, бо тут перашкоды таму, з-за чаго ўпарцілася, не бачыла, а ганак і зусім быў ужо нікуды не варты, дошкі праз адну прагнілі і паправальваліся — цяжка было ёй з хаты выходзіць...

Але дужа раззлавалася яна на «страшыню» (так цяпер ахрысціла яго за тое, што ўсё страшыў яе), як пачаў той лётаць па хаце, нібыта галавой сценку сабраўся выбіць — бо куды ж там было лётаць! — ды казаць, што старая хоць і ёсць маці паўшага воіна, але ўсё ж і на яе ўправу знойдзе савецкая ўласць, як яна, Гэлька, парадкаў яе не хоча прызнаць і аўтарытэт яе падрывае... Бытта яна, раскрычалася тады старая, і напраўду што процi ўласці тае мела, бытта не яна, а хто іншы за яе кожны божы год у школу на выбары хадзіў, бытта не яе сын за тую ўласць ваяваў...

Зусім ужо расхваляваўся старшыня, глытаў таблеткі, упрошваючы старую пабудавацца, паціскалі плячыма члены камісіі, бо такога не чулі яшчэ, каб ад новай хаты адмаўляліся людзі, а то ж тут такая халупа, ды Гэлька ўсё стаяла на сваім непахісна, а сама сабе думала: на чорта мне тая ваша страха, ці, таго больш, хата, бо, як дасць нарэшце бог, вернецца мой Шура, то й не распазнае тут нічога...

Ніхто ж не ведаў таго, што запала Гэльцы ў галаву, бо не дзялілася старая спадзяваннямі сваімі ні з кім...

А ўдумала яна тое, што Шура яе таму дамоў не вяртаецца, што праз нейкую кантузію памяць страціў... Але як ужо акажацца ў родных мясцінах, куды покліч матчын яго ўсё ж такі прывядзе нарэшце (быць не можа, каб не ўчуў у душы сваёй, як чакае яна яго!), то хоць і не будзе яму як распытаць пра маці, бо і імя ж яе не ўзгадае, дый толькі ўбачыць веснічкі, расчыніўшы якія, з дому пайшоў, страху з буслянкаю — і вернецца да яго памяць... А як возьме яна дый пабудуецца, няхай сабе і на старым месцы, то пройдзе ён міма, бо не пазнае нічога...

Прыйшла тая згадка пасля сустрэчы з адным заезджым чалавекам, які пераказаў ёй нейкую газетную гісторыю. Нікому не прагаварылася Гэлька пра сваё раптоўнае адкрыццё, аднаго толькі разу, як прыхварэла ўжо надта, насмелілася прызнацца ў ім напарозніцы. Разважыла так старая: можа, разгаворыцца тая з ёю дый не толькі перадумае забіраць яе да сябе (пашкадуе ж, мусіць, пасля такой размовы), але і пацвердзіць, што не вадзіла Шуру туды, адкуль прыходзіць яна шукаць сабе новых спадарожнікаў па вечнай яе дарозе...

«А дакаменты? — спыталася напарозніца.— З дакаментамі як быць?» — «Якія табе яшчэ дакаменты?» — стала раптам страшна Гэльцы. «То ж як ён памяць і страціў бы,— растлумачыла напарозніца,—

дакаменты ў яго з кішэні ўсё роўна б дасталі дый направілі Шурку твайго куды трэба».— «Дакаменты, дакаменты,— раззлавалася Гэлька.— Згубіў ён тыя дакаменты — вось што! Згарэлі яны ў агні, як бамбёжка была. Ці злыдзень які нямецкі з кішэні ўзёў дый выцягнуў іх, бо думаў на Шуру, што мёртвы, а ён жа, бедны, кантужаны ляжоў...»

Нічога не змагла сказаць смерць супраць такой здагадкі — на тым і ўпэўнілася Гэлька яшчэ больш у сваёй веры, што праўда — яе, Гэльчына, а ўсё, што кажа ёй «старшыня» пра нейкага паўшага воіна — простая памылка, якія і ў начальніцкіх людзей таксама бываюць.

І калі прыйшоў да яе старшыня другі раз дый прапанаваў, ужо не ўпамінаючы паўшага воіна, узяць бясплатна ў сельпо як ветэрану вайны цёплую ватную коўдру — вырашыў, мусіць, хітруга, пераканана разважыла Гэлька, ачмуціць старую, пачаўшы здалёк, задобрыць спярша меншым, каб прынадзіць потым на большае,— то адказала яна сурова, што ніякіх ёй коўдраў не трэба, бо які ж [redacted] яе ветэран, хіба што курэй смяшыць, дык няхай сапраўдныя ветэраны тыя коўдры паміж сабою і дзеляць... Пасля ж, калі, пануры, пасунуўся з двара старшыня, села маці на пакрыўлены ганак дый расплакалася: што ж яны там, у камісіях тых, не разумеюць ужо нічога?.. Хіба ж заменяць ёй сына хата ды коўдра, якія яны б там сабе ні былі?.. Якія ўжо тут коўдры, калі дзіцятка роднае...

Замірала Гэльчына сэрца ў новай згадцы.

Бо была ў яе, апроч надзеі на тое, што страціў сын памяць, яшчэ адна патаемная думка... *Ёсць* яе Шура на гэтым свеце! Толькі знявечаны ён, не захацеў такі дамоў вяртацца... Чула яна, ёсць яшчэ й дагэтуль такія мясціны, дзе збіраюцца разам тыя, [redacted] вайны, калекі, дый жывуць там, каб родным не замінаць... Крый божа, каб так было, ды лепш ужо так, чымсьці зусім ні-

як, чым так, як будзе казаць той старшыня ды Мікітка...

А то яшчэ Мікіткава маці — во дзе язык, дык нідзе ўжо такога не знойдзеш, злавала сама сабе Гэлька.

«Ты чаго гэта ўсё ходзіш туды ды ходзіш?» — пытацца-дзівіцца будзе. «Як чаго, бытта не ведаеш?» — «Дык хадзі не хадзі, не вернеш ты ўжо яго. Што, паштальён табе хіба не сказоў, дзе ён ды як, твой Шурка, галаву паклоў?» — «Дужа ён ведае, паштальён твой!» — «Дык папера ж была».— «Ат, папера!» — «Ён жа на тое наўчоны чалавек, гасударсцвенныя паперы як мае быць чытае».— «Я й сама іх як хочаш магу прачытаць».— «Ну, забылася, што ты чытаць ведаеш, дык жа ўсё роўна папера была!» — «От, я і кажу, што вучаць іх, вучаць дый не на ўсё наўчаюць! Вунека згубіў летась еськаўскі пісьманоша Варчына пісьмо — ты ж Варку Прохарчыкаву ведаеш, мусіць? — дык што аказалася? Адно на саракавіны да сястры паспела выбрацца, во як, міленькая, і не за блізкім светам бывае. А ты мянціць тут будзеш: паштальён казоў, паштальён казоў... Ат!..» — «Не разумею я, што ты будзеш казаць».— «А тое, што на першую паперу новая была».— «Гэта як жа?» — «А так, што памыліўся спярша там нехта, дык і паслалі паперу, але ж пасля на яе, як адмянілі, другая высылалася»,— «Ат, выдумляеш нешта!.. Дык дзе ж тады яна, тая другая папера?» — «То ж я табе і кажу, што ўсё роўна як Варчына пісьмо згубілася».— «Не, баба... Тамака ў Варкі не такая справа была — простая. Што там сястра нейкая паміраe... Каму тая сястра патрэбная? Хіба што Варцы адной. А тут твой Шурка на вайне чалавек, родзіну, як той казоў, зашчышчоў — тутака памылкі ўжо ніякае быць не можа, вось што я табе і пры людзях скажу, як бы ты мне другое што ні даводзіла».— «Ат, буду яшчэ я даводзіць табе!.. Было, людзі казалі, і памыляліся ў пошце на

той вайне... Вунека мне заезджы адзін казоў, каморнік, што зямлю нам некалі абмяроў: у газеце прапісвалі, як чалавеку ўжо на магілцы і помнічак зладзілі, імя яго на тым помнічку напісалі, чысло нат, калі забілі яго, дый не абы-які помнік, з дарагога нейкага там... З мамура, во як казоў!.. а ён узёў, чалавек гэты, што, не пры нас кажучы, у мёртвыя быў запісаны, дый ажно праз трыццаць гадоў аб'явіўся — у якойсьці там... Чыславацыі, во як, міленькая!.. Бо, не пры нас кажучы, гэтаксама памяць згубіў, па-чыславацку ўжо толькі і гаманіў...»

Ад хвалявання, што ніяк не верыць ёй Ганька, ледзь не выдавала ўжо Гэлька тайну сваю, толькі не ўчула сяброўка таго «гэтаксама». «Што ты мне пра тую Чыславацыю будзеш расказваць? — дзівілася яна.— Ты мне лепш скажы, чаму ж ён тады не вярнуўся, Шурка твой, як ужо ён па-твойму жывы застоўся?..» Тут ужо маўчала Гэлька, бо, як ні хацелася ёй пераканаць Ганьку, а ўсё ж баялася яна пусціць на пагалоску, няхай сабе і нязлую, свае запаветныя думкі. «Многа што разумееш ты!» — стукала яна кульбаю па асфальце — і што толькі нельга было пачуць у тым стуку...

Жывы быў яе Шура, *жывы*!.. Што ▪ таго, што не вярнуўся дамоў? Можа, лёс у яго такі. Жыве сабе цяпер недзе дый дзяцей гадуе, і жанчынка ў яго добрая, няхай ёй бог здароўя дае, каб шанавала яго не горш за матку... І калі ўжо вайна адабрала ў яго памяць, дык няхай ён там, гаротны, за блізкім светам ці не, меней пакутуе з-за маці свае забытае...

Тупала Гэлька да помніка і ад помніка...

Паварочвала, як падыходзіла ўжо да вёскі, понуры позірк на недалёкі пагорак, дзе стаяла царква.

А ці ж ёсць той бог, думала раптам, узіраючыся ў царкву. Ці ёсць ён, калі Баркун, няхай і пацягоў, папілавоў бярвенні ў далёкіх халодных краях, ды ўсё ж

вярнуўся дамоў жывы, з рукамі і нагамі, з цэлымі вачыма — не тое што ўзяць хоць таго ж бы Мікітку?.. І халера яго не бярэ ніякая, дый пенсія нейкая там яшчэ выходзіць яму — каб ён не ўжыў тое ніколі, што мае!.. Што ж тады Шура пайшоў ад яе ў дзевятнаццаць няпоўных гадочкаў?.. Дык ці ёсць ты, ці не, божа?..

Але страх холадам працінаў яе ад гэтакіх думак. Жагналася, гнала іх ад сябе прэч, баючыся ўгнявіць бога, прасіла таго не аднімаць у сына жыццё за матчына бязвер'е...

Тры разы, успамінала яна, ледзь не сабралася ўжо яго, як жывы... як пры ёй яшчэ быў... пахаваць, і кожнага разу літасцівая была смерць, шкадавала малога — дык няўжо ж цяпер, на свае вочы пагібель яго не пабачыўшы, мёртвым буду лічыць?..

Гэтак думаючы, вярталася яна і ў той дзень, калі прынёс ёй паштальён ліст — ці не першы ў хату ад таго самага дня, як завітала туды пахавальная... Гэлька праз хваляванне не знайшлася нават, як той ліст з канверта дастаць, так што чытаў ёй яго паштальён, хоць і баялася старая, што і гэты ў чымсьці памыліцца.

Ліст быў ад школьнікаў з эстонскага горада Мыйзакюла.

Пісалі ёй тыя, што пасля доўгіх пошукаў удалося ім высветліць імя і месца нараджэння таго чырвонаармейца, што, як невядомы, пахаваны быў на ўскраіне іх гарадка. Дапамог ім тое зрабіць грамадзянін Мыйзакюлы Пятроў Валянцін Трафімавіч, з якім вызваляў горад,— не верачы вушам, слухала паштальёна Гэлька — «Ваш сын, Аляксандр Аляксандравіч Якубовіч». Цяпер на магіле паставілі помнік і запрашалі прыехаць на яго адкрыццё маці...

Не ведала Гэлька, з чаго і пачаць тыя зборы ў дарогу. Але як сабралася ўжо, дык убачылі вяскоўцы, што не толькі і блізка не выдае яна на ненармальную, але і занадта яшчэ, як на яе гады, нармальная жанчы-

на. Старшыня вырашыў быў адправіць Гэльку ў няблізкі край за калгасны кошт і ababraў ужо ёй у праважатыя чалавека, адно ж старой і след прастыў, так што людзям засталося толькі гадаць, як гэта яна да тае Эстоніі дабярэцца...

Прыехала Гэлька на месца прыцішаная, негаваркая. Больш глядзела на таго чалавека, што пацвярджаў, быццам тут пахаваны яе Шура. Разгледзеўшы, стала распытваць. Чалавек ёй, відаць, спадабаўся. Але ж недавер у яе позірку ўсё-такі заставаўся.

А чалавек расказаў, між тым, што ён не толькі ведае дакладна, хто тут пахаваны, але і сам, сваімі рукамі, бо нікога вольнага на той момант каля забітага не аказалася, выкапаў сапёрным капачком яму, неглыбокую, на якую было часу, і, паклаўшы туды сябра, у чым быў той, засыпаў зямлёю... Шкада, сказаў чалавек, бо выдатны Шура салдат быў і хлопец, не гэтак трэба было яго пахаваць — і Гэлька ўбачыла, як памакрэлі ў мужчыны вочы... Расказваў далей, як загінуў Шура...

Але Гэлька ўжо не чула нічога, адно ўглядалася ўсё, не верачы, чалавеку ў вочы... Гэта ж я вам якраз і пісаў той ліст пра Шуру, дадаў чалавек,— і Гэлька стала ўзірацца ў яго яшчэ больш пільна, быццам у душу хацела ўлезці... Прыгадаліся ёй і пісьмо тое, што прыйшло ўслед за пахавальнаю, і папярэднія Шуравы лісты, у якіх ён часта пісаў пра сябра свайго Вальку Пятрова, чарнявага смехача ды гаваруна... Але гэты быў увесь сівы, не разабраць было, якога ж колеру маглі быць калісьці яго валасы, і сумны быў, негаваркі — цяжка яму давалася кожнае слова...

— А ці ж быў ты калісь чарнявы, сынок? — спыталася, набраўшыся сілы, старая.

Чалавек ледзь прыкметна ўсміхнуўся і кіўнуў галавою ў адказ.

— Быў, мама.

Але штосьці здрыганулася ў ім раптам.

Ён усё зразумеў, былы салдат Пятроў, усё прачытаў у Гэльчыных вачах, якія верылі і не верылі яму...

Угледзеўшыся ў старую яшчэ раз, нібыта ў чымсьці яшчэ сумняваўся, ён паволі вымавіў:

— Пастойце... Відаць, памыліўся я, мама... Шура, сябра мой... ён таксама, як і ваш, значыць... я добра памятаю... з Астравоў быў, толькі,— ён памаўчаў крыху, бо вусны яго дрыжэлі,— ён з Барысаўскага раёна... але, з Барысаўскага...

— А мой з Мінскага... Мінскага мы ўсе, як былі, спрадвеку,— узрадавалася Гэлька, ажно падабралася ўся разам, засвяціўшыся ў твары.— Некалі павет быў, то ж бо ўезд, а цяпер во раён...

— Памыліўся я, мама,— зноў і зноў паўтараў чалавек, выціраючы слёзы...

Паехала Гэлька дадому, ведаючы адно, што будзе маліцца за супакаенне таго Шуры, на магіле якога была, як моліцца за здароўе свайго...

«Памыліўся я, мама, памыліўся»,— усё чулася ёй ды чулася ў стуку колаў цягніка...

І дагэтуль штодня, як настане адвячорак, выходзіць яна на дарогу і ціхенька тупае да павароту і назад...

Зноў і зноў дзівяцца з яе людзі.

Ідзе, не верачы ні пахавальнай, ні лістам, ні першаму расказу таго чалавека, Пятрова... Бог ведае, можа, яшчэ абудзіцца ў сыне забітая некалі памяць — і выйдзе тады ён з лесу, выслізне з зялёнай яго халадэчы дый пойдзе да вёскі палёваю сцежкаю... І таму пільна ўглядаецца старая ўдалечыню...

А то яшчэ застыне, разгубіўшыся раптам, на павароце да Росны, і ўзіраецца ў помнік...

Бачыцца ёй тады ў бляклай ужо жаўцізне выціснутых на халодным шэрым камені прозвішчаў самая да-

рагая з усіх пазалот, што могуць толькі быць на свеце: вечная пазалота памяці, сцерці якую непадуладна ні ветру, што прыгінае долу высачэзныя дрэвы, ні сонцу, што высушвае рэкі, ні нават часу, што ўсё перамагае няўхільным сваім ходам,— і толькі памяць не можа перамагчы...

Высока і велічна ўзлятае сціплы той абеліск у неабсяжную сінь...

І паварот, на якім ён стаіць, быццам раздвойваецца ў памакрэлых старэчых вачах...

Адна дарога бяжыць угару да Росны, другая ж, нічым на зямлі не пазначаная, апроч пачатку свайго — помніка, вядзе ў іншае, бессмяротнае жыццё, дзе ўжо не маюць значэння ні час, ні абсягі, і дзе толькі памяць аб дзеяннях на зямлі, упарта верыць у тое Гэлька, не растае ў нябыце...

Узлятаючы ўверх, сцвярджае *помнік* тую нялёгкую праўду, што, пакутуючы, вырашаецца прыняць Гэлька ў ерэтычных сваіх разважаннях пра бессмяротнасць: не толькі два шляхі могуць быць у сыноў чалавечых — жыць альбо не жыць, але і трэці — *жыць пасля сваёй смерці ў памяці тых, дзеля каго загінуў...*

## Фрагмент

Ноч была светлая, і жанчына лёгка разгледзела рубец на плячы ў мужчыны — след дзіцячае раны. Зрэшты, гэта былі зусім яшчэ юнак і дзяўчына, хоць і жылі яны разам не першы ўжо год. Прытуліўшыся да яго бліжэй, яна пяшчотна кранула рубец пальцам, як раптам ён спытаў:

— Што ты часцей за ўсё згадваеш з маленства?

Яна сумна сама сабе ўсміхнулася.

Мусіць, яму быў патрэбны яе ўспамін для нейкага фрагмента аповесці пра дзяцінства, за якой ён штовечар з неверагоднай упартасцю, не прыкмячаючы вакол нічога і нікога, сядзеў каторы ўжо месяц, надумаўшыся стаць пісьменнікам. Цяпер ён быў зусім апантаны. Мог ускочыць ноччу з ложка і пісаць, каб не ўпусціць тое, што прыйшло сярод сну, да самае раніцы, пакуль не трэба было выпраўляцца на працу. Толькі і гаварыў з ёю што ў час сняданку ці вячэры, дый то пра ўсё тую ж літаратуру — іншы раз дзяўчына адчувала сябе персанажам нейкага яго твора, бясконцага і не надта вясёлага. І ні ў чым ёй не дапамагаў — зусім. Ведаў адно сваё няспыннае пісанне і кнігі, кнігі, кнігі...

Асабліва было крыўдна, калі яна падоўгу завіхалася на кухні ці ў ваннай, прыбірала кватэру, займалася з маленькім сынам, якога ён, хоць і любіў, таксама амаль не бачыў, ладзіла абутак, прыбівала цвікі, а ён, задуменны,— быццам і не ў доме ён быў, а дзесьці зусім далёка адсюль,— гадзінамі сядзеў над чысцюткім аркушам паперы і грыз па дзіцячай звычцы асадку... Здаралася, яе раніла, працінаючы раптам, такая

яго абыякавасць, але дзяўчына хутка адганяла раздражненне. Яна паспела ўжо звыкнуцца з мужавай задзятасцю, хоць і была яна проста жанчынай, якой не ставала ўвагі. Яна разумела гэтага нялёгкага чалавека і верыла ў яго талент, пакуль што, праўда, нічым не пацверджаны. А калі знянацку прыходзілі сумненні — не ў поспеху ягоным, а ў *сэнсе* гэтага занятку,— ёй рабілася страшна і сорамна за сябе.

— Дык што? Ці нічога не згадваеш? — зноў запытаўся ён, не гледзячы на яе.

— Чаравічкі,— памаўчаўшы яшчэ крыху, адказала яна.— Ты ж ведаеш, як мы жылі... А я яшчэ і чацвёртая ў сям'і была. Заўсёды даношвала тое, што заставалася пасля сясцёр — абноскі. Да мяне яны даходзілі ўжо зусім заношаныя. Але калі я пайшла ў школу, мама зрабіла мне падарунак — новыя чаравічкі. Першы мой неабносак... Наступнага я чакала тры гады. Так і хадзіла ў адных абносках, пакуль не стала пасля сёмага класа працаваць улетку на чыгунцы, хоць зарабляць пачала ўжо раней: як нянчыла суседскіх дзяцей, за якіх не надта была старэйшая... Я гэтыя чаравічкі як зараз бачу: зялёненькія такія, з белымі пялёсткамі... Я глядзела на іх і глядзела, калі рабіла ўрокі, калі ўставала і засынала, чысціла іх і працірала па некалькі разоў на дзень... А якая ж ганарлівая ішла ў іх па вёсцы з канца ў канец: мне здавалася, усе бачаць, што ў мяне такія прыгожыя новыя чаравічкі... Але праз тыдзень я пабілася ў школе з адным хлопцам, і ён выцяў мяне па назе каменем і абадраў чаравічак. Усю дарогу са школы, праз дзве вёскі, я, плачучы, ішла басанож... Ліў дождж, і я прыціскала чаравічкі да грудзей, асабліва моцна той, што быў абадраны. Балела выцятая нага, але плакала я, вядома, таму, што сапсаваны быў новы чаравічак... адзіны мой неабносак... Калі вярнулася дадому, мама, глянуўшы на мяне, так і застыла, спалоханая, але як я, захлёбваючыся слязьмі, усё

расказала, дык расцалавала мяне, усміхнулася, дала трыццаць капеек і адправіла ў краму купіць цукерак, «падушачак», або пернікаў, папрасіўшы болей не плакаць. Драпіны, сказала яна, як ты тыя чаравічкі акуратна ні насі, усё роўна будуць. Думала, што я баялася яе, а мне шкада было чаравічка... Замест цукерак я купіла маленькую скрыначку акварэльных фарбаў. Я доўга выбірала, прасіла паказаць то адну, то другую скрыначку, хоць усе яны былі аднолькавыя, і прадаўшчыца з раздражненнем падганяла мяне. А я ўсё шукала самую зялёную фарбу... Пасля ніяк не магла дачакацца, калі ж нарэшце сцямнее. А ўвечары ў мяне пачалася гарачка. Сёстры, гледзячы на мяне, затужылі, таму што назаўтра трэба было выбіраць бульбу, а параю рук на полі паменшае... Мне было шкада і чаравічка і сясцёр, і я зноў пачынала плакаць. Бабуля супакойвала мяне — думала, што я баюся хваробы,— казала, што занядужала я праз тое, што прайшла басанож пад дажджом, але ж я ведала, што гарачка ў мяне была з-за чаравічка — якi ўжо тут дождж... Калі б не драпіна, я магла б прабегаць басанож увесь дзень, пад любым дажджом — і нічога б са мною не здарылася... Уначы мне стала крыху лягчэй. Я ціха ўстала, каб ніхто не пачуў, і зафарбавала драпіну, але атрымалася дрэнна... Я ўсё лажылася і ўставала, выходзіла зноў у сенцы, дзе схавала фарбы і чаравічак, прыглядалася да драпіны і зноў фарбавала — і так усю ноч, да самага золку,— і ціха плакала ў падушку... А ўранку, толькі стаў заціхаць дождж, выскачыла ў чаравічках на двор — і фарбу ўмомант змыла... зусім...

Ён прытуліўся да яе і моцна прыціснуў да сябе.

Ноччу ліў дождж.

Ёй сніўся далёкі восеньскі ранак, поле абапал сцяжынак між дзвюх вёсак... Яна выбірала з сёстрамі

бульбу і чамусьці была ў сваіх прыгожых новых чаравічках, а не ў ботах... «Як я магла надзець іх?» — спалохалася яна, але раптам убачыла, што зямля прыстае да чаравічкаў і адразу ж ад іх адвальваецца, а яны робяцца ўсё чысцейшыя і зелянейшыя, зелянейшыя нават за росную ранішнюю траву...

# Супер

Звычайнага пачуцця нядзельнае бадзёрасці не было. Ён позна прачнуўся, доўга валяўся ў ложку. Устаўшы, нават не стаў мыцца — пасунуўся, не адзеўшыся, на кухню і нетаропка паснедаў. Зазірнуў у залу дый прасядзеў там да самага абеду каля тэлевізара, які мала калі глядзеў. Узяўся быў за часопіс, пасля за другі, трэці, але, хутка іх прагартаўшы, адкінуў убок.

Нічога не хацелася рабіць.

«Халера з ім, з часам! — урэшце падумаў ён, апраўдваючы сваё лайдацтва.— Магу ж я пражыць хоць дзень проста так, нікуды не спяшаючыся?..»

Звычайна часу на меланхолію не заставалася — рытм жыцця не дазваляў.

Дзень пачынаўся з гімнастыкі і душа. Да абеду — заняткі ў інстытуце. Пасля — гадзіна ў лінгафонным кабінеце. Там і па праграме працавалі шмат, але ён штодня наведваў гэты пакой самахоць: зацятасць вядзе да поспеху. Пасля абеду — арыгіналы Мантэня, Сартра, Фрома, «Брахма-сутра» і «Даа цэ дзін»... Філасофія была яго захапленнем. А прафесію перакладчыка ён выбраў, улічваючы бацькавы сувязі. За інстытуцкія заданні браўся пасля вячэры. Трох гадзін падрыхтоўкі хапала — у залікоўцы былі толькі пяцёркі. Два разы на тыдзень, каб падтрымаць фізічную форму, ён гуляў у тэніс. Раней займаўся культурызмам і каратэ, але, зразумеўшы, што часу на ўсё не хопіць, кінуў. Постаць у яго і так была не горшая, чым у любога кінагероя. Не мог ён марнаваць час на другарадныя рэчы. Калі ўжо ўгрызацца ў жыццё, дык з усяе сілы —

інакш свайго не дамагчыся. У інстытуце яму далі мянушку — Супер. Ён спраўджваў яе ва ўсім. Хто ні быў побач, адчуваў нязменна яго перавагу. Бацька ласкава зваў яго маладым ваўком: яму падабалася мэтанакіраванасць, з якою сын пачынаў жыццё.

Паабедаўшы, Супер лёг спаць.

Але тут прыехаў Коша і выцягнуў яго ў госці да Хэлпа.

Супер пагарджаў абодвума: эксперты па пласцінках і джынсах. Коша вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце — бог ведае як яму ўдавалася там утрымацца, бо ён і дагэтуль наўрад ці мог адрозніць пшаніцу ад жыта. А Хэлп, выключаны нядаўна з тэатральна-мастацкага, працаваў цяпер на нейкім заводзіку мастаком. Сяброў Супер не меў. Былі адно знаёмыя, з якімі ён бавіў час, калі хацеў.

Хэлп жыў далёка ад цэнтра. Ехалі да яго ўпершыню — і дарога здалася вельмі доўгаю.

Знайшлі прыяцеля хутка, у двары яго дома. Ён з цікавасцю слухаў высокага, змрочнага хлопца. Абодва былі на падпітку. Калі знаёміліся, Клешч — такая была ў хлопца мянушка — затрымаў свой цяжкі позірк на Кошу. Той, як заўсёды і ўсюды, быў тут ужо «свой» і не звярнуў на погляд ніякай увагі.

Неўзабаве стала ясна, чаму Хэлп так уважліва слухаў яго: той расказваў пра сваё нядаўняе жыццё ў «зоне». Кошу здалося забаўным, што яны апынуліся ў кампаніі такога тыпа, і ён весела паглядваў на прыяцеляў, паказваючы вачыма на Кляшчовы рукі. Татуіроўка на іх — царкоўныя купалы і магільны крыж — была адмысловая. Далібог, усміхнуўся сам сабе Супер, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

— Не круці галавой, фраер,— раптам сказаў Кошу Клешч.

Цяпер позірк яго быў зусім ужо калючы — і Коша стаў слухаць нібыта завароржаны, не зводзячы з Кля-

шча лíслівых вачэй. Супер з пагардаю назіраў за прыяцелем — хоць і сам не надта добра пачуваў сябе побач з гэтым шорсткім хлопцам. Мільганула трывожная думка, што знаёмства з ім можа скончыцца бойкаю, але ён адразу ж узяў сябе ў рукі: які б гэты арангутан люты ні быў, ды наўрад ці валодае каратэ.

Расказваючы, Клешч раз-пораз паглядваў на Кошу. Той быў коратка падстрыжаны па апошняй модзе — гэтаксама коратка, праўда, прасцей, па модзе прымусовай, падстрыжаны быў і Клешч.

— Ты на нашай кічы не чаліўся? — спытаўся ён у Кошы, прымружыўшы вочы.

Коша паглядзеў на Хэлпа. Відаць, думаў, як лепш адказаць, бо нічога не зразумеў.

— За што яму было сядзець у ізалятары? — засмяяўся Хэлп.— За двойкі хіба што ці за фарц на чырвонец?..

— А я цябе за стукача аднаго прызнаў быў,— усё яшчэ ўзіраўся ў Кошу Клешч.— Тваё шчасце, што Хэлп цябе ведае: даўжок за казлом застаўся.

Коша змушана ўсміхнуўся.

— Дыхай глыбей,— сказаў Клешч.— Удых — выдых.

Суперу захацелася сказаць Кляшчу што дзёрзкае, бо сорамна стала і за сябе: усё ж такі менавіта з Кошам прыйшоў ён сюды. Але жаданне гэтае аказалася слабейшае за насцярогу перад загадкавай сілаю.

А тут яшчэ да іх падышла дзяўчына — невысокая, поўная, у скамечаных, завэдзганых штанах і ў зашмальцаваным паліто. Ад яе таксама пахла гарэлкаю.

— Ну што? — спытаўся ў яе Клешч.

— Не дае,— адказала тая ледзь не хлапечым голасам, папраўляючы нямытыя разбэрсаныя валасы. На руцэ ў яе сінела крывая літара Н.

Супер з гідлівасцю ўглядаўся ў яе непрыгожы, бляклы твар, выцвілыя вочы, густа нафарбаваныя вусны.

— Нічога, Нінок,— сказаў Клешч і дастаў ■ кішэні гадзіннік, новы, адмысловы.— Як, нішто будзільнічак? Зняў у падзельніка. Стары даўжок. Трэба было б лыч разраўняць, ды нельга мне пакуль: удвая накінуць, як павяжуць.

У Супера раптам заныла ўсярэдзіне: самому б не трапіць у даўжнікі да гэтага крымінальніка. А што, калі ён, як прыйдзецца біцца, нож выцягне?.. Тады і каратэ можа не ўратаваць.

Ён усур'ёз пачынаў пабойвацца зэка, сіла якога, бадай што, пераважала ягоную. Даўно ўжо ён не зведваў нічога падобнага.

— Здай,— працягнуў Клешч Хэлпу гадзіннік.

— За што? — не маргнуўшы, спытаўся Хэлп.

— А як хочаш. Але каб на дзве белай выйшла.

Супера збянтэжыла, як лёгка згадзіўся Хэлп — прыяцель, аказваецца, быў здольны і на такое.

Заўважыў Супер і тое, што Клешч не давяраў Хэлпу, і прыяцель нават не пакрыўдзіўся — хоць бы слова вымавіў у адказ. Можа, трапляўся ўжо ■ падманам?.. Бліснула ж у вачах у Кляшча пагарда чалавека больш вартага.

А што, падумаў Супер, няхай і дзікун... Асоба ў сваёй сістэме. І дужа многія ў ёй, пэўна, супраць яго — дробная рэшта, шпана. Толькі ён, Супер, і ў гэтай кампаніі — аніяк не ў рэшце. А можа, у патэнцыяле Клешч і для вышэйшага ўзроўню быў калісь асобаю?.. Не, неандэрталец, варта адно ў твар угледзецца.

Супер то супакойваў сябе, то зноў насцярожваўся.

Калі Хэлп пайшоў, Клешч разгаварыўся з Нінкаю. З іх размовы Супер зразумеў, што тая таксама выйшла нядаўна з турмы, а некалі яны былі вялікія сябры.

Чакаць Хэлпа прыйшлося нядоўга. Вярнуўся той з дзвюма бутэлькамі гарэлкі. Твар у яго быў задаволе-

3 Зак. 1532

ны, і Супер здагадаўся, што гадзіннік ён прадаў з выгадай.

— Хадзем,— запрасіў усіх Клешч.

Зайшлі ў закутак двара, спыніліся ў невялічкай, напалову зруйнаванай будыніне, якую, відаць, не паспелі яшчэ знесці да канца.

Адкаркаваўшы бутэльку, Хэлп працягнуў яе Клячу. Як лідэру, з раздражненнем адзначыў Супер. Ведама ж, з такою пысай і вопытам тут толькі ў лідэрах і хадзіць.

Праламаная падлога была запляваная, усюды валяліся недакуркі, у куце стаялі пустыя бутэлькі... «Буджак» — дзе толькі дастаюць цяпер гэтую атруту?.. І дзе Хэлп мог узяць у такую пару ды яшчэ ў нядзелю гарэлку?.. Мусіць, бабулю нейкую ведае... А вунь флакончыкі з-пад «Трайнога»... Ну і свінушнік... А кампанія, а кампанія!.. Як той казаў, «не вельмі пажондная, але бардзо ганаровая». Цьфу ты!..

Божа, як змарнаваў ён дзень!.. Бацька ж толькі ўчора прывёз яму з Галандыі «Філасофію вольнага духу» Бярдзяева... Крэцін, стой цяпер тут... Дзень сплюжыў... Гэта яшчэ не самае страшнае... Глядзі, прыхопіць тут міліцыя — не абярэшся клопату. І бацька не дапаможа.

— Не бойцеся, хлопцы,— быццам адчуўшы Супераву трывогу, сказала Нінка.— Мянтоўка сюды не сунецца. Мейсца свежае, у двары, падазрэнняў ніякіх: гуляй, Вася!.. А выжлы няхай па пустках носяцца — няма дурных у цверазільнік трапляць.

Клешч перадаў бутэльку Кошу.

— Засандальвай! Пакажы, на што здатны!

Коша ўмела прыклаўся.

— Ну ты, начальнік,— прытрымаў яго за руку Клешч: Коша адпіў шмат больш, чым прызначалася яму аднаму.— Дзе ж гэта цябе так навучылі? Ва універсітэце?

— Ён у інстытуце вучыцца, у сельскагаспадарчым,— усміхнуўся Хэлп.— Добра дагледзіць калгасныя палі. Паямо хлебца!

Клешч ажно крактануў смеючыся.

— Паямо!

— Я ў садочку навучаўся,— задаволена ляпнуў Коша.— З самага маленства да нектару прывыкаў. Карысная рэч. Эсенцыя духу.

— А вучышся ты як? — спытаўся Клешч.— Не горш, чым цяпер балбочаш?

— Ён вучыцца, што мучыцца,— зарагатаў Хэлп.

— А працаваць як будзеш, калі дыплом атрымаеш? — зноў спытаўся Клешч.— Нешта ж трэба ведаць?

— Возьме ксёнжку «Тысяча і адна карысная парада» і пойдзе ў народ. З народу выйшаў, да яго і вернецца. А ў масах, простых і даверлівых, ён не прападзе!

— Гэта што ж за кніга такая? — наіўна зацікавіўся Клешч.

— Евангелле для прайдзісветаў,— зноў зарагатаў Хэлп.— «Дый навошта яму яргафія — рамізнік сам давязець!..» Ён у нас прамы нашчадак літаратурнага героя. Недаростак.

І рагатаў, і рагатаў, паказваючы пальцам на цыбатага Кошу...

— Ды заткніся ты! — злосна перапыніла яго раптам Нінка.— Слухаць моташна. Сам хто?

Хэлп паблажліва залапатаў:

— Цю-цю-цю!.. Ну не жартуй, Нінка!.. Што ж ты сябра крыўдзіш, мілка?.. Нядобра...

— Глухні, кажу! Якая я табе мілка? Сябар...

Хэлп змоўкнуў. Але на твары ў яго мільганула нічым не прыкрытая нянавісць да Нінкі. Супер грэбліва зірнуў на прыяцеля. Неданосак, перад кім бісер сыпле!

Толькі думаць пра гэта часу ўжо не было: Клешч працягваў яму бутэльку.

Суперу ніколі яшчэ не даводзілася піць гарэлку з рыльца. Але Клешч выпрабавальна глядзеў на яго — так што нічога іншага не заставалася. Супер з цяжкасцю, пераадольваючы сябе, ледзь адпіў сваю долю. Коша яшчэ раз прыклаўся да бутэлькі — з маўклівае ўхвалы Кляшча, за Хэлпа. Гарэлка хутка ўдарыла ў галаву, усе адчулі сябе ямчэй.

У Кошы развязаўся язык. Ён пачаў расказваць анекдот за анекдотам — не верылася нават, што хвілін якіх яшчэ дзесяць назад ён і паварушыцца баяўся. Але, асмялеўшы дарэшты, сам усё і сапсаваў.

— У мяне барыга адзін знаёмы,— пачаў ён,— дык той таксама сядзеў. Расказваў, такая ўжо сучая зона была...

Клешч, не даўшы Кошу дагаварыць, згроб у кулак каўнер яго кашулі:

— Слухай, ты, ваўчара... Ты мне тут воз не каці... Я на нарах пяць гадоў адзвінеў, не табе мне гэтак пра зону расказваць... Уцяміў?.. Ураз начышчу ўмывальнік...

— Не трэба, Клешч, адпусці,— ціха сказала яму Нінка.— Ну, ботае троху па фені, дык і хрэн з ім...

— Ды я... пяцярык адцягнуўшы...— пачаў быў зноў Клешч, але Нінка адразу ж перапыніла яго:

— Канчай разборы.

— Знай сваё седала каля парашы, чуеш? — папярэдзіў Кошу Клешч, адступаючы.— Казёл...

Супер здзівіўся дый толькі, убачыўшы, як лёгка паслухаўся Нінку гэты бамбіза. А сам ён цяпер ужо і не падумаў заступіцца за Кошу, адно апраўдваў сябе тым, што прыяцель сапраўды вінаваты: дурасці ў галаве зашмат, вось і нарваўся, ёлуп, на «ласку»...

Коша збянтэжана папраўляў кашулю і невядома нашто атрэсваў джынсы — працверазеў умомант.

— Бярыце, ешце. Зусім забылася на іх,— дастала Нінка з кішэні цукеркі.

Супер з недаверам паглядзеў на дарагія труфелі.

— Што зекры вылупіў, інтэлігент? — спыталася раптам Нінка, злавіўшы ягоны позірк.— Думаеш, мы і цукерак нармалёвых не можам купіць? Ды я цябе самога куплю з усім тваім г...

Супер убачыў у Нінчыных вачах, якія яшчэ зусім нядаўна здаліся пустымі, халодны бляск. Як раней Клешч на Хэлпа, яна глядзела на яго з акрэсленай перавагаю чалавека больш годнага.

Але адказваць ударам на ўдар зараз не хацелася.

Супер употай зірнуў на Кляшча. Той стаяў убаку, спінаю да іх. Толькі Хэлп разглядваў збянтэжанага прыяцеля, дзіўна ўсміхаючыся,— бачыў такім Супера ўпершыню.

— У мяне тры дні назад дзень нараджэння быў,— памаўчаўшы крыху, усё роўна як аб'явіла Нінка.— Можна сказаць, што й сёння яшчэ нараджаюся... Мяне матулька ў пакутах на гэты свет выпускала. Вось ён дагэтуль і не прымае мяне — у пакутах.

Яна засмяялася, толькі ў смеху гэтым чулася горыч.

Дапілі рэшту. Пасля трэцяга разу Коша нават пахіснуўся, але ж не адмовіўся і ад чацвёртае долі, якую, не дапіўшы сваё, прапанаваў яму Хэлп.

— Клешч, скажы, каму я сёння не праставуляла?— прыкметна ап'янеўшы, спыталася Нінка.

— Усім, Нінок, усім,— супакоіў яе Клешч.— Ты ў нас жмоткаю ніколі не была.

— Жмоткаю? Ні жмоткаю, ні шасцёркаю — ніколі,— залапатала яна, глытаючы словы.— А гэтыя дні ўвесь двор гуляе. Уся вуліца! Дваццаць гадоў усё ж такі. Гэх, мама!..

«На Дерибасовской открылася пивная»,— зацягнуў раптам гугнявым фальцэтам Коша.

Клешч зніпчальна зірнуў на яго. Коша змоўк, але ўжо не так баязліва.

Пастаяўшы яшчэ трохі ў будыніне, прайшлі ў альтанку непадалёк. Клешч некуды знік. Атрымалася так, што Супер апынуўся на лаўцы побач з Нінкаю. Тая насмешліва паглядзела яму ў вочы і сказала:

— Сядай бліжэй. І абдымі: холадна мне.

Збянтэжаны, ён паклаў ёй на плячо руку.

— Не, не так. Ніжэй,— сказала яна і адразу ж, ледзь ён пераклаў руку на талію, дадала: — Толькі віды не строй. Не абломіцца. Ты мне ўсё роўна да фені. Пагрэеш: даўно ўжо мяне не абдымалі... Ні-іхто... не абдымаў...

У гэтым «ні-іхто», мусіць, самой сабе сказаным, пачуліся Суперу смутак і безабароннасць. Ён трохі мацней прытуліў яе да сябе: стала раптам шкада гэтай непрыгожай недарэкі.

Паціху яны разгаварыліся.

Сядзела яна за тое, што адлупцавала з сяброўкай на танцах адну дзяўчыну: тая адбіла ў сяброўкі хлопца. Магло б усё абысціся і ўмоўным тэрмінам, расказвала Нінка, ды былі да таго прыводы ў дзіцячы пакой міліцыі, вось ёй і далі тры гады — на перавыхаванне. А цяпер яна жыла ціха, толькі на гэтым тыдні загуляла з нагоды дня нараджэння. Выйшла ж нейкі месяц назад, як і Клешч. Але дзень яшчэ пагудзіць — і шабаш. Адблатавала. Трапіць туды яшчэ раз не хоча. Трэба неяк па-новаму жыць пачынаць. Пойдзе, відаць, працаваць швачкаю ў атэлье: у калоніі вывучылася... Чаму ўсё так атрымалася? Бацька з маткаю ўсё прапілі — у хаце голыя сцены ды два крэслы. Трэцяга крэсла, каб ёй урокі рабіць, не было. Куды ж яшчэ ад такога жыцця ісці, як не ў альтанку ці на танцы? Ну, а там адно: цыгарэты, «чарніла», бойкі... Тая ж гісторыя, што і ў Кляшча. Толькі ён ужо бацьку свайго не тое што п'янага, ніякага не бачыў — колькі іх, тых

«бацькоў» на ноч, у маці ягонай перабывала!.. А сеў ён зусім ужо ні за што: ліхтаром у восьмым класе пасвяціў старэйшым хлопцам, у завуголлі каля дзяўчыны стаяўшы,— вось і паплыў у калонію як «харавік», бо нагаварылі на яго і тая дзяўчына і тыя падзельнікі. Так і прачаліўся праз тое глупства ажно пяць гадоў. А выдатны быў малец, вучыўся ў школе нішто... З турмы вось толькі прыйшоў нейкі злы, заводзіцца з паўабароту. Але з некаторымі ён добры, нават вельмі. З тою ж маці, напрыклад: цяпер яе хворую даглядае, у калясцы на вуліцу выкочвае — ногі ў яе праз гарэлку адняліся. Злосць у яго ад крыўды: за што ж яго, пацана, на столькі гадоў за дрот загналі?!.

Жаль, што на нейкі час узнік у Супера, прайшоў. Ведаем мы гэтыя гісторыі паводле Мапасана пра маці-шлюху і бацьку-алкаголіка, думаў ён з усмешкаю. Анёлы, дый годзе, хоць ты іх напрасткі ў рай вядзі — і чысцец не патрэбны.

Урэшце, калі Нінка вельмі ўжо слёзна пачала шкадаваць Кляшча, стаўшы меркаваць пра тое, хто б з яго мог выйсці, каб не гэты ліхтар, Супер не вытрымаў:

— Дык адкуль тады ў яго даўжнікі? За месяц волі набыў? Ці старыя, як сам кажа? Тады не ў ліхтары справа.

— Адкуль? З турмы яны ўсе, даўжнікі ягоныя. Разам кантаваліся, толькі тыя раней выйшлі.

— Перавыхаваўся, так сказаць. Ты ж толькі паглядзі на яго: жывая ілюстрацыя да падручніка Ламброза.

— Каго? — адхінулася ад яго Нінка.

— Ламброза,— паўтарыў ён.— Быў такі прафесар-крыміналіст. Распрацаваў тэорыю, што ў асноўным людзі робяцца злачынцамі непазбежна — у адпаведнасці з іх антрапалагічнымі... біялагічнымі, значыць, прыкметамі.

— Гэта якімі ж?

— Ну, чэрап, скажам, форма і велічыня лба,— пачаў быў тлумачыць Супер, але адразу ж спыніўся, заўважыўшы ў Нінчыных вачах непрыемны агеньчык,— ну і ўсё такое.

— Ламброза, кажаш? Бачу я, разумнік ты. Дзе вучышся?

Супер адказаў.

— Спікаеш, значыць? Арыстакрат!.. Прафесараў начытаўся... Ну, а хто тады я?.. Таксама ілюстрацыя?.. Што маўчыш, га?.. Адказвай, калі я пытаю.

— А ты — нічога,— яшчэ больш насцярожыўся Супер.

— Нармалёвая? — спыталася яна з пагрозаю.

— Нармалёвая,— паспрабаваў ён лагодна ўсміхнуцца.— Дзеўка ў парадку. У цябе так... выдаткі лёсу...

— Выдаткі лёсу?.. Бач ты...

І дзе толькі гэтыя га́ды навучыліся так вачыма душу выварочваць, думаў ён пад яе невыносным позіркам.

— Тлумач.— Яна ўстала і выйшла на сярэдзіну альтанкі, усё роўна як суд над ім збіралася чыніць.

Супер глянуў убок, куды раней адышлі былі Коша з Хэлпам.

Тыя, мабыць, пачуўшы іх такую ўжо пяшчотную ўпачатку размову, далі ім магчымасць застацца ўдваіх.

Трэба спыніць гэтую гамонку, занепакоіўся ён, а то хто яго ведае, што з усяго гэтага можа выйсці... Ну, і дэградат: напраўду пачаў ужо быў цеплыню яе таліі адчуваць — гэта ж трэба, жанчыну сустрэў!.. І думай, што вярзеш, а то ляпнуў: «Ілюстрацыя...»

Нінка таксама стала ўзірацца некуды ў двор. Супер павярнуў галаву туды ж.

Набліжаўся Клешч.

У сутонні ягоная постаць, якая нібыта выплывала

аднекуль здалёк, проста палохала: хрэстаматыйны забойца з дэтэктыўнага фільма. Монстр. Раздушыць, як муху.

— Дык тлумач, што маўчыш? — зноў утаропілася яна ў яго пагардліва-халоднымі вачыма. Стаяла быццам укапаная, усё на тым самым месцы.

— Не пашэнціла табе — вось і ўсё.

— Гэта я зразумела. Ты пра яго,— кіўнула яна на Кляшча.

На сябрука ківае, гадаўка, вылаяўся сам сабе Супер. Ведае, на што ціснуць...

— Ну, я не стаў бы ліхтаром свяціць. У пятнаццаць гадоў ён бы мог і разумнейшы быць,— не адразу знайшоў ён адказ.

Клешч спыніўся каля Кошы з Хэлпам, загаварыў з імі.

— Гэта ты праўду кажаш,— згадзілася раптам Нінка.— Толькі чэрап у яго не горшы за твой. Клешч — чалавек. Сумленны і справядлівы. І не дурнейшы за цябе — дарма што ты кніг начытаўся. Так што носа не задзірай: супраць яго ты ўсё роўна слізняк. Разумееш? Сліз-няк.

Гэта быў ужо здзек. Але вытрываць прыйдзецца. Зірнуўшы яшчэ раз у бок Кляшча, ён падумаў, што зноў, пэўна, трэба будзе заняцца каратэ, бо ніякая гэта не другарадная рэч: хліпкі ты яшчэ, братка, перад кім сцелешся...

— Усёк? — спыталася Нінка.

Кіўнуўшы галавою, ён слаба ўсміхнуўся. Нібыта згаджаўся — і разам з тым было ў гэтай кіславатай усмешцы паблажлівае «ну-ну».

Але, разгледзеўшы праз гэтую маску ягоную баязлівасць, Нінка здаволілася.

— Ну, вось і добра. А чаго з імі цягаешся? — зноў сеўшы побач з ім, паказала яна на Кошу з Хэлпам.

— Ну, як табе адказаць?.. Трэба ж з кімсьці...

— Дык чаму не з тымі, з кім вучышся? — перапыніла Нінка.

— Ведаеш, не хачу раскрывацца.

Адлягла ўсярэдзіне халадэча.

— Значыць, ёсць што хаваць?

— Ды не вельмі...

— Так я табе і паверыла.— Яна нібыта працінала яго сваім позіркам.

— Думай, як хочаш...

Хоць і напалохала нечаканая яе пранікліваснь, але ўсё ж Нінчыны пытанні былі яму прыемныя: з'явіўся раптам шанц прыўзняцца ў вачах гэтай дзеўкі.

Толькі шчыраваць усё роўна не варта, адразу ж стрымаў ён сябе. Няма перад кім вылузвацца, дый увогуле непатрэбна гэта нідзе: душу сваю напаказ выстаўляць. Душа, гэта як сховішча: пакуль тоіш — тваё, адкрыў — дрыжы за яго. З гэтай прасцячкай, каб уразіць, усяго можна наплесці — ад каго ж яшчэ пачуе такое? Але навошта?

— Проста лепш так,— адказаў ён,— нібыта я ў загадкавым арэоле.

— Не разумею...

— Што не разумееш?.. Арэ...

— Ды не выпінайся ты ўжо,— абарвала яна яго.— Ведаю я, што за арэол. Усе ў лікбезе вучыліся. Не разумею, што ты за чалавек — вось што.. Няма ў цябе, мусіць, сяброў... Я ж іх наскрозь бачу: фарцы,— кіўнула яна на Кошу з Хэлпам.— Гэты твой Хэлп — такіх, як ты, тры слізнякі.

Супер зноў сцярпеў.

— За анучу з лэйбаю маці прадасць. Дый пустэча... Ты хоць пра Ламброзаў можаш расказаць... Паважаю, калі хто многа чытаў... Ты ж не ведаеш, як я любіла чытаць — жах!.. «Эфі Брыст» чытала, «Джэн Эйр»...

«Сястру Кэры»... Бог ты мой, пазабывала ўсё... А цяпер вось «Вясновыя воды» чытаю... Тургенева... Во, хоць аднаго аўтара ўспомніла... І гад жа ён быў, га?

— Хто? — збянтэжыўся Супер.

— Ну, не Тургенеў жа... Гэты, як яго... Санін... Дзмітрый Паўлавіч... Ты як думаеш?

— Я?.. Ды як тут сказаць? — пачаў ён выкручвацца, не ведаючы, што і сказаць: «Вясновых водаў» ён не чытаў, як, урэшце, і наогул Тургенева, памятаў толькі сёе-тое са школьных падручнікаў па літаратуры.— З аднаго боку...

— Што з таго, што з гэтага,— перапыніла яна.— А, ты ўсё роўна не зразумееш!.. Вы ж, мужчыны,— лічы што не людзі. Здраднікі ўсе і падлюгі. Такое, за што Тургеневу душа балела, вам — салодкая вадзічка... Абы глотку заліць ды пагуляць. Вас я ўжо ведаю. І тут і на зоне бачыла — пад завязку, болей не трэба. Чэрствыя ўсе, драўляныя нейкія. Мякчэеце толькі, як падкаціцца хочаце. Так і прэ з вас тады ліслівасць — моташна глянуць! Ды што з вас возьмеш: каты марцовыя... Аднаго Кляшча прызнаю за чалавека!.. Аднаго яго. Я не кажу, канечне, пра тых, хто кніжкі піша. Гэтыя — іншыя. Калі толькі не маняць... Ды дзе яны?

Яна зноў адхінулася ад яго.

— Слухай, ты ж, можа, бачыў каго з іх — з пісьменнікаў?.. Я дык бачыла аднаго!.. Не, у школу да нас калі-нікалі прыходзілі. Канферэнцыі розныя там, кніжкіны тыдні... А то раз сама сустрэла, у горадзе, іду сабе так неяк зімой па праспекце, гляджу — бог ты мой, на самым людным мейсцы, сярод тратуара дзядзька ляжыць. Тратуар такі зледзянелы — і цвярозы пакоціцца, не тое што п'яны. Дык ён упаў і ўстаць не можа. А ўсе яго абыходзяць. Ну чаму?.. Хоць і п'яны — усё адно ж чалавек!.. Падышла да яго...

Слухаючы Нінку, Супер пазіраў на Кляшча з Ко-

шам і Хэлпам — чаму яны там стаяць, не падыходзяць? Ды няхай бы лепш і не вярталіся: спакайней без гэтага бандзюгі.

А можа, і напраўду зладзіць што з ёю?.. Не святая ж... Смех, ды толькі: «Эфі Брыст»... Цырк на дроце. Звар'яцець можна ад яе пераходаў — во дзе выкруты! Дык тым цікавей будзе: экзотыка. Табе ж даспадобы, здаецца, вострыя пачуцці? Такую лэдзі ўзяць, з гэткімі вывертамі — не жарт. Дый талія ў яе нічога... бюст...

— Дапамагла ўстаць, павяла, куды папрасіў,— расказвала Нінка.— Ідзём. Тут ён па дарозе мне і кажа: пісьменнік я, ганарар атрымаў — за вершы. Нават сказаў, дзе іх надрукаваў, ды я не запомніла. Давяла яго ажно да самай хаты. І што? Жонка так і наляцела на мяне: што, са старымі, вош малая, цягаешся? А я назаўтра ўзяла дый расказала ўсё ў школе — на ўроку літаратуры. Настаўніцу толькі шкада было, стагналі ж усе ад рогату... Але які гэта пісьменнік?.. Хіба пісьменніку так можна?.. Як у яго нахабнасці хапіла прызнацца ў такім выглядзе, хто ён?.. Ты ж, калі свіння, дык хоць імя сваё не гань — *пісьменнік*... Ты ж святы павінен быць, раз вучыш нас розным гэтым штучкам — дабрыня там, шчырасць, чысціня, сумленне... Як вучыш, так і сам жыві!.. А ён яшчэ, відаць, і з дзеўкамі гуляў, раз жонка ягоная з-за мяне такі гвалт усчала... Дый спатканне ж мне, корч стары, назначыць пнуўся, цiснуўся ўсё да мяне, хоць і лыка не вязаў!.. Я тады адно смяялася з дзядзькі: хай, думаю, пажартуе — не разумела ж яшчэ нічога. А цяпер дык наскрозь яго бачу: так і з'еў бы мяне вочкамі, кот паскудны! А жонка за яго ў сто разоў была прыгажэйшая. Дарма што крыклівая — нясоладка ёй, відаць, з такім валацугам было, ад яго ж самога ўся і бяда... Вершы свае мне чытаў. Не спадабаліся: пыхлівыя нейкія... Пра каханне многа было... Ён яшчэ, свіння, і

пра гэта мог... Дык ты сапраўднага бачыў?.. Пісьменніка?

— Бачыў, канечне. Да бацькі, бывае, прыходзяць.

Супер не зманіў. У іх дома і кампазітары бывалі, і вучоныя: бацька любіў запрашаць вядомых людзей. Але хоць вонкава і ставіўся да іх з павагаю, на справе лічыў сябе вышэйшым. Ва ўсякім разе, трымаў сябе з імі на роўных, а пасля таго, як яны выходзілі з дому, пасмейваўся з многіх. А што: у «фазэра» і грошы не меншыя, і становішча стабільнае. А то хадзіў да іх колькі гадоў назад адзін драматург: дык тады на «Вольва» да іх прыязджаў, а цяпер абдзірос натуральны — Супер неяк бачыў яго на вуліцы.

— Што, праўда прыходзяць? — перапытала Нінка.

— Кажу табе.

Нейкі час яна маўчала. Па твары было відаць, што думала. Пасля раптам зноў утаропілася ў яго шалёнымі вачыма.

— Ну і што, што ты бачыў, а я не ба-чыла?.. Да твайго бацькі пісьменнікі ходзяць, а да маці маёй — на-сосы. Што з таго?

— Нічога,— не зусім упэўнена адказаў Супер, бо хоць і перастаў ужо здзіўляцца зменам у яе настроі, затое ўсплыло падазрэнне: можа, усе гэтыя фортэлі — толькі тэатр прайдзісветкі?

— А не веру я — вось і ўсё. Ні ў пісьменнікаў, ні ўвогуле ў людзей. Хлусня ўсё гэта. Памерлі пісьменнікі. І людзі таксама. Яшчэ да таго, як мы нарадзіліся. У хлусні ўсё патанула, і ніколі з яе ўжо не выплыве. Усе вакол — мёртвыя. Каму верыць? — ціха, да шчымлівасці адкрыта спыталася Нінка, ажно ён адчуў сябе трохі разгубленым.— Нікому я не веру. У мяне і маці няма...

— Дык ты што, адна жывеш? — з раптоўнай надзеяй спытаўся Супер, і абарваліся ў ім і спачуванне, і разуменне.

— З маці,— адказала Нінка. Голас яе задрыжэў.— Толькі як няма яе ўсё роўна... Яна нават *туды* толькі раз да мяне прыязджала, хоць я і зусім недалёка адсюль сядзела... Клешч адзін — болей нікога няма... Ён мяне пакрыўдзіць не дасць. Адзін ■ усіх, каго ведаю,— чалавек... Я яму — як сястра...

— Ды што ты завялася з гэтым Кляшчом? — не вытрываў Супер, зусім забыўшыся на тое, што вось ён, побач, хвіліна хады,— ахоўнік яе і абаронца.

Але замест таго каб кінуцца ў новы выверт, якога ён ужо чакаў, Нінка прыпала раптам да яго вуха гарачымі вуснамі і прашаптала:

— Пацалуй мяне...

Гэта быў такі ціхі шэпт, што ледзьве словы можна было пачуць, Супер нават падумаў, што тое яму здалося, але Нінка так на яго паглядзела, што ён зразумеў усё...

— Выпіць хочаш? — абарвала яна пацалунак.

Суперу аж дух заняло. Так усё было неспадзявана і востра, што кружылася галава — нічога падобнага ён, здавалася, і не адчуваў ніколі. Гэта быў доўгі пацалунак жанчыны — і разам з тым пяшчотны дотык дзіцяці. Відаць, выпакутавала яна гэты свой шэпт...

Супер зноў прыхінуўся да яе. Ён нічога не бачыў ужо, нават Кляшча, які зірнуў у бок альтанкі і, здзіўлены, застыў.

Але Нінка лёгенька адштурхнула яго і спыталася яшчэ раз:

— Дык хочаш ці не?

Піць яму зусім не хацелася, ды абдала прыемным халадком раптоўная здагадка.

— Давай,— адказаў ён.

— Хадзем.

— Куды? — спытаўся Супер.

— Што пытаешся? — здзекліва ўсміхнулася Нін-

ка.— Не люблю я, калі распытваюць. Раз вяду, значыць, ведаю. Ці баішся? Дык не трэба: не згвалчу.— Яна гучна зарагатала.

Суперу стала ніякавата, а Клешч, пачуўшы яе смех, супакоіўся.

Нінка прывяла Супера ў пад'езд і загадала пачакаць. Ён расчаравана згадзіўся. Вярнулася яна хвілін праз пяць.

— Дома маці? — спытаўся ён.

— Ты прабач,— неяк вінавата пачала Нінка, нібыта і не пачуўшы пытання,— няма чаго... выпіць... Але затое я во што прынесла.— Яна дастала з кішэні і працягнула яму фотакарткі.— Глядзі. Пазнаеш?.. Гэта я ў дзіцячым садочку... А гэта вось з мамай... у першым класе... А гэта...

Супер не мог даць веры, што гэтая маленькая прыгожая дзяўчынка, няшмат большая за партфель у яе руках, з вялікімі бантамі ў валасах і шчаслівай усмешкай на твары, і ёсць цяперашняя Нінка... Але здзіўленне яго не было надта доўгае і вялікае, бо цікавіла іншае.

— А ты нічога... дзяўчынка была,— сказаў ён і палез цалавацца, прасоўваючы руку пад кофтачку.

— Не трэба,— гэтаксама лёгенька, як і ў альтанцы, адхіліла яна яго.— Хадзем.

Аддаючы фотакарткі назад, ён зазірнуў ёй у вочы — і ўсё зразумеў. Яна і не збіралася частаваць яго пітвом, калі вяла сюды, як і не думала пра тое, аб чым думаў ён, а нашто вяла, саромелася прызнацца.

Уломваць цябе яшчэ трэба, са злосцю падумаў ён, гледзячы Нінцы ў спіну, калі пасунуўся следам за ёй да альтанкі. Фотакарткі стала паказваць! Фільм індыйскі будзе мне тут круціць...

А можа... Можа, так яно і лепш, раптам усцешыўся ён здагадкаю. Не час яшчэ заводзіцца: няхай Клешч знікне. Гэтая ведае, што робіць. Расчараванне і злосць

адразу ж прайшлі. У альтанку ён вярнуўся нават вясёлы, з парога засмяяўся грубаму Нінчынаму жарту наконт нязграбнага, даўжэзнага Кошы.

А той, мусіць, зусім ужо не баяўся Кляшча: сядзеў поруч з ім, паклаўшы яму галаву на плячо. Хлопцы, відаць, пакуль былі адны, выпілі яшчэ. Хэлп ляжаў, выпрастаўшыся на лаўцы, а Клешч бы скамянеў — глядзеў некуды ў цемру нерухомымі журботнымі вачыма.

Нінка раптам дала Суперу знак, каб ён перастаў смяяцца, і ціха прысела насупраць Кляшча.

— Чакайце! — сказаў той праз якую хвіліну, варухнуўшы рукою.

— Пець зараз будзе,— шапнула Нінка Суперу на вуха.— Яму б у операх выступаць... Ён калісь у хоры спяваў, пры Палацы піянераў. Салістам быў. Яго па тэлевізары нават паказвалі... Дыктар так і сказаў: наш беларускі Рабербціна Ларэці... А ты: Ламброза...

Клешч набраў поўныя грудзі паветра і гучна зацягнуў:

Выхожу один я на дорогу;
Сквозь туман кремнистый путь блестит;
Ночь тиха. Пустыня внемлет богу,
И звезда с звездою говорит.

Спяваў ён выдатна — толькі дрыжаў крыху голас. Супер здзіўлена ўзіраўся ў Кляшча.

В небесах торжественно и чудно!
Спит земля в сияньи голубом...
Что же мне так больно и так трудно?
Жду ль чего, жалею ли о чем?

— Бачыш, душа якая? — шапнула Суперу Нінка, выціраючы слёзы.

Хэлп узняўся і сеў. Нават Коша заварушыўся. Магутны быў голас...

Уж не жду от жизни ничего я,
И не жаль мне прошлого ничуть;
Я ищу свободы и покоя!
Я б хотел забыться и заснуть!

— Усё. Адспяваў,— спыніўся раптам Клешч і закрыў велізарнымі далонямі твар. На нейкі момант стала ціха-ціха, быццам замерла ўсё наўкол, але тут хтосьці ў доме ўлупіў на ўсю моц «Песню варажскага госця» ў выкананні Марка Рэйзена; прагучала тое нібыта здзек з вулічнага спевака-«гарлапана».

Суперу здалося, што Клешч заплакаў. Ва ўсякім разе, рукі, якімі ён прыкрываў твар, ледзь прыкметна дрыжэлі. Але неўзабаве ён апусціў іх, абвёў усіх сваім цяжкім позіркам і загадаў Хэлпу дастаць гарэлку. Той нагнуўся і выцягнуў з-пад лаўкі бутэльку.

— Прыходзіў тут адзін даўжнік да Кляшча, так што праставіў, пакуль вас не было,— растлумачыў Хэлп Суперу.

Распілі і гэтую, апошнюю ўжо бутэльку. Кошу ягоная доля зусім ужо лішняя была: гарэлка так і цякла па яго падбародку. І Хэлпа, толькі ён адпіў глыток, ледзь не званітавала. Супер зразумеў, чаму той так ахвотна ўступаў раней сваю долю Кошу: проста так адмовіцца піць перад Кляшчом не хацеў.

Прайшла якая хвіліна, і Коша стаў лапатаць нешта сам сабе па-англійску. Зірнуўшы на яго, Клешч узняўся і сказаў, што, відаць, час ужо разыходзіцца.

Хэлп з Суперам узялі Кошу пад рукі, і ўсе пабрылі з двара на вуліцу. Коша ледзь цягнуў па асфальце ногі і ў адказ на Хэлпавы кухталі і праклёны толькі мыкаў нешта сабе пад нос.

Клешч спыніў таксі. Коша, невядома адкуль узяўшы сілы, кінуўся раптам цалаваць свайго нядаўняга злосніка. Кляшчу з цяжкасцю ўдалося пасадзіць яго ў машыну. Таксіст адмаўляўся браць такога пасажыра, але Клешч так паглядзеў на яго, што той змоўк.

— А ты? — спытаўся Клешч у Супера, убачыўшы, што той адышоў убок.

— Я застаюся,— адказаў Супер, трываючы нялёгкі Кляшчоў позірк.

— Як хочаш,— сказаў Клешч, глянуўшы на Нінку,— тая моўчкі заплюшчыла вочы.

— Хто ж тады з ім? — кіўнуў Клешч на Кошу, які прыладзіўся ўжо спаць, і перавёў позірк на Хэлпа. Таму прыйшлося сесці ў машыну.

Таксі паехала, а Клешч знік у цемры.

— Ну што, хадзем? — спытаўся Супер у Нінкі.

— Хадзем,— адказала тая.

Па дарозе ён выглядваў месца, дзе можна было спыніцца.

— Тут,— сказаў ён, прыгледзеўшы тую самую будыніну, у якой яны пілі гарэлку.

— Не,— крутнула Нінка галавою.

Супер падумаў, што яна проста ведае лепшае месца. А то ў будыніне і напраўду надта ўжо брудна было. Дый заскочыць хто мог неспадзеўкі. Ён упэўнены быў, што яны разумеюць адно аднаго. Нінка завяла яго ў нейкі двор. Агледзеўшыся, зайшла ў пад'езд, стала ўздымацца па лесвіцы. Перад апошнім паверхам спынілася.

Вось яно што, вырашыў Супер. Чорт з ім, можна і тут. Светла вось толькі, мо захоча, каб лямпачку разбіў?.. Ён прываліў Нінку да сцяны і, расшпільваючы кофтачку, палез цалавацца.

— Адчапіся, ну! — адштурхнула яна яго і пайшла ўверх.

З кватэры, каля якой яна спынілася, чулася музыка.

— Куды мы? — спытаўся Супер.

— У госці,— бы ў сне, адказала Нінка, думаючы пра нешта сваё.— Выпіць трэба.

— Навошта? — дзівіўся ён.— Мы ж і так ужо...

— А, кінь, арыстакрат,— з раздражненнем перапыніла яна.— Ну што, што разумееш ты ў жыцці?

Зноў выверт, падумаў Супер. Забылася, мусіць, што Кляшча тут паблізу няма. Але даруем ёй гэта. Ды толькі ж навошта, навошта ісці зараз у нейкія госці?

Нінка ступіла крок да дзвярэй, пацягнула ручку на сябе і ўвайшла ў кватэру, нават не пазваніўшы. Пастаяўшы трохі ў калідоры, яны прайшлі ў пакой: Нінка — спераду, Супер — за ёю. І ў пакоі, і ў калідоры быў даўні ўжо і, відаць, звычны разрух. Нарэшце трапілі на кухню.

Там, за сталом, застаўленым пустымі бутэлькамі і талеркамі з рэшткамі ежы, сядзелі дзве п'яныя дзеўкі: адна — здаравенная, гарбаносая, другая — маленькая, бледная, з дробнымі, птушынымі рысамі твару. Яны пра нешта спрачаліся.

— Здарова! — сказала Нінка.

— Здарова,— здзіўлена ўзіраючыся ў Нінку, павольна адказала гарбаносая, агледзела Супера з галавы да ног і кіўнула на зэдлікі.— Сядайце.

Маленькая намацала на стале рваны пачак «Прымы». Той быў пусты. Яна выбрала з талеркі з-пад вінегрэту, дзе валяліся недакуркі, даўжэйшы бычок і закурыла. Супера ажно перасмыкнула.

З Нінчынай размовы з дзеўкамі, маруднай і скупой на словы, Супер зразумеў, што гарбаносая і была тая самая сяброўка, разам з якою судзілі Нінку, і што адносіны іх у калоніі былі дужа сапсаваныя. «Што ж ты прысунулася сюды, ідыётка?» — збянтэжана глядзеў ён на Нінку.

Праз некалькі хвілін прыйшлі два хлопцы — нейкія дробныя, тузаныя, з сінімі ад татуіроўкі рукамі. Супер адразу ж скеміў: зэкі. Можа, і не мацёрыя, у іх сістэме без асаблівага аўтарытэту, але ўсё ж такі відавочна блатныя. Прыйшлося паціснуцца — Нінка села Суперу на калені. Той употай узіраўся ў гасцей.

— А хто гэта з табою? — спыталася раптам гарбаносая ў Нінкі, кіўнуўшы на Супера.

— Брат,— адказала Нінка.

Усе засмяяліся.

— Бра-ат,— ухмыляючыся, прасіпеў хлопец са шрамам на пічацэ. Смеючыся, ён апусціў павекі. Супер убачыў на іх наколку: «Вор спит».

Хоць бы мяне гэтыя не ўходалі, адчуў ён страх. І якога чорта пасунуўся за прыпыленай — нібыта лепшай заўтра не знойдзеш? Закарцела дзятлу гульнуць.

Але ён хутка адагнаў трывогу, выпіўшы чарку цёплай, прыкрай гарэлкі, якую яму, падміргваючы, наліў блатны з татуіроўкаю на павеках. Да таго ж, Супер трохі супакоіў сябе яшчэ і тым, што гэтыя малойчыкі з выгляду былі хліпкія, не раўня Кляшчу — з імі ён ужо, калі што, як-небудзь справіцца.

Неўзабаве падступіла млоснасць. І гарэлка ўжо ў горла не лезла, і задуха на кухні была страшэнная. Ён хацеў папрасіць Нінку ўстаць, каб можна было выбрацца з-за стала, але тая ўзнялася сама і, пахіствваючыся, прайшла ў ванную. Пачакаўшы крыху, туды ж, не пастукаўшыся, уваліўся і ён. Нінка стаяла каля ўмывальніка і зашпільвала кофтачку.

У Супера нават і млосць адступіла — нібыта і не было яе зусім. Зачыніць дзверы на засаўку, ніхто і не пачуе... Ён прыціснуў яе да сцяны, але Нінка адштурхнула яго і выскачыла...

Калі высунуўся ў калідор, пачуў шум. Зэкі чамусьці выпіхвалі Нінку з вітальні на лесвічную пляцоўку. Нешта, відаць, пакуль яго не было, у іх там на кухні здарылася. Нінка плакала і ўпарцілася, хацела вярнуцца назад — яе ледзь стрымлівалі каля дзвярэй. Дзеўкі — яны засталіся на кухні — пакрыквалі: «Умантульце ёй, умантульце!.. Што вы там з ёю цацкаецеся?..»

Супер замёр. Яму ўсё ж такі не хацелася звязвацца

і з гэтымі блатнякамі, якія б слабыя яны ні былі — нават Нінку не маглі выпхнуць. Ім тут і дзеўкі на дапамогу кінуцца. Морду, пэўна, ужо скрывавяць...

Але глядзець на ўсё гэта было яму нялёгка.

Урэшце адзін з хлопцаў не вытрымаў і з усяе сілы ўдарыў Нінку ў твар. Тая ўпала, і яе пацягнулі ўніз па лесвіцы.

Пачакаўшы крыху, Супер на дыбачках прайшоў у вітальню і выслізнуў з кватэры. Гвалту ўжо не было чуваць. І хмель у яго ўмомант прайшоў. Гэта ж трэба было ўлезці ў такі гадзючнік!..

Асцярожна спусціўшыся на першы паверх, ён выглянуў з пад'езда.

Зэкі праганялі Нінку з двара — тая з плачам адступала назад і, адчайна жэстыкулюючы, нешта ім даводзіла.

— Вы ж не ведаеце,— данеслася да Супера,— як тое ўсё было... Не вінаватая я зусім... Гэта ж яна мяне...

Ён не ведаў, што рабіць. І шкада было гэтую вар'ятку, але ж ці саўладае ўсё-такі ён з двума?.. Гэтыя няйначай як толькі з нажом і ходзяць. П'яны ён, дый няма, як кажуць гэтыя дэбілы, прыёма процi лома. Не, лепш неяк знікнуць. Бегчы?.. Могуць дагнаць, хоць і дохлыя. І ганьбы не абабрацца. Во было б смеху, калі б заўтра Нінка расказала пра такое Хэлпу!.. Трэба выбраць зручны момант, каб ніхто яго не ўбачыў.

Ён агледзеўся ў пад'ездзе. Позірк яго спыніўся на дзвярах, што вялі ў сутарэнне. Туды! Штурхнуўшы дзверы, зрабіў крок уніз і адразу ж вылаяўся: хоць і цёмна было, ды ўсё ж адчуў, у што ступіў. Зрабіў яшчэ крок і ўпаў, зачапіўшыся нагою за прэнт. Цяпер ён сядзеў, пацiраючы выцятае калена, ціха ныў і, на чым свет стаіць, кляў і сябе, і ўсіх тых, праз каго тут апынуўся. Урэшце асцярожна, ледзь не на карачках дабраўся да ніжэйшых дзвярэй. Штурхнуўшы гэтыя, зноў мацюкнуўся: дзверы былі замкнёныя. Што рабіць? Не

заставацца ж тут... Гэтыя, як надумаюцца заскочыць сюды пашукаць яго, затаўкуць. Давялося зноў лезці наверх. У пад'ездзе ён адразу ж выглянуў на двор. Зэкі білі Нінку і рукамі і нагамі — яна ледзь паспявала прыкрыць то твар, то жывот.

А што, як усё ж такі накрыць іх са спіны і ўпластаць аднаго за адным на асфальт?.. Хліпакі — ён іх ураз аформіць... Галоўнае — хуткасць... Яны і ўцяміць нічога не паспеюць... Напружыўшыся, Супер нават тузануўся быў уперад.

Не, адумаўся ён, не шукай сабе прыгоды. Заўтра сход курса. Дэкан казаў, што могуць выбраць старастам. Займацца грамадскай работай, як ні шкада часу, усё ж такі неабходна: інакш да размеркавання першым не прыйсці. А што, калі ён, увязаўшыся ў гэтую гісторыю, трапіць у міліцыю?..

Было позна, Нінка чамусьці не крычала, і ў доме, напэўна, ніхто і не чуў, што робіцца на двары.

А раз'ятраныя зэкі на ўсё ўжо забыліся і бачылі толькі Нінку.

Можна было ліняць.

Ён атрос джынсы, выцер аб падлогу чаравікі, заправіў кашулю і імкліва выйшаў на ганак. Да выратавальнага рога, за якім ён стаў бы зусім тут нябачны, было метраў сем-восем.

Але прайсці непрыкметна не ўдалося: зэк з татуіроўкаю на павеках раптам зірнуў у ягоны бок.

— Чакай, хлопчык, не спяшай,— спыніў ён Супера, толькі той ступіў два крокі.— Нам і з табой пагаманіць трэба.

На твары ў Супера расплылася рахманая ўсмешка:

— Ну, што яна там адмачыла? — выціснуў ён з сябе, з усяе сілы намагаючыся трымацца спакойна.

Угледзеўшыся Суперу ў твар, зэк сплюнуў:

— Плявузгае шмат, падла!.. І дзе ж толькі ты яе

падчапіў?.. Ну, валі адсюль! І каб я ценю твайго тут не бачыў! Кыш!

Ён зноў кінуўся да Нінкі.

Прайшоўшы за рог, Супер затаіўся: было-такі цікава, чым усё скончыцца.

Неўзабаве Нінка ўпала і скурчылася на асфальце. Ударыўшы яе яшчэ некалькі разоў нагамі, хлопцы нешта сказалі адзін аднаму і пасунуліся ў пад'езд.

Праз якую хвіліну Нінка ўстала і, усхліпваючы, пацягнулася ў суседні двор.

Абагнуўшы дом з другога боку, пайшоў за ёю і Супер.

Не мог ён згадзіцца, каб гэты і без таго нікчэмны дзень скончыўся поўным яго паражэннем: надта ўжо шмат зняважы перажыў ён, каб адпусціць за так лярву, што столькі вадзіла яго за нос, бы хлопчыка. Якія ж толькі рылы ні здзекаваліся з яго сёння!

Ён павінен быў сцвердзіць сябе, паставіць урэшце на калені гэтую дзеўку.

І няўжо яна не хацела таго ж, чаго дамагаўся ён? Гэтага проста быць не магло: навошта ж тады ўся гэтая п'янка, абдымкі і пацалункі?..

Яму здавалася, што яна п'яная і не чула, не магла чуць ягонай размовы з зэкам. Напачатку трэба было суцешыць яе: без хітрасці нічога не выйдзе. Вачыма ён зноў шукаў месца, дзе б можна было нагнаць яе і спыніцца. Урэшце зраўняўся з ёю і абняў за плячо.

Нінка ажно скаланулася.

— Не чапай мяне! Ненавіджу! — Яна ўсхліпвала, расціраючы слёзы па твары запэцканымі ў зямлю і кроў рукамі.— Заступіцца не мог!.. Такіх мазглякоў пабаяўся!

— Аб чым ты?

Супер зноў абняў яе — Нінка адштурхнула яго, але сілы ў яе, відаць, не было ўжо ніякай.

Ён стаў хлусіць, што нічога не бачыў, бо доўга быў

у ваннай, а на двары апынуўся, калі гэтыя блатныя ўжо ішлі да пад'езда — ты раскажы, што здарылася.

— Не дакранайся! — вочы ў яе былі поўныя агіды.

— Ты што, звар'яцела, дурніца? — засмяяўся Супер.

— Ты, ты,— дрыжэла яна ўся,— гніда... Думала, ёсць яшчэ ў табе чалавечае нешта... Я ж бачыла, як ты хацеў уцячы...

Яна задыхалася, рот у яе крывіўся.

Лютасць захліснула яго.

Ён зразумеў урэшце, што нічога ўжо не будзе, нічога — і адчуў нясцерпнае жаданне зараз жа адплаціць ёй за ўсё. Размахнуўся нагою і з усяе сілы ўдарыў Нінку ззаду. Але, падаючы, яна ўсё ж устояла, выпрасталася, заенчыла і пабегла. Дагнаўшы яе, ён ударыў яшчэ раз, ды Нінка і цяпер не ўпала.

— А-а-а-а! — ужо галасіла яна, ухіляючыся ад новых удараў.

Нінка крычала так гучна, проста ўзвыла, што яму самому зрабілася жудасна. Падумалася раптам, што і тут могуць апынуцца яе дружбакі. Халера з ёю, сказаў ён сабе і спыніўся.

А Нінка ўсё бегла — хістаючыся, пятляючы — і нема крычала.

Яму здавалася, што яе чуюць цяпер ва ўсіх дамах навокал. Гэта ж трэба так раўці!.. У адным з вокнаў запалілася святло, пасля ў другім, трэцім...

Яго нібыта абклалі, што ваўка... Усё роўна як загналі ў пастку, адкуль не выбрацца... абклалі гэтымі электрычнымі агнямі, быццам паляўнічыя флажкамі... Яго, маладога ваўка... Зараз выскачаць на двор, будуць лавіць яго, біць... Хамы... За што?..

У горле сушыла. Ён аблізаў вусны языком — той бы здранцвеў.

— Змоўкнеш ты, падла, ці не? — слабым голасам крыкнуў ён Нінцы ўслед.

Яна ўжо адбегла ад яго метраў на трыццаць, але галасіла яшчэ гучней.

А што, калі напраўду выскачыць хто з дому? Трэба матаць адсюль, дурань... даўно трэба...

І што гэта на яго найшло?.. Затарможаны нейкі, тлум у галаве... Гарэлка праклятая...

Ён агледзеўся: куды ж ірвануць?.. Непадалёк вымалёўвалася ў цемры цьмянымі абрысамі тая самая будыніна, у якой яны пілі гарэлку. Дык во куды яго зноў занесла... Далей адсюль, далей...

Ён ступіў крок, другі — і тут раптам адчуў на плячы чыюсьці руку. У яго ажно дыханне перахапіла. Ногі сталі зусім ватныя, нібыта і не яму ўжо належалі. Усё, сказаў ён сабе: Клешч... Так і ўявіў перад сабою ягоны каменны твар...

Не, пабаіцца... Сам казаў: удвая, як павяжуць, накінуць... А яму маці ў калясцы трэба выкочваць... І што гэтая вар'ятка так лямантуе дагэтуль?..

Ён азірнуўся, як ні цяжка і страшна было гэта зрабіць.

Перад ім стаяў і па-дурному лыбіўся ў самыя вочы Хэлп.

Супера мала не закалаціла. Ён занёс руку і з усяе сілы ўдарыў Хэлпа кулаком у жывот, пасля ў скроню.

Той пахіснуўся і грымнуўся вобзем.

Назаўтра ўвечары Супер сядзеў у бары і пацягваў кактэйль.

З алкаголем скончана. Толькі цяпер вось, каб аправіцца пасля шоку, ён дазволіць сабе шклянку кактэйлю. Псіхіку неабходна загартоўваць: элементарна мог бы ўчора зліняць, калі б трымаў сябе ў руках. А яшчэ лічыў сябе сфармаванай асобай, сапляк!..

Коша з Хэлпам не існавалі ўжо для яго. Знайшоў дружбакоў!.. А што, калі б хто з факультэта ўбачыў

яго ў горадзе з імі?.. У тых на лбе напісана, што яны за прадукты эпохі. Згаворлівых цёлак ён і без прыяцеляў заўсёды знойдзе. І ўвогуле, як гэта сказана ў «Дхамападзе»?.. «Да тае пары, пакуль у мужчыны захоўваецца цяга да жанчыны, розум яго падобны да цяляці, што ссе малако ў маткі...» Бабы шмат каго загубілі... Бацька расказваў, колькі міністраў ды розных паслоўаслоў на іх пагарэлі... Не, усё ж такі лухта гэта тут у індыйцаў. Ад салодкіх уцех ён не адмовіцца. А інакш дзеля чаго жыць? Дзеля аднаго самасцвярджэння?.. Гэтага мала. Проста ва ўсім, з тымі ж самымі цёлкамі, трэба шукаць разумную сярэдзіну, каб не страчваць розум і не марнаваць час, як учора...

Удзень ён зноў займаўся каратэ. Трэніравацца вырашыў штодня. Як ніколі раней, адчуў: трэба ўсё ж такі быць вышэйшым за астатніх ва ўсім. Працаваць над сабой яшчэ прыйдзецца... А тое, што здарылася ўчора,— жахлівы сон, які ніколі больш не паўторыцца. Калі і трапіцца дзе які Клешч, дык зубы будуць вастрэйшыя. Што ўнурыўся, га?.. Вышэй галаву, малады воўк!

Старастам курса яго абралі. Замест былога, які не заўсёды адзначаў адсутных у журнале.

А перад сходам да яго падышоў гэты стары прыдурак, загадчык кафедры параўнальнага мовазнаўства. Рыцар Мінервы. Спакушаў аспірантурай і перспектыўнай тэмай пад яго кіраўніцтвам.

Якая ж была ў яго пыса, калі ён пачуў адказ!

Знайшоў, пень, Эльдарада! Што яны будуць мець, гэтыя ідыёты-маладзёны, якія прынялі ягоную прапанову? Калі і здзейсняць свой навуковы подзвіг, дык наживуць гемарой, пэўную ступень крэтынізму і доктарскую зарплату, гэта значыць, чатырыста рэ максімум.

А ён *жыць* хоча, бачыць свет, мець прыстойнае месца ў прэстыжным офісе, каб не сорамна было зірнуць у вочы любому, каб не прыйшлося стаяць у прадукто-

вым магазіне ў чарзе па доктарскую каўбасу. Вось, вось: *доктарскую*. Гэта і будзе ў іх на стале верх дабрабыту.

Дык ён, Супер, адказаў: прабачце, шаноўны таварыш прафесар, але я не маю схільнасці да тэарэтычных дысцыплін і хачу працаваць перакладчыкам. Спаслаўся яшчэ на страшэнную занятасць такімі важнымі ў наш час грамадскімі навукамі.

Тыя два абухі з суседніх груп згадзіліся без сумнення. Во дзе недаробкі: размяняць паездкі за мяжу, чэкі, валюту на сядзенне за дысертацыйнай лухтою!

Што ж, чалавецтва счаўрэла б у таўкатні падобных адно да аднаго носьбітаў дабрачыннасці. Усё запланавана ад самага пачатку: Ной узяў у каўчэг кожнае жыўнасці пару. Гэтаксама і сярод людзей: ёсць ваўкі і вярблюды, авечкі і тыгры. Кожны сам выбірае свой лёс. Няхай прававерныя сунуцца ў Меку, а ён пойдзе да свайго Тулона.

Але калі, дарэчы, прыйдзе як-небудзь дзень і яму абрыдне бадзяцца па свеце, захочацца спакойнае старасці ў ціхім прытулку вечна мудрай і немітуслівай навукі, дык «фазэр» знойдзе яму месца ў якойсьці аспірантуры па гэтых самых страшэнна важных сёння грамадскіх навуках. Па нейкіх, скажам, перспектыўных праблемах міжнароднага жыцця. Тады і філасофія спатрэбіцца.

Вось яно як выходзіць: не толькі для сэрца, але і на ўсякі выпадак — ягонае захапленне.

А файную думку сустрэў ён сёння ў Чжуан-цзы:

«Таго, хто ўкраў паясную спражку, караюць, той, хто крадзе царства, робіцца валадаром».

# Метамарфоза

Лёс не надзяліў грамадзяніна Паваляева багата якімі вартасцямі, што звычайна лічаць мужчынскімі, і таму ён з маладых гадоў вымушаны быў з горыччу прызнаць, што працуе бухгалтарам.

Паваляеў ненавідзеў сваю прафесію і ў салодкіх начных мроях бачыў сябе то футбалістам, то дырыжорам, зусім не разумеючы таго, што шлях ён абраў няхай і насуперак кволым жаданням, якія жылі калісьці ў яго ў сэрцы, але ж якраз адпаведна сваёй прыродзе пісьмавода.

І дальбог жа, панове, гледзячы на Паваляева, так і карцела словы шукаць для гаворкі аб ім старадаўнія ды самавітыя. Такі ўжо ён быў чалавек — выгляду мудрагелістага і антыкварнага.

У любую пару года, якое б ні было надвор'е, не лічачы зімы, Паваляеў выходзіў на вуліцу ў капелюшы — то фетравым, то саламяным,— і можна было смела меркаваць, што купляліся яны яшчэ ў той далёкі час, калі першыя аўтамабілі толькі пачыналі ўзрушваць гарадскія світанкі мелодыямі клаксонаў. Былі ў яго, вядома ж, і бабровы каўнер, і тройка, і брэгет — усяго адразу не пералічыш.

У кватэры сваёй трымаў ён старыя венскія крэслы, вялікі насценны гадзіннік з дзівосным боем-перазвонам, бронзавыя падсвечнікі (кандэлябры, перапыніў бы нас Паваляеў) і шмат чаго іншага ў падобным стылі. Сцены яго кватэры былі скрозь пазавешваныя фатаграфічнымі карткамі шматлікае радні, большасць якой даўно ўжо спачыла. Самы прыкметны быў работы мен-

скага майстра Міранскага фотапартрэт прадзеда Паваляева — Апалінарыя Ферапонтавіча Валасовіча, паручніка імператарскае гвардыі, пры ордэнах, з шабляю і на белым кані.

Словам, усё, дарэшты ўсё ў апартаментах нашага героя было, як і ў яго ў гардэробе, часоў далёка не наскіх.

У маленькай установе, дзе служыў Паваляеў, на яго рабочым стале (бюро) можна было ўбачыць сапраўдны атрамантавы прыбор, а побач — лічыльнікі, што даўно ўжо выцвілі ад доўгага жыцця ў розных вялікіх і маленькіх установах.

Інжынер па навуковай арганізацыі працы Роберт Захарэвіч ажно вар'яцеў ад злосці, угаворваючы дрымучага рэтраграда карыстацца новенькай лічыльнай машынкай, якая пылілася на крэсле каля паваляеўскага стала, хрыпеў, даводзячы яе бясспрэчную перавагу, аднак ні на адным з калькулятараў не мог абагнаць узброенага лічыльнікамі апанента.

На першы погляд усё ў жыцці ў нашага героя было наладжана спакойна ды памяркоўна.

Ён сядзеў за сталом намесніка галоўнага бухгалтара, грошы за тое меў хоць і сціплыя, ды, прынамсі, яму іх хапала, а пасля выхаду свайго начальніка ў адстаўку павінен быў перабрацца за супрацьлеглы стол, каб узначаліць дэпартамент і... і... (як усё ж карцела часам яму дачакацца гэтага дня!) і абагнаць урэшце інжынера па НАП, што бог ужо ведае як абрыдаў яму і ў штатным раскладзе.

Было Паваляеву ўсяго толькі трыццаць сем, і хоць узрост Хрыста даўно мінуў, а якіхсьці яркіх здзяйсненняў на ягоным жыццёвым рахунку пакуль не было і, бадай што, ужо не прадбачылася, душу яго маглі цешыць выдатнае здароўе і некаторыя зберажэнні — так што можна было ўпэўнена лічыць, што ўсё ў Паваляева толькі яшчэ наперадзе.

Апроч кіраўніцтва ў дэпартаменце сядзелі Яніна Вінцэнтаўна, пышная фарбаваная бландзінка гадоў гэтак пад сорак, і даўганогая, чарнявая Хрысцінка — асоба ўзросту даволі няпэўнага, але, як на погляд Паваляева, дык зусім яшчэ маладая. І таму з асаблівым хваляваннем чакаў ён той жаданы дзень, калі зменіць стол: сарамлівец мусіў урэшце атрымаць мажлівасць выглядзець на жанчын не ўпотайкі, як рабіў ён гэта звычайна, не збоку (сталы падначаленых стаялі ў рад — акурат насупраць стала галоўнага бухгалтара), а зусім адкрыта, па праве службовай пасады — у самы твар і нічога не баючыся.

Але Паваляеў і тут забываў пра сваю прыроду. Назначэнне гэтае адно прынесла б яму безліч розных клопатаў, бо быў ён незвычайна, проста непраўдападобна сарамлівы, і, вядома ж, было б яму лепш за ўсё заставацца заўсёды ўбаку.

Так, ён вельмі любіў паглядаць паціху на Яніну Вінцэнтаўну, толькі страшэнна канфузіўся, калі тая з уласцівай ёй вольнасцю адказвала яму падкрэсленай узаемнасцю. Асабліва бянтэжыла Паваляева вельмі ўжо спакуслівае дэкальтэ ў яе сукенцы, што не пакідала яму, як уладальніку ашчаднае кніжкі, аніякіх сумненняў наконт планаў незамужняе какеткі: галоўнаму бухгалтару было ўжо пяцьдзесят дзевяць, і ён зацята збіраў металічныя гузікі, аддаючы захапленню ўсе свае сілы і вольны ад працы час.

Не лічачы аднае гісторыі, якая здарылася з Паваляевым у Ялце, калі ён не быў яшчэ намеснікам галоўнага бухгалтара і ўвогуле працаваў у іншай маленькай установе, яго інтымнае жыццё заставалася, па сутнасці, непачатым. Паваляеў не любіў успамінаць тую дробненькую, падобную да мышы жанчыну, бо здарылася прыгода гэтая пры абставінах не вельмі для яго прыемных, і заўсёды чырванеў, калі пасля залішне смелага позірку на Яніну Вінцэнтаўну бачыліся яму шэры гас-

цінічны нумар і непрыбраны ложак. У ялцінскай пасіі, гэткай жа немаладой і неспрактыкаванай, як і ён сам, ды надта ўжо настойлівай і вынаходлівай, таксама было нешта накшталт дэкальтэ, і таму Паваляеў панічна баяўся ўсялякіх жаночых прыдумак.

Але хоць ён і не быў абыякавы да жаночых вартасцей Яніны Вінтэнтаўны, яму ўсё ж шмат больш і зусім інакш падабалася Хрысцінка. На яе ён глядзеў з бясконцым сумам.

Паваляеў разумеў, што Хрысцінка не для яго. Працуючы ў маленькай установе, ён не мог не ведаць, што пасля работы яе праводзіў дадому Захарэвіч.

Нягледзячы на тое, што агніста-рыжы адэпт НТР быў нязграбны і доўгі, што жэрдка, ды яшчэ і невераґодна рабы, Паваляеў нават і ў думках не мог змагацца з ім за Хрысцінку: джынсы Захарэвіча і бездакорны прабор у пышнай маркоўнай шавялюры здаваліся яму вартасцямі незвычайнымі.

Намеснік галоўнага бухгалтара не мог дазволіць сабе джынсы ні як чалавек на самавітай пасадзе, ні як паслядоўны прыхільнік стылю «рэтра». Што ж да прабору, дык тут была ягоная галоўная бяда — пачатак усіх няшчасцяў і пакутлівых сноў.

Паваляеў не мог дазволіць сабе адмысловы прабор. Ён увогуле не мог дазволіць сабе ніякага прабору.

Паваляеў быў лысы — і лысы безнадзейна.

Яго ўжо не маглі ўратаваць ніякія хітрыкі, на якія ён з адчаем пускаўся апошнія гады: ні штодзённае мыццё валасоў, ні іх мудрагелістае зачэсванне.

Ратавалі хоць неяк толькі капелюшы — таму так упарта трымаўся за іх Паваляеў.

Менавіта з-за іх любіў ён антыкварыят.

Паваляеў быў не толькі сарамлівы, але і з гонарам.

Таму так пакутаваў ён калісьці, калі ўпершыню даставаў з сямейнае шафы старэнькі дзедаў капялюш. Ён быў бы шчаслівы мець магчымасць хоць на які час

прыкрываць свой заўчасны сорам, але ж больш, чым усіх дэкальтэ, баяўся, што ўвесь свет будзе смяяцца з яго заўсёдных галаўных убораў — ім трэба было знайсці нейкае тлумачэнне.

У той дзень ён дастаў дзедаў капялюш толькі дзеля таго, каб яшчэ раз паглядзець на сябе ў люстра, перш чым ісці ў краму купляць капялюш сабе, дастаў, каб уявіць тое жахлівае імгненне, калі ён, чырванеючы перад маладзенькай прадаўшчыцаю, стане мармытаць што-небудзь у сваё апраўданне — пра непазбежны эфект спадчыннасці, напрыклад,— як раптам невыносны пах нафталіну падказаў яму бліскучую ідэю, з якой і пачалося другое яго жыццё.

У гэты ж дзень ён падаў заяву на звальненне, прыдбаў самы неабходны антыкварыят і перайшоў на працу ў іншую ўстанову... Не, ён перайшоў у іншы дэпартамент, стаў грамадзянінам (назвацца панам яму не дазвалялі трывалыя перакананні) і пачаў не працаваць, а служыць.

Гады два ён з захапленнем збіраў старызну, але потым энтузіязм яго стаў спакваля слабець, пакуль не ператварыўся ў глыбокую і неадольную меланхолію: дэкарацыі мяняліся, але лысіна заставалася ранейшая, а Хрысцінка рабілася ўсё больш недаступная.

Нарэшце Паваляеву так абрыдла вымушаная гульня ў апраўданне капелюшоў, што ён узненавідзеў і чарніліцы, і лічыльнікі, і кандэлябры, не кажучы ўжо пра самі капелюшы.

Шчаслівы ён быў хіба што ноччу, калі яму сніліся гіганцкія шарыкавыя ручкі, камп'ютэры і электрычныя свяцільнікі.

Снілася яму яшчэ калі-нікалі Яніна Вінцэнтаўна, але ж гэтае шчасце было не з лёгкіх: жанчына нібыта сыходзіла [redacted] карціны Рубенса, і тады Паваляеў неспакойна варушыўся, пакуль не прачынаўся зусім ужо мокры ад поту. Іншы раз у сны яго прыходзіла Хры-

сціна, і тады ён шчасліва ўсміхаўся, папраўляючы галаву на складзеных па-дзіцячы руках, ды кожны раз псаваў усё сваім нечаканым з'яўленнем ненавісны Захарэвіч.

Але болей за ўсё на свеце стаў ненавідзець Паваляеў фотапартрэт прадзеда, паручніка імператарскае гвардыі Апалінарыя Ферапонтавіча Валасовіча.

Справа была ў тым, што паручнік, як і яго праўнук, быў безнадзейна лысы, нягледзячы на параўнальна малады ўзрост, і ратавала яго ад ганьбы толькі фуражка.

Да таго ж, разам з лысінаю нашчадку дасталося ад прадзеда яшчэ і прозвішча, якое Паваляеў насіў раней і ў якім стаў бачыць жорсткую насмешку лёсу.

Дзякуй богу, колькі гадоў назад Паваляеву ўдалося пераканаць пашпартыстаў у тым, што не можа быць больш ганебнага здзеку з чалавека, чым яго недарэчнае прозвішча, якое само смяецца са свайго ўладальніка. Пашпартысты хоць і не знаходзілі нічога непрыстойнага ў прозвішчы Валасовіч, ды ўсё ж задаволілі просьбу дзівака, такі ўжо гаротны прыйшоў ён да іх.

Цяжка, праўда, сказаць, чаму Валасовіч-праўнук выбраў сабе прозвішча Паваляеў, крыху ўсё ж такі незразумелае ў тым асаблівым выпадку, калі чалавек мяняе сваё абазначэнне: ён жа мог бы стаць Барысаглебскім, Серпухаўскім альбо хоць Лапо-Заянчкоўскім! Але Паваляеў быў чалавек сціплы.

Трэба, дарэчы, адзначыць, што лысіна не дужа ўжо і псавала Паваляева — наадварот, яна нават неяк пасавала яму і рабіла па-свойму сімпатычным. Прынамсі, ён моцна памыляўся адносна намераў Яніны Вінцэнтаўны, кіруючыся якімі, тая паглыбляла сваё прынаднае дэкальтэ,— выцякалі гэтыя намеры з самае шчырае сімпатыі да саслужыўца.

Герой наш увогуле надзіва добра захаваўся для свайго ўзросту і важнае службовае пасады. У яго быў цудоўны колер твару, не было зморшчын і ўстаўных

зубоў — відавочны вынік таго, што ён ніколі не курыў, не піў нічога, апроч малака, якое заўсёды купляў толькі на рынку, і сокаў уласнага прыгатавання, хіба што зрэдку дазваляючы сабе гарбату, а тая інтрыжка ў ялцінскай гасцініцы заставалася ў яго жыцці адзінаю. Да таго ж, ён вельмі ўжо выйграваў на фоне галоўнага бухгалтара, што высах і пажаўцеў у нястомных пошуках новых гузікаў.

А самым дзіўным было тое, што гэты сарамлівы лысы ашуканец, які спекуляваў на паважлівых адносінах да моднага стылю «рэтра», падабаўся таксама і Хрысцінцы — сваёй сціпласцю і разважнасцю. Дый знешнасць яго адпавядала яе ідэалам, набытым у час няўдалага замужжа з экземплярам з пароды прыгажуноў.

Не бездакорнаму прабору Захарэвіча, а не менш бездакорнай лысіне Паваляева без аніякіх сумненняў аддавала перавагу Хрысцінка.

Яна адно вымушана была цярпець заляцанні апалагета навукова-тэхнічнае рэвалюцыі: ніхто іншы дадому яе не праводзіў, а грэбаваць адзіным кавалерам было ёй не пад сілу.

Ды Паваляеў нічога гэтага не заўважаў, смеласці жанчынам не хапала, і нашаму герою часта здавалася, што ён так і дажыве да таго непазбежнага дня, калі яго капелюшы павіснуць на цвічках у сямейнай шафе чакаць наступнага лысага з роду... Тут Паваляеў-Валасовіч з жахам разумеў, што наступнага ўжо не будзе, і яму рабілася тужліва і зябка.

Але неверагодны сон даў раптам пачатак трэцяму яго жыццю, поўнаму самых дзіўных падзей.

Нішто не паказвала на тое, што неспакойнаю быць ночы, калі Паваляеў клаўся ў той вечар спаць пасля заўсёднае шклянкі маркоўнага соку (любы іншы быў бы ў гэтым выпадку залішне рэзкі),— хіба што ўспамін пра беззаганны прабор Захарэвіча крыху сапсаваў даволі някепскі настрой.

Патушыўшы свечкі, Паваляеў ціхамірна склаў на грудзях рукі...

А выйшла так, што гэтай ноччу Паваляеў-ранейшы памёр...

Снілася Паваляеву, што ён ніяк не можа прадзерці шчоткаю капу неверагодна густых валасоў, што ў розныя бакі тырчалі на яго ашчасліўленай галаве. Апошнія гады ён карыстаўся рэдзенькім грабеньчыкам, асцярожна ўкладаючы кожны валасок, і цяпер, не верачы, у трывожным захапленні круціўся ў ложку. Раптам хтосьці вельмі высокі ў чорным скураным паліто і цёмных акулярах працягнуў да яго кудлатае галавы няўпэўненую руку, і Паваляеў, спалохаўшыся, што зараз у яго адбяруць гэтае раптоўнае багацце, прачнуўся.

Ён схапіўся за галаву — усё ў ім так і абмерла. Запаліўшы святло (было ўжо не да свечак), кінуўся да люстра. Глянуўшы, спачатку абамлеў, пасля падскочыў.

Не, Паваляеў стаў бухгалтарам зусім невыпадкова: ён не думаў шмат аб прычынах метамарфозы, а заняўся адным яе сэнсам. Усю ноч ён нястомна расчэсваў валасы, наводзячы ў іх бездакорны прабор, яшчэ больш адмысловы, вырашыў ён, радасна ўзіраючыся ў люстра, чым у самога Захарэвіча.

Адразу, калі ён з'явіўся на працу (ён тады ўжо і чуць не хацеў ні пра якія дэпартаменты!), ніхто і ўвагі не звярнуў на яго валасы, гэтак усе прывыклі да паваляеўскай лысіны.

А тым часам са сціплага і непрыкметнага маўчуна ён стаў на вачах ператварацца ў развязнага, амаладжанага лавеласа.

Спачатку Паваляеў упершыню ў жыцці не толькі не адвёў сарамліва вочы ад Яніны Вінцэнтаўны, якая раптам глянула на яго, але нават сам даволі адкрыта за-

зірнуў у дэкальтэ яе новай сукенкі, вельмі збянтэжыўшы тым самым саслужывіцу.

Пасля, засунуўшы рукі ў кішэні, чаго ніколі раней не рабіў, падышоў да Хрысцінкі і весела спытаўся ў яе пра настрой. Тая здзіўлена ўздрыгнула.

Праз паўгадзіны жанчыны шапталіся ў калідоры, гадаючы, што магло здарыцца з Паваляевым. У тым, што яны так яшчэ і не прыкмецілі валасоў, якія з'явіліся ў яго на галаве, не было нічога дзіўнага: новыя паводзіны саслужыўца былі для іх з'яваю шмат больш складанай і нечаканай.

І толькі ў пачатку абедзеннага перапынку, калі галоўны бухгалтар узняў нарэшце галаву ад стала, у пакоі пачуўся першы крык здзіўлення, а неўзабаве і жаночы віск, які перадаў самую неверагодную гаму пачуццяў.

Усе распытвалі ў Паваляева, адкуль у яго валасы, пасля перасталі верыць, што гэта ўвогуле ён, пакуль той без адзінай памылкі праверыў імгненна на лічыльніках тузін прыходна-расходных артыкулаў, якія прачытала скорагаворкай Хрысцінка.

Недавер пахіснуўся, і Яніна Вінцэнтаўна па прапанове самога Паваляева стала цягаць яго за валасы, бо настойвала ўсё ж на тым, што гэта парык. У канцы абедзеннага перапынку ўсе сумненні нарэшце зніклі: як ні старалася жанчына, але вырваць валасы не змагла. Паваляеў мужна цярпеў і пераможна пазіраў на саслужыўцаў.

Жанчыны таксама разглядвалі Паваляева і прыкідвалі, які ж лепшы — новы ці стары?

Увечары гэтага ж дня Паваляеў прылюдна спаліў у двары свайго дома ўсе фотапартрэты і астатні рэквізіт ранейшага жыцця, хоць узрушаныя суседзі і пераконвалі яго, што гэта страта немалых прыбыткаў, якія ён мог бы мець у антыкварнай краме ці на кінастудыі.

— Пляваў я на ўсе прыбыткі! — адно крычаў у адказ узбуджаны экс-аматар старызны.

З асабліваю асалодаю кінуў ён у агонь старазапаветны капялюш і фотапартрэт прадзеда.

Пасля аўтадафэ старога Паваляева новы Паваляеў у экстравагантным мадэльным касцюме рушыў адразу ж у рэстаран — упершыню ў жыцці. Там яго чакалі запрошаныя ім Хрысцінка і Яніна Вінцэнтаўна. У рэстаране Паваляеў шмат танцаваў, спрабаваў закурыць і цалаваўся з жанчынамі на брудэршафт. Перад сном ён піў замест звычайнага соку піва, і не са шклянкі, а з вялікага куфля, ноччу ж, калі яму прыснілася Яніна Вінцэнтаўна, сон яго быў даволі спакойны і роўны, нават прыемны.

Назаўтра ён заляцаўся на працы да Яніны Вінцэнтаўны, не забываючы і пра Хрысцінку, стараючыся, аднак, з кожнаю быць элегантным неўпрыкметку для іншай.

У паўзах ён з вялікім спачуваннем пазглядаў на галоўнага бухгалтара, які літаральна зліваўся [redacted] паперамі, нібыта самператвараўся ў адзін застылы прыходна-расходны артыкул.

Увечары Паваляеў быў ужо ў другім рэстаране і, будучы ў стане лёгкага ап'янення, няспынна запрашаў жанчын на танец — без разбору і нават не гледзячы на мужчын, з якімі тыя сюды прыйшлі.

Крывая яго падзення была проста неверагодная.

Паваляеў уваходзіў усмак новага жыцця з той самай ліхаманкавай паспешнасцю, з якой толькі што ўратаваны ад галоднае смерці чалавек накідваецца на ежу.

Ён з усяе сілы імкнуўся быць абаяльным і проста прагнуў падабацца кожнай жанчыне, якая толькі трапляла на яго вочы.

Але новы Паваляеў ніяк не выклікаў захаплення ў Яніны Вінцэнтаўны, што страціла раптам свае апошнія

надзеі, і зусім ужо быў непрыемны Хрысцінцы — тая цярпець не магла самаўпэўненасці і развязнасці, у якіх бачыліся цяпер Паваляеву сіла і натуральнасць. Ды сам ён нічога гэтага не заўважаў і пачаў літаральна абкладваць Яніну Вінцэнтаўну, ужо і не стараючыся рабіць гэта неўзаметку для Хрысцінкі.

Пасля працы ён па-ранейшаму наведваў рэстараны і, даходзячы да стану лёгкага ап'янення, які вельмі яму палюбіўся, праводзіў дадому жанчын. Ні іх узрост, ні сямейнае становішча, ні іх далейшыя планы і любыя іншыя падрабязнасці асабістага жыцця не цікавілі яго аніяк.

Неўзабаве многія паненкі і кабеты ці не з усіх мікраранаў горада сталі расказваць сяброўкам пра вельмі далікатнага і цікавага ў інтымным абыходжанні мужчыну, ці то рэстаўратара, ці то палеантолага — Паваляеў, вядома, ніяк ужо не мог назвацца ў падобных выпадках бухгалтарам.

Усё гэта, дарэчы, не дужа перашкаджала яму працягваць няспынныя заляцанні да Яніны Вінцэнтаўны, у выніку якіх ён атрымаў ад яе ўрэшце ў калідоры поўху за празмерную смеласць, а сама жанчына вымушана была змяніць сукенку з глыбокім дэкальтэ на гольф і высокім каўняром, нямала страціўшы ў сваёй спакуслівай абаяльнасці.

На трыццаць трэці дзень свайго новага жыцця (нейкім чынам таксама ўзрост Хрыста) Паваляеў запрасіў у рэстаран Хрысцінку, і тая пасля некаторых сумненняў згадзілася правесці вечар разам з ім.

У рэстаране ёй вельмі не спадабалася залішняя далікатнасць Паваляева, яго напускная дасціпнасць, частыя хцівыя позіркі на жанчын, зноў-такі, вядома ж, без разбору,— адным словам, усе тыя якасці, якія ён набыў разам з праборам.

Ужо ў той дзень ад старога Паваляева ў новым не заставалася літаральна нічога: ён змяніў усё, аж да

бялізны — цяпер тая ў адпаведнасці з новым ладам жыцця была не горшая, чым у замежных каталогах.

Не вытрываўшы, расчараваная Хрысцінка расказала яму пра ўсё: і пра тое, як падабаўся ён ёй раней, і пра тое, як стаў не падабацца цяпер. Яна звярнула ўвагу Паваляева на тое, што колер твару ў яго вельмі пагоршыўся, а лічыць ён стаў проста жудасна кепска. Паваляеў карыстаўся цяпер лічыльнай машынкай і рабіў памылкі адна за адною. Галоўны бухгалтар ледзь паспяваў выпраўляць іх і маўчаў толькі таму, што не хацеў сварыцца з даўнім і любімым супрацоўнікам перад самым выхадам на пенсію.

Засмучаны Паваляеў, выпіўшы, як ён растлумачыў, з гора добрую чарку гарэлкі, абяцаў неадкладна выправіцца.

У канцы вечара ён з захапленнем дэманстраваў, як паглядна навучыўся курыць, пускаючы мудрагелістыя кольцы дыму, а затым запрасіў Хрысцінку да сябе дамоў паслухаць новыя пласцінкі звышмодных замежных рок-гуртоў (зусім нядаўна ён нават Кабзона залічваў у авангард). Як Хрысцінка ні адмаўлялася, ён усё ж такі здолеў угаварыць яе.

Дома Паваляеў зведаў неўзабаве аплявуху шмат больш гарачую за тую, што атрымаў ад Яніны Вінцэнтаўны, але назаўтра жартаваў з абедзвюма жанчынамі, як быццам нічога і не было. Няўдачы ён тлумачыў сваёй цельпукаватасцю і быў перакананы, што поспех не за гарамі: усе якасці, якіх яму яшчэ не хапае, ён нажыве, трэба толькі крыху пацярпець і асвоіцца ў новай скуры.

Увечары трыццаць чацвёртага дня Паваляеў быў затрыманы органамі правапарадку за хуліганства ў рэстаране: ён пачаў бойку з мужчынам, жонку якога спрабаваў вывесці з залы.

Назаўтра галоўны бухгалтар пайшоў урэшце на пенсію, але ўрачыстыя яго праводзіны былі перанесе-

ны: на тэрмінова сабраным пасяджэнні мясцовага камітэта разбіралі Паваляева.

На пасяджэнні той заявіў, што яму на ўсё напляваць і жыць ён будзе так, як падабаецца яму і як ён сам лічыць неабходным у наш такі хуткаплынны час. Што ж да розных там паніжэнняў, пра якія тут завялася гаворка, засмяяўся Паваляеў, дык імі няхай яго не палохаюць: ён яшчэ мае розум, у бліжэйшыя сорак гадоў жаніцца не збіраецца, так што хопіць яму любога акладу — знойдзецца каму і прыстанак яму даць, і шмат што яшчэ зрабіць, чаго вам усім, папяровым душам, і ў снах не зведаць.

Дарэчы, ашчаднае кніжкі ў Паваляева ўжо не было: новы лад жыцця танным назваць было нельга. Прагуляўшы ўсе свае зберажэнні, Паваляеў пачаў выцягваць патроху грошы з жанчын, не грэбуючы і рублём на абед.

Прайшоў дзень, і Паваляеў, насуперак шматгадовым прагнозам усіх саслужыўцаў і сваім колішнім спадзяванням, застаўся за старым сталом: на месца галоўнага бухгалтара спешна ўзялі маладога, самалюбівага, з заўчаснай лысінай выпускніка наргаса.

Паваляеў не звярнуў на яго з'яўленне аніякае ўвагі. Ён нават дэманстратыўна прыйшоў на працу на падпітку, салютуючы гэтакім чынам свайму новаму начальніку. За ўвесь дзень былы прэтэндэнт на самавітую пасаду і дакрануцца не падумаў да службовых папер, груды якіх у яго на стале прыкметна раслі, адно расказваў анекдоты, часта падміргваючы жанчынам у адпаведнасці з не вельмі далікатным зместам любімых твораў гарадскога фальклору.

Малады чалавек зрабіў Паваляеву папярэджанне — ціха, але досыць упэўнена. Тады Паваляеў адвёў яго ўбок і не менш цвёрда папярэдзіў, што людзі тут усе цёртыя і таму занадта шумець не варта.

А ўвечары ён стаў ужо Валер-Алтайскім, бо здолеў

раней пераканаць пашпартыстаў у тым, што нельга яму насіць такое двухсэнсавае прозвішча, як Паваляеў: ён, між іншым, не цюхцяй, якога можна вось так проста паваляць, а мужчына што трэба.

На трыццаць сёмы дзень Паваляеў, не, прабачце, Валер-Алтайскі, спрабуючы пацалаваць Хрысцінку на рабоце, атрымаў ужо ад яе не адну аплявуху, а цэлую серыю, якую, аднак, расцаніў хіба што як няўдалы жарт, што можа сапсаваць крыху іх адносіны,— ды бяда гэтая была для яго невялікая.

— Смяхоцце якое, мнішка знайшлася! — сказаў ён Яніне Вінцэнтаўне і, гарэзліва падміргнуўшы кабеце, прапанаваў ёй прабавіць разам цудоўны інтымны вечар. Слоў у адказ жанчына не знайшла — і Паваляеў прыняў маўчанне за знак згоды.

У паўзах між сваімі эскападамі ён лёгка забываўся на каляжанак і хадзіў расказваць анекдоты жанчынам з суседніх аддзелаў, запрашаючы ўсіх па чарзе ў госці. Але, як ні карыстаўся Паваляеў апошні час папулярнасцю ў пэўным асяродку жанчын сваёй маленькай установы, цяпер ужо ніводная з іх не змагла пераадолець сарамлівасці.

Між тым, службовыя паперы, што чакалі сваёй чаргі, на стале ў яго ўжо не ўмяшчаліся, і Валер-Алтайскі стаў паціху перакладваць іх на стол свайго маладога начальніка.

Старанны выпускнік наргаса напісаў на Валер-Алтайскага дакладную дырэктару ўстановы. Парушальнік працоўнай дысцыпліны, якому далі шанц выправіцца, прапанаваўшы памяняцца месцам і акладам з Янінай Вінцэнтаўнай, з лёгкасцю напісаў заяву на звальненне: клопату яму цяпер і без працы хапала, на адных жанчын дзе дастаць было часу — хоць разарвіся, дый толькі.

А Яніна Вінцэнтаўна, баючыся яго заляцанняў, уцякла з працы, і дарэмна Валер-Алтайскі з гадзіну ля-

паў у дзверы яе кватэры: жанчыны і да раніцы дома не было, бо начавала яна ў сяброўкі. Раз'юшаны Паваляеў, памятаючы пра маўклівую «згоду» каляжанкі, спрабаваў нават зламаць дзверы, але, не здолеўшы (натуральна, з-за няспынных гулянак ён прыкметна знядужыў), махнуў урэшце рукою і пайшоў да іншых знаёмых жанчын — на рэстараны ён стаў патроху ўжо забывацца, бо ў кішэні зазвычай больш як двух-трох рублёў не было.

Не знайшоўшы нідзе прытулку, ён набраў на апошнія грошы нейкай парфюмернай вадкасці і позьнім вечарам вяртаўся дадому ў стане моцнага ап'янення, якому пачаў аддаваць цяпер відавочную перавагу. Вясёлы, нягледзячы ні на якія няўдачы ён то гучна спяваў песню «У кахання кароткі век», то аб'яўляў на ўвесь праспект, што ён — ВАЛЕР-АЛТАЙСКІ.

Раптам да яго імкліва падышоў высокі мужчына ў чорным скураным плашчы і цёмных акулярах і, сарваўшы з ягонай галавы валасы, знік у натоўпе.

Валер-Алтайскі пахіснуўся і грымнуўся вобзем.

Быў снежань, набліжалася завіруха, і лысіна ў яго — а хадзіў ён цяпер толькі з непакрытаю галавой — імгненна ссінела.

Людзі вакол абарочваліся і са здзіўленнем глядзелі на старога, стомленага чалавека, апранутага па самай крыклівай модзе, якая ледзь яшчэ даходзіла да найбольш зацятых франтаў, блізкіх да замежных турыстаў.

Разгублена трымаючыся за галаву, няшчасны прапоўз па зледзянелым тратуары колькі метраў. Твар у яго крывіўся ад невыноснага болю.

— Аддайце мае валасы! — закрычаў ён раптам з усяе, якая яшчэ засталася, сілы і з адчаем, у бясконцай роспачы ўчапіўся нягнуткімі пальцамі ў лёд...

# Чарга

Людзі стаялі ў вялікай чарзе — і я паміж іх. Што будуць даваць, не ведаў ніхто, але ніхто не пакінуў чаргу, хоць і спяшаўся некуды кожны. Было ў той чарзе нейкае хваляванне.

Нарэшце да нас падышоў чалавек са скрынкаю, і ўсе зразумелі, што ў ёй — тое дабро, дзеля якога стаялі.

«Разбярыся па нумарах!» — закрычаў чалавек, і ўсе, не ведаючы навошта, адразу ж і разабраліся — пералічылі сябе.

«Трымайце цяпер нумары!» — сказаў чалавек і пачаў раздаваць нейкія карткі, дастаючы іх са скрынкі.

Першы ў чарзе атрымаў картку за нумарам першым, другі — за другім, і гэтак далей. Мне дасталася нешта з самай сярэдзіны. Усе засоўвалі карткі ў кішэні, гледзячы ў рот чалавеку — чакалі яго тлумачэнняў.

«Гэта цяпер ваш нумар у гэтым жыцці»,— сказаў чалавек і сабраўся з намі развітвацца.

«Нумар? Які? Што ён азначае?» — сталі пытацца з чаргі.

«Гэты нумар ёсць вызначэнне вашага месца ў агульным парадку жыцця»,— сфармуляваў чалавек сутнасць таго, што адбылося, развітаўся і некуды рушыў, не чакаючы лішніх пытанняў.

Нішто сабе, думаў я. Як сталі ў чаргу, тое і атрымалі. Не, гэта нікуды не варта!

«Пастойце!» — спыніў я чалавека.

«Што ў вас?» — спытаў той.

«Я не хачу жыць пад нумарам, які вы далі мне».

«Чаму?»

«Я не ўпэўнены, што вашая нумарацыя адпавядае парадку рэчаў».

Хто стаяў бліжэй да пачатку чаргі, узрушыўся, хто далей — стаў спачуваць і спадзявацца, што ўсё яшчэ пераробяць.

«Як, як?» — спытаў чалавек.

Я паўтарыў.

«Вы сталі ў чаргу далёка не першы»,— з жалезнай логікай абгрунтаваў чалавек праведзеную працэдуру і, мудры і справядлівы,— глядзіце ўсе! — карцінна развёў рукамі.

Першая частка чаргі з захапленнем лямантавала, другая пакуль яшчэ ціха стагнала — гадала, што з гэтага можа выйсці.

«Ваш адзіны крытэрый — неаб'ектыўны,— перайшоў я ў наступленне.— Яму ніяк не стае абгрунтаванасці, каб быць абсалютным і непахісным»,

«Вы ўпэўнены?» — спытаў чалавек, і я зразумеў, што ён быў не вельмі мне рады: надта ж пільна глядзеў на мяне.

«А што, калі я проста спазніўся ў чаргу? Яечня, якую мне згатавала на снеданне жонка, была надта гарачая ці проста ў дзяўчыны, што перабегла вуліцу перад маімі вачыма, былі прыгожыя ногі — я і заглядзеўся? Што тады? Адкажыце!»

«Тады,— не думаўшы шмат, сказаў чалавек,— не трэба есці яечню, а ногі... што ж ногі — няхай вам хапае жончыных ног».

Натоўп здрыгануўся. Некаму не спадабалася тое, што сказаў чалавек, а хтосьці, паказваючы ўпотай у мой бок, зашаптаў, што гэты разумнік — распуснік і злодзей, з птушкафабрыкі, дзе працуе, яйкі крадзе.

«Дазвольце! — закрычаў я з усяе сілы.— Якое, урэшце, мае значэнне тое, калі я прыйшоў у чаргу? Я мог бы прыйсці хоць апошні — і атрымаць першы нумар!»

Бадай што кожны ў натоўпе ўчарнеў.

«О нахабства!» — толькі й чуцен быў енк.

Скалануліся нават тыя, што стаялі з панурага краю — з недаверам глядзелі цяпер на апошняга, якога тузала за рукаў зусім ужо раззлаваная жонка.

«Як гэта?» — абвёўшы натоўп вачыма, усміхнуўся раздатчык картак.

«Трэба было правесці, мусіць, даследаванні — даэнацца ў выніку, хто чаго варты, і расставіць усіх па справядлівасці.

Спераду незадаволена зашапталіся.

Ззаду ж узнялі страшэнны гвалт, забыўшыся нават на тое, што нядаўна яшчэ я збіраўся, прыйшоўшы апошні, забраць сабе першы нумар.

«Ён кажа праўду!» — закрычалі нарэшце яны.

Чалавек зразумеў, што я хлопец няпросты і магу тут усё сапсаваць. Пакуль людзі шумелі, ён адвёў мяне ўбок і ціха сказаў:

«Добра, аддайце мне ваш нумар. У мяне застаўся нумар восьмы — з броні».

«Навошта мне вашая бронь? І што гэта за бронь? — узрушыўся я.— Дайце мне *мой* нумар — якога я варты!»

Чалавек зірнуў на мяне як на вар'ята, пасля, разгледзеўшы мой ясны позірк, стаў падбіраць да мяне ключ. Быў ён знешне спакойны, але ўжо крыху напалохаўся.

«Падумайце,— павольна вымавіў ён,— калі правесці даследаванні, вы атрымаеце ў лепшым выпадку той самы нумар, які цяпер маеце. Я вас бачу наскрозь: вы — чалавек сярэдні!»

Ён абмацваў мяне сваім позіркам, лез вачыма ў душу.

Я адчуваў, што ён маніць, вызначаючы мой узровень,— хоць, урэшце, я быў з ім згодны, бо ніколі не знаў за сабой асаблівых вартасцей. Ён ніяк не мог мяне

зразумець, не бачыў мяне зусім, колькі ні намагаўся,— я быў для яго зусім невядомы тып, новы ў яго багатай калекцыі памяці — гома інкогнітум.

«Не,— стаяў я на сваім.— Нашто мне чужы нумар? Я хачу, каб усё было проста па справядлівасці. Каб я адчуваў сябе на сваім — заслужаным мною — месцы і не думаў, што займаю чужое. На версе ад таго, што прызначана мне, будзе няўтульна, на нізе — крыўдна».

Раптам на твары ў раздатчыка картак мільганула здагадка. Нейкі час ён быццам апошні раз узважваў мяне на далоні.

«Я магу даць вам нумар шосты»,— ледзь прашаптаў чалавек, так адняло яму голас ад хвалявання.

«Смяяцеся? — здзівіўся я.— За каго вы мяне прымаеце? Дайце тое, што мне законна належыць».

Чалавек быў збянтэжаны. Ён губляў кантроль над сабою і глядзеў на мяне з жахам. Відаць, ён не меў інструкцый на такі нечаканы выпадак.

У натоўпе, між тым, усчалі барацьбу — тайную і адкрытую. Адны палезлі ў бойку за нумары, другія хітрылі, мяняючы іх, трэція сталі запісвацца ў маклеры. Словам, жыццё віравала, то тут, то там энергія масы перавышала звычайную і рабілася небяспечная.

Чалавек паглядаў ліхаманкава то на мяне, то на чаргу. Урэшце, прыняўшы рашэнне, ён з хваляваннем папрасіў мяне пачакаць хвілінку.

«Можа, знойдзем што лепшае»,— шматзначна дадаў ён, кіруючыся да людзей.

«Не трэба мне ніякага нумара»,— сказаў я і аддаў яму сваю картку.

Людзі не бачылі гэтага. Колькі я ні глядзеў з дакорам на іх, колькі ні заклікаў зрабіць тое ж самае, колькі ні задаваў ім пытанняў і чаго толькі ім ні тлумачыў — ніхто мяне не пачуў, ніхто не звярнуў на мяне ўвагі.

Тады я, адчуўшы за іх горыч, пайшоў.

Усё ж я быў шчаслівейшы за іх, хоць адзінота не магла мне прынесці сапраўднага шчасця. Аднак я чалавек без нумара, незалежны ад латарэйнага лёсу. Няхай я цяпер адзін, але з пачуццём уласнае годнасці і справядлівасці.

Раптам я адчуў на спіне чыйсьці погляд. Усхваляваны, я азірнуўся.

Раздатчык картак з нудою глядзеў мне ўслед.

«Чакайце! — крыкнуў ён раптам.— Я пайду з вамі!»

Я кіўнуў галавою ў знак згоды.

Цяпер мы ішлі ўдвух.

## Фарбы душы

### Настроі

Ноч. Перад вачыма — на бялюткіх аркушах словы. Непаслухмянымі і непадобнымі, як авалодаць імі?

Як да зімовай пустэчы паперы данесці — іх лясны і палёвы водар і смак?

Як захаваць у іх подых зямлі і шолах лісця?

Углядаюся ў іх прыгажосць, разгадваю іх таямніцу.

Часам вецер штосьці ласкава шапоча ў двары — ці не тыя ж сугуччы роднае мовы?

Можа, варта прыслухацца, як вымаўляе іх вольны бадзяга?

— Што ў іх углядацца? Што да іх прыслухоўвацца? Чым яны розняцца, гэтыя словы? — чуваць абыякавы голас.

А камусьці яны пададуцца бляклымі і невыразнымі:

— Якія ж яны прыгожыя? Які вы ў іх знойдзеце смак? Няма ў іх ніякага смаку, ні водару, ні аздобы — адно мармытанне, ды ўсё...

— Словы — знакі, а мова — сродак,— скажа разважлівы кніжнік.

Роспач агорне душу — і мільгане раптам думка, а ці ж не лепей было б кінуць усё яшчэ адвячоркам і не сядзець да гэтае цемры?..

А што, калі марна праседзеў ты за сталом і гэтыя вечар, і ноч і ўвогуле страціў гады — бо вызнаваў недарэчнае штосьці?..

Колькі ты хат не паставіў, калодзежаў выкапаць

колькі не змог, колькі дрэў не паспеў пасадзіць, прыгажэйшых за ўсе твае словы,— і ўжо не паспееш, мусіць, ніколі...

Колькі людзей не прыкмеціў, у горы іх не суцешыў і радасці не падзяліў — прызнанні дабра і любові ў радках друкаваных хаваў.

І каго зацікавіць цяпер, ці крычаў ты тады, як пісаў, ці шаптаў — цябе ж ніхто не пачуў, нікога ты не сагрэў, ні з кім ты не быў ласкавы...

А што, калі ты застаўся ў дзяцінстве з гэтымі гульнямі ў словы?.. Уяўляеш, наіўны, складаючы кубікі, быццам будуеш дамы...

Нашто і завошта жывеш ты тады ў гэтым свеце? Што ты зрабіў і колькі ты вінен — за тое, што ходзіш па гэтай зямлі?

Але ж не, яшчэ не знявечана вера, мусіць мацнець надзея.

Зноў і зноў углядаюся ў словы, узважваю іх на слых і на зрок, мераю іх глыбіню, дыхаю іх чысцінёю, імкнуся дайсці да іх спрадвечнага сэнсу...

Адкуль іх загадкавы водар, патаемны іх смак і подых глыбокі, гарачы?

Адкуль — іх заўсёдная сіла?

Цяжка спасцігнуць іх таямніцу — мяне ахінае жаль...

**Жаль** А вось паспрабуйце яго «расказаць» — гэтае слова «жаль». Упэўнены — будзе вам цяжка.

Бо ў ім — штосьці зусім невыразнае, схаванае недзе ў куточку вашай душы... Тое, што шэптам сваім пяшчотным і жорсткім балюча і ціха адпавядае і суму вашае памяці, і неспакою вашага заўтра, якое яшчэ не настала, але ўжо не толькі коціць у мроях на хвалях

надзеі, адно ж і сціскае грудзі самотай тужлівага ўчора...

Жаль... Быццам нечым вас працінае — імкліва і непрыкметна. Дождж, здаецца, у сэрцы, і бліскавіца мільгае ў нервах разгубленай вашай душы, у заўсёды свежых драпінах памяці, што не загояцца ўжо ніколі, бо не лекар ім і сам час — адно заціхае ў іх боль на якую хвіліну, што падаруе нам лёс...

Жаль... І калыша ён іх і непакоіць — і сэрца, і душу, і нават розум — такі непадступны, такі неадольны і такі ж, як і тыя, безабаронны...

Жаль... Ён як напамінак заўсёдны пра наша жыццё-імгненне, жыццё-супярэчнасць...

І ці ж дараваная нам тая хвіліна — без жалю?

А можа, яна ад нас адабраная, бо тоіцца ў гэтым пачуцці тое галоўнае, чым непадобныя мы да ўсіх іншых — з тых незнаёмых зорных сусветаў, да якіх мы, на жаль, у нашым жыцці ўжо не дойдзем.

І зноў-такі — жаль...

А чаму? Чаму мы не здольныя рушыць свабодна ў часах і абсягах, чаму мы не можам прайсці па сцяжынах гісторыі роду ці хоць зазірнуць у працяг, які мы рыхтуем? Альбо перажыць і тое сваё, што адбылося з намі *калісьці*...

**Калісьці** Якое ж цудоўнае гэтае слова — «калісьці»... Чароўнае нейкае, лёгкае і празрыстае — нават прыходзіць жаданне паважыць яго на далоні,— нібы яго і няма, як няма і таго ўжо, што яно вызначае.

Сумнае слова. Журботнае і тужлівае, непараўнальна самотнае. Непараўнальна таму, што, мусіць, няма на свеце нічога больш горкага і салодкага, чым тое, што адбылося з намі калісьці...

Ніводнаму майстру непадуладны гадзіннік, схава-

ны на кончыку гэтай хвіліны, што адыходзіць ад нас назаўжды...

Чуеце вы, як за акном шапоча лістота?

Шапоча яна і ў памяці — на дворыку даўняга нашага, дарагога такога маленства...

Калісьці ты быў хлапчуком...

Лётаў босы па тых асаблівых лужах, якія бываюць толькі ў дзяцінстве: у іх быў не бруд — была чысціня... Бо чысты быў сам і бачыў у лужах сяброўства зямлі і неба: у іх адбівалася сонца, што ззяла скрозь дожджык падарункам неспадзяваным... Рэху дзівіўся, якое ніяк не мог адшукаць, дзівіўся вясёлцы, што разам з табою смех рассыпала па наваколлі — і нічога, здаецца, ты больш не хацеў...

Бо ты быў багатыр — у цябе было ўсё.

Былі бацька і маці, лепшыя ў вёсцы, і певень, што кукарэкаў першы на вашым канцы, сланечнікі на агародзе, якія штогод давалі табе пачастунак,— чаго ж толькі ты не меў...

Не было хіба што цацак прыгожых, як у суседскіх, што прыехалі ўлетку з горада, не было, бо не забаўкі, а хлеб прадавалі ў маленькай вясковай краме — дый не заўсёды яго там ляжала багата...

Не было хіба што таго эскімо, што не прывезла з гэтага ж горада маці — баялася, што растане, дый купіла тады абаранкаў...

А потым цябе ўпершыню падманулі — не па-дзіцячы ўжо, па-даросламу...

Можа, прывёз ты тады гуркі на базар — у сям'і не ставала грошай, колькі ж было вас — братоў і сясцёр... Ты добра лічыў, але быў яшчэ слабы — і грошай, якія так жорстка, у твар смеючыся, не дадаў табе злы чалавек, не мог адабраць... Ты схапіў яго за рукаў, але ён, адштурхнуўшы цябе, людзям сказаў, што ты — ашуканец...

Які ж быў ён лёгкі, кош той з гуркамі, як нёс ты

яго на базар,— думаў, што выйдзе яшчэ на цукеркі,— які ж быў цяжкі ён, калі ты вяртаўся дадому амаль што ні з чым... Якая ж балючая была тая крыўда, якія пякучыя — слёзы... Ты іх расціраў слабымі рукамі па запэцканым твары, а бруд, у які цябе ткнулі душою, чарнатою сыходзіў на сэрца...

А можа, пазней ты сам ужо ўлез у які-небудзь бруд — і не прыкмеціў, што выбраў не тую сцяжынку, і не падумаў, што здрадзіў сабе, як не заўважыў пасля, што сцяжынка дарогаю стала...

Тады заклаўся падмурак ці не самае горкае страты жыцця — смерці заўчаснае мар і надзей, якія ніколі не здзейсняцца і застануцца жывыя хіба ў летуценнях таго, што мроіў калісьці...

Калісьці ты марыў, ты верыў, ты проста ўпэўнены быў, што ўсё ў цябе будзе не так, як у іншых, а без памылак, без страт, і тое, што ты аднойчы задумаў, абавязкова збудзецца — бо гэта быў ты, а не хто-небудзь іншы.

Але ж вось нахапіўся дзень — і атрымалася штосьці зусім адваротнае. І колькі ж было іх пасля — гэткіх дзён...

Ды ці трэба таго шкадаваць, што нічога ўжо не паправіш?

Лёгка было б з машынкаю часу ў кішэні.

Але як жыць, калі ўсё можна перакруціць — нібыта стужку ў кіно?

Як надаць сэнс таму, у што верыш, калі так мала каштуе памылка — толькі горыч хвіліны, толькі крок насуперак плыні... А гэта ж пустэча ў чым-небудзь сэрцы, бездань забойства надзеі, непапраўнасць знішчэння веры...

Як жыць, калі ўсё так проста?

І нешта не хочацца гэтага лёгкага шчасця.

Лепш ужо роспач балючых страт, смутак трызнення марных надзей, бясконцасць горкай *журбы*...

**Журба** Чуецца ў гэтым балюча прыгожым слове роспачны шэпт спелых журавінак...

Снегам прыкрытыя ягады ўзімку... На знямелых балотных абсягах вачыма няўцешнай журбы — чырвоныя кроплі цяпла і пяшчоты, маленькія сонцы ў бязлітаснай сцюжы...

Мусіць, слязьмі журавін плача балюча нябожчыца-восень, тая, што ўчора яшчэ была ў шапаценні лісця,— а гаспадыня-зіма кідаецца белымі гурбамі, спраўляе на могілках года хаўтуры сваёй папярэдніцы...

Перад вачыма — словы...

Простыя і звычайныя, свецяцца фарбамі нашай душы...

Цяжка спасцігнуць іх таямніцу...

# Смутак надзеі

## Настроі

Мой першы ўспамін.

Я гуляю ў двары з суседскімі хлопцамі ў лётчыкаў. З паперы зладзіўшы самалёцікі, мы ляцім адзін на аднаго, з усяе сілы гудзім — хто каго перагудзіць, у таго самалёт найлепшы.

Як мы добра гуляем! Тата і мамай не хочуць купіць мне брата, дык і не трэба: якія добрыя мальцы жывуць са мной па суседстве, усё адно што браты!

Але ўрэшце гульня надакучыла мне. Відаць, таму, што гудзеў я слабей за астатніх, а пры сутыкненні ў баі першы звальваўся на зямлю.

«Давайце,— кажу,— гуляць лепш у маракоў! Вунь якая добрая лужына, усё роўна што мора!» — паказваю я ў глыб двара.

Ды кожны імкнецца перагудзець астатніх, кожны прагне сваёй перамогі — я зноў і зноў падаю на зямлю.

І колькі я ні крычу, захлёбваючыся ад захаплення расказам пра тое, як хораша плыць караблём па чыстай вадзе, усе гудзяць яшчэ галасней і пераходзяць ужо на таран.

О, захапленне боем, ці не вышэйшае ты за ўсё?.. О, захапленне светам сваіх захапленняў, ці ж не мацнейшае ты за ўсе спакусы і перашкоды, калі чалавек патанае ў табе?..

Я ўсё крычу — дарма.

А вунь ужо хтосьці прапануе гуляць у танкістаў і паўзе, аж сапе, на каленях па гразі, нібыта жук у гнаі: ён — танк, цяжэйшы за ўсіх і, вядома, збівае мяне лбом, як нікчэмную самаходку.

Хто ляціць, хто, перайшоўшы ў пяхоту, паўзе па-

пластунку, кідае гранаты, хто шалёна размахвае палкай у кавалерыйскай атацы і крычыць, што ўсіх пасячэ — ды вось ужо нехта падстрэліў яго з аўтамата...

Я плачу — ніхто не чуе мяне, ніводзін з усіх не разумее, нават самы малы не хоча плыць караблём, лезе з канчурам шланга туды, дзе б магло быць мора — бо будзе тушыць пажар...

О, першая крыўда неразумення, якая ж балючая ты!

Ніякія мне яны не браты!..

Мне семнаццаць гадоў.

Я добры, сумленны і справядлівы. І ці ж не ўсё разумею я ў свеце? Словам, я чалавек амаль ідэальны. Толькі мала хто гэта бачыць.

Ну што ж, застаецца адно ўзяць сябе ў рукі і кантраляваць кожны свой крок — тады людзі адразу мяне разгледзяць, прызнаюць маю дасканаласць, пацягнуцца да мяне. Мне будзе лёгка з імі, а ім — са мною.

Як не стануць імкнуцца яны да мяне, калі я хачу ім толькі дабра, ненавіджу хлусню і подласць?

О, як здзівяцца людзі, далонямі пляснуўшы сарамліва: «Чаму ж мы не бачылі ўчора, які ён?»

А пакуль што дзівіцца прыходзіцца мне. Колькі ні намагаюся, не заўважае ніхто, які я...

Галоўнае, добры.

Дабрыня, веру я апантана, гэта тая каштоўнасць, якая перамагае ўсё: жорсткасць, сквапнасць, двудушнасць, неразуменне і недавер...

Дабрыня асвятляе душу, дабрыня — гэта стрыжань спрадвечны, на якім трымаецца чалавецтва,— і яна з'яднае людзей, нягледзячы ні на што.

Ледзь не ўсе астатнія людзі таксама здаюцца мне амаль бездакорнымі.

І, вядома, думаю я, ім не заўсёды хапае сіл на кантраляванне кожнага кроку, але той, хто першы здолее стаць зусім дасканалай асобаю, сустрэне і разуменне. За першым яго заслужыць другі... соты... мільённы...— гэткім вось чынам людзі павінны паразумецца з усімі сваімі братамі і сёстрамі.

Як не паразумецца, калі ўсе такія добрыя?

А калі і знойдзецца нехта адзін нядобры, няхай і другі ці тысячны нават, і ўчынкі ў іх будуць благія, бо не захочуць яны ісці разам з намі шляхамі любові і дабрыні, тады наперад выступлю я — і ўсе да астатняга зразумеюць, *якую* праўду нясу я людзям.

Бо, як ні веру я ў чалавецтва, мне яшчэ больш хочацца верыць, што першым, хто дойдзе да ідэалу, мушу стаць я. Усё ж гэтак чыста ў думках маіх і пачуццях!

З'яўленнем сваім я хачу пакарыць увесь свет, героі мае — Магелан і Скарына, а мой абавязак на гэтай зямлі — трымаць высока ў руках паходню першапраходцы.

Каб дасягнуць найхутчэй свайго, заводжу дзённік самакантролю. Але ніяк не магу прывесці ў суладдзе ўсе свае ўчынкі, словы і законы, якія абраў для сябе, якія так марна стараюся не парушаць.

Церпячы недасканаласць сваю, што, як у люстэрку, адбіваецца ў дзённіку, вяду яго месяц, другі, ды нарэшце палю, як сведку свайго няспыннага, дзень пры дні, паражэння, сваёй жахлівай бязвольнасці.

І ўсё ж, пакуль я змагаўся з ёю, удалося нарэшце зрабіць адкрыццё: нельга быць жорстка патрабавальным. Я ж дамагаюся немагчымага: жыць без памылак.

Гэтаксама і людзі ў жыцці між сабою: чакаюць ад іншых бязгрэшнасці, нібыта здольныя быць бязгрэшнымі самі. Не праміnуць і парушынку заўважыць у воку чужым, а ў сваім бервяна не прыкмецяць.

Якую ж нясём мы адно аднаму дабрыню?

Лёгка быць добрым з добрым — паспрабуйце быць добрым з благім.

Дык ці ж не адкажуць людзі даброМ на дабро, якія благія яны б ні былі?

І ўжо разумею раптам, што калі б людзі адкінулі жорсткасць бязмерных сваіх патрабаванняў, то не звярталі б занадта ўвагі на тыя памылкі іншых, перабольшваючы якія, губляем паразуменне.

За дробным людзі не бачаць сутнасці.

Пэўна, многіх калісьці пакрыўдзілі: каго недаверам, каго непавагаю — ці ж мала адценняў у аднаго бязмежнага пачуцця, што завецца няўменнем быць добрым?.. І тыя, каго пакрыўдзілі, сталі крыўдзіць астатніх, пакуль не дайшлі да таго, што сталі здавацца ўсім злымі.

Дабрынёю трэба іх выклікаць на дабрыню.

І я пераходжу да ўсёдаравальнасці.

Цяжкія выпрабаванні чакаюць мяне на гэтым шляху.

Хтосьці смяецца з мяне, хтосьці падманвае, а трэці дык нават і здраджвае. Нехта лічыць, што я ўсяго толькі хітры, нехта — што проста дурны. Але кожны глядзіць на мяне па-свойму.

І мне ўжо здаецца — ці я пачынаю бачыць? — што ў кожнага ёсць свая мэта, якую ён лічыць адзіна вартаю, а ўсё тое, чаго імкнецца дайсці хто-небудзь іншы, яго не цікавіць або раздражняе нават.

Некаму смешна, што я хачу быць паэтам, бо сам ён збіраецца стаць інжынерам: якая бязглуздзіца — корпацца ў рыфмах, мужчынскае ўвагі заслугоўваюць толькі адны механізмы, што прыводзяць у рух усё існае і патрэбнае,— гэта табе не хімеры, не пустыя абстракцыі, прыдуманыя шаленцамі дзеля пустое забавы кволых, засмечаных душ...

Трэці смяецца з абодвух: ён клапоціцца толькі пра тое, каб лёгка і сытна жыць...

Камусьці балюча, што не паважаюць людзі родную мову — некаму прыкра ці смешна на ёй размаўляць: памірае ж яна, непатрэбная, кажуць...

А камусьці ўсё роўна, якой карыстацца мовай — абы разумелі. Дык ні на якой не разумеюць...

Мэты ж дыктуюць кожнаму свой ідэал паводзін.

Кагосьці бянтэжыць мая запаволенасць, і я для яго — цюхцяй, некага я абганяю — і вось ужо я спрытнюга.

Ці не кожны другі зайздросціць кожнаму трэцяму — праз тыя розныя дробязі, якіх сам ён не мае, але нягледзячы на свае непаўторныя погляды прагне ўсё ж мець...

Ніяк не хочуць паверыць людзі ў беззаганнасць маіх памкненняў, кожнаму хочацца залучыць мяне да сваіх ці ўжо зусім разысціся са мною, бо я для яго безнадзейны — настолькі стаў на яго непадобны...

Няўжо й непадобнасць — загана?..

Ці ж не таму выбіраюць многія адзіноту?..

І вось ужо людзі не здаюцца мне амаль бездакорнымі. Я сярдую на іх, стаў замкнёны ў сабе.

Калі б усе былі такія, як я!

Чаму так шчодра надзелены я разуменнем таго, які павінен быць ідэал, чаму так не хочуць астатнія ісці да яго разам са мною, адкінуўшы тое, што мне агідна, за сімвал веры прыняўшы ўсё тое, чым я даражу?..

Ідуць гады. Мне дваццаць.

Жыву я цяпер працай. Весялюся, пакуль малады... Не стаўлю сабе задужа складаных пытанняў, а значыць, не стаўлю іх людзям. Дружбакоў у мяне — цэлы свет!

Ды толькі аднойчы, калі настае бяда, разумею, што ўсё-такі я самотны: шмат хто суцяшае мяне, але не

бачу ніводнага, хто б гора са мной *перажыў*, каму б я хацеў расказаць пра свой боль.

І ўжо зусім не магу разгледзець раптам нікога, з кім можна было б радасцю падзяліцца: кожны больш чакае сваёй...

Не маю, выходзіць, сяброў я — прымаў за іх спадарожнікаў...

Шукаю блізкага чалавека.

Зусім не думаю ўжо аб разуменні ўсіх — немагчымым здаецца разуменне адной хоць душы ў гэтым бясконцым свеце...

Стукнула дваццаць пяць.

О, як гэта шмат — разуменне цэлай ДУШЫ! Як цяжка яго напаткаць, гэты сусвет у зорным людскім бязмежжы.

І ўжо не людзі, упэўнены, вінаватыя ў гэтым: я, чалавек калісьці амаль ідэальны, не разумею сябе — калі ж мог паспець набыць столькі заган?! На якіх такіх складаных дарогах я іх назбіраў?..

Кожнага дня прыкмячаю са страхам, што не вартасці памнажаю, а павялічваю хібы. Заўважаю ўжо іх не толькі ў маіх паводзінах, але і ў характары — ды толькі ніякі самакантроль не ратуе ад недахопаў у ім.

Слабыя месцы перарастаюць мяне, ахілесавы пяты мяне засланяюць — і вось ужо я для многіх адна вялізная хіба, а перш за ўсё — для самога сябе.

І не на пустцы растуць завады мае: дагэтуль я доўга рыхтаваў для іх адмысловую глебу — поле маёй слепаты, грады майго самалюбства, жорсткасці і эгаізму...

Бярэцца за трыццаць.

Я навучыўся нарэшце цаніць па-сапраўднаму вартасці іншых — і таму маё разуменне людзей расце.

Толькі чамусьці яно не ўліваецца кропляю ў акіян узаемапавагі — бачу адно, як цякуць ручаі, ручайкі, ручаёчкі — і толькі...

Няма акіяна...

Ручаі — нават і тыя, бывае, перапыняюцца... і высыхаюць...

Колькі ж часу патраціў, каб дайсці да разумення астатніх,— і як мала яго трэба было, каб цяжарам усіх папярэдніх памылак зменшыць мажлівасць з'яднання з людзьмі!

Хутка ўжо трыццаць тры.

У мяне падрастае сын.

З радасцю бачу, што ён таксама хоча ісці да ідэалу і паразумення з усімі.

Але...

«Тата,— пытаецца ён у мяне ў смутку,— а чаму гэта людзі не разумеюць адзін аднаго?..»

Пачынаю нешта тлумачыць — і не магу даць варты адказ.

Так шмат людзей амаль бездакорных, якія нясуць з сабой дабрыню,— і так шмат на зямлі адзіноты, неразумення і болю...

Няўжо гэта лёс чалавецтва?..

Няўжо ручаі, няўжо нават рэкі не зліюцца ніколі ў моры?.. Няўжо паміж морамі паразумення заўсёды будуць ляжаць разнамоўныя кантыненты з пустэльнямі крыўды, знявагі, варожасці?..

Але раптам бачыцца мне позірк бабулі маёй...

Свецяцца вочы старэнькія сумам, спагадаю, мудрасцю.

Растае ёй адмераны келіх дзён, у сутонні сагрэтых дрыготкай і цьмянай надзеяй, што заўтра растане — і будзе наўкол адна дабрыня...

# Малюнкі на попеле

## Аповесць

### I

*«Бацьку*

У той вечар Мікалай Пятровіч доўга, за поўнач, сядзеў на кухні каля акна, курыў і глядзеў на вуліцу...

Звычайна ён садзіўся ля акна, калі ўжо цямнела, і часцей за ўсё пасля дажджу: дождж, прайшоўшы, заўсёды абуджаў у ім незвычайны настрой, а позні вечар даўно ўжо стаў любімай парою — тады можна было пабыць аднаму, у цішыні, сам-насам са сваімі ўспамінамі...

Спачатку ён проста глядзеў уніз.

Святло на вуліцы было тады слабае, цьмянае, усё роўна як чымсьці размытае. Здавалася, што высачэзны ліхтар, стаміўшыся ад нядаўняе барацьбы з дажджом і ветрам, сагнецца, задрыжыць і згасне — а колькі ж хвілін назад струменіў святло ў бяздонні вады і цемры ўпарта і пераможна.

Людзі на прыпынку з надзеяй углядваліся ў канец вуліцы, адкуль павінен быў выехаць нарэшце доўгачаканы тралейбус, ціснуліся каля абочыны, быццам гэтак можна было прыспешыць яго, а даволі ўжо рэдкія легкавыя машыны так імкліва прарэзвалі халодную цемрадзь, дражнячы людзей на прыпынку агеньчыкамі фар, што тыя адчувалі сябе далей ад дому, чым былі на самай справе, і яшчэ глыбей засоўвалі рукі ў кішэні.

Але спакваля Мікалаем Пятровічам непрыкметна авалодвалі розныя думкі...

Аконнае шкло ўжо не проста аддзяляла яго ў хатнім цяпле ад астылай, няўтульнай вуліцы, на якой

няўрымслівае жыццё ўсё яшчэ разыгрывала маленькі меланхалічны эпізод свайго бясконцага спектакля.

Яно размяжоўвала хвіліны дня сённяшняга, што непрыкметна цяклі цяпер, калі Мікалай Пятровіч сядзеў перад гэтым шклом, ад безлічы тых хвілін, якія даўно ўжо зліліся ў адзін доўгі-доўгі дзень усяго яго папярэдняга жыцця.

Акно было для Мікалая Пятровіча ўсё роўна як нейкай празрыстай заслонаю, за якою на велізарнай, скупа сагрэтай адзінокім ліхтаром сцэне, ахутанай вячэрняй смугою, мільгалі застылыя ў яго памяці фрагменты гэтага доўгага дня без акрэсленых канца і пачатку. Цяжка вызначыць, які ж дзіцячы ўспамін, пэўна, першы ў чалавека і якая з апошніх маленькіх падзей не застанецца звычайнай драбніцай у калаўроце будзённасці і засядзе ў памяці так трывала, што не сатрэцца ніколі, хіба толькі смерць скасуе гэты адбітак жыцця разам з усімі астатнімі. Сённяшняе не аддзяляецца ад мінулага якойсьці мяжою, яно пераходзіць у яго спакваля, выжываючы ў душы сярод другараднага, якое знікае патроху бясследна, нібыта чалавек і не жыў у той час, калі не здаралася нічога значнага.

Памяць, самотная рэжысёрка спектакля, якім жыў цяпер Мікалай Пятровіч, смела рушыла імгненні мінулага, воляй сваёй блытала колішні іх парадак, наштурхоўвала адно на адно і адразу ж разбівала кожнае, перакрэсліваючы ўсе законы развіцця дзеі: яна не ведала прадуманай штучнасці тэатральных падмосткаў, іх эфемернай гармоніі, а проста чула, як жыве душа чалавека.

Пусцеў пачак «Прымы» на падаконніку, пусцела вуліца ўнізе, і дзіўна, але ад таго, што знікалі людзі, за акном рабілася неяк святлей. Мікалай Пятровіч ніяк не мог зразумець, чаму так адбываецца: няўжо

гэтыя дробненькія фігуркі людзей на прыпынку прыцягваюць да сябе так шмат святла?

Праходзіў яшчэ нейкі час, і ён уключаў прыёмнік.

Мікалай Пятровіч заўсёды ўключаў яго толькі тады, калі чалавечкаў унізе падбіраў апошні тралейбус, таму што пасля гэтага музыка грала нібыта для яго аднаго, рабілася чыстая.

Ён пачынаў адчуваць толькі сябе і дзесьці далёка-далёка маленькі аркестрык, а ўсё тое, што яшчэ зусім нядаўна магло заглушыць музыку, перашкодзіць ёй ліцца вольна, забрудзіць яе чысціню сваім подыхам, спакваля раставала, усё адно як і не было нічога наўкол,— і той далёкі пакойчык, дзе знайшлі сабе прытулак музыкі, быў цяпер бліжэйшы, чым пачак цыгарэт, да якога можна было дакрануцца рукою.

Музыка нібы ўлівалася ў Мікалая Пятровіча, выцясняючы ў ім дарэшты ўсё астатняе, і несла яго на нябачных сваіх крылах у нешта цёплае і лагоднае, зусім не падобнае на тое, што можна было бачыць і адчуваць днём, калі на ўсім стаяла пячатка будзённасці. Цяпер у ім выпростваўся нейкі іншы чалавек, што жыў у глыбіні яго душы.

Сам Мікалай Пятровіч ніколі б не змог расказаць пра тое, што адчуваў у гэтыя моманты, бо не здолеў бы абысціся скупымі словамі. А сэрцу яго падуладна было ўмясціць у сабе многае.

Гэта было нешта накшталт палёту.

Пачуццё накочвалася на Мікалая Пятровіча цёплымі хвалямі і было то цьмянае, то яснае, то самотнае, то радаснае, а то ўбірала ў сябе адначасна ўсё светлае, што жыло ў яго сэрцы, і нельга было ўжо аддзяліць смутак ад весялосці. Ад хваляў гэтых рабілася так лёгка і вольна, так дзіўна хораша, што ён нават пераставаў адчуваць сябе і нібыта раставаў у бязважкасці.

Яго ахапляла шчасце, якому нішто не перашкаджала, як гэта звычайна бывае ў будзённасці, шчасце, у якое можна было верыць.

Але яно ніколі не цягнулася доўга, бо знікала адразу ж пасля якога-небудзь акорда неабдымнага аркестра ночы — у таго свая была музыка. Уздрыгваў у буркатанні сваім халадзільнік, спыняўся каля дому смеццявоз, чуўся ляскат кантэйнераў, стагнала ў сне жонка — і палёт абрываўся.

Мікалай Пятровіч зноў бачыў сябе на кухні, аглядваў падаконнік, пачак «Прымы», каструлі, чайнік, чуў звыклыя пахі і разумеў, што ўжо ноч і пара ісці спаць...

Будзённасць, якая заўсёды стаяла над ім, вызначаючы няўмольна ход жыцця, будзённасць, з-пад улады якой так рэдка ўдавалася вызваліцца, зноў вырастала над ім, падмінала пад сябе, зацягвала ў свой бясконцы, бяздонны вір... І музыка гучала гэтаксама спакойна і роўна, як і ўдзень, калі ён мог нават насвістаць ёй ва унісон, майструючы што-небудзь каля таго ж акна...

Тады, выкурыўшы апошнюю цыгарэту, ён ішоў спаць.

Часта ў сне да яго прыходзіла тое, што было з ім калісьці і што ён зноў убачыў увечары за аконным шклом — адламаўшыся ад груды ўспамінаў, каменьчыкам трапляў у яго забыццё іх маленечкі аскалёпак... Іншы раз Мікалай Пятровіч усміхаўся, бо вяртаўся ў тую даўнюю пару, калі яшчэ рэдка балела душа і не была, як цяпер, даспадобы цемра за акном, а іншы раз уздрыгваў, з усяе сілы спрабуючы спыніць тое горкае, непапраўнае, што стала болем, які не сціхае ніколі,— так глыбока, наскрозь, раз і назаўжды працяў гэты боль душу...

Прачнуўшыся, ён не вытрымліваў і, хоць ад выку-

раных цыгарэт ужо сушыла ў горле і даймаў удушлівы кашаль, зноў ішоў на кухню, закурваў, прагна зацягваўся і ўспамінаў...

Гэтаксама прайшлі і тыя яго вечар і ноч.

«Трэба ўсё ж такі выспацца»,— падумаў ён нарэшце, і прыемны халадок сціснуў сэрца.

Заўтра, дакладней, ужо сёння, яму спаўняецца пяцьдзесят.

І ўпершыню ў жыцці прыйдуць да яго людзі павіншаваць з днём нараджэння.

Не браты, што наведваюцца з душою, поўнай дрэнна схаванай, крыўднай спагады, па абавязку, які зрэдку выконваецца,— прыйдуць людзі, чыё жыццё падобнае да ягонага, людзі, што паважаюць свайго таварыша, як ён паважае іх.

Абавязкова трэба было ўзяць сябе ў рукі і выспацца, каб мець сілы прыняць гэтых людзей як след.

Ён вярнуўся ў пакой, лёг у пасцель, але, праваліўшыся на які момант у яміну забыцця, неўзабаве вынырнуў з яе зноў — успаміны агортвалі яго, не адстаючы ні ў ложку, ні каля акна, ні ў роздуме, ні ў сне...

...З цемрадзі на яго пільна глядзелі чыесьці сярдзітыя вочы. Рабілася страшна, і ён адыходзіў назад. Сэрца выскоквала з грудзей, усярэдзіне ўсё ледзянела і абрывалася, падгіналіся ногі. Ледзь трымаючыся, каб не ўпасці ад страху, ён застываў на месцы і патроху супакойваўся. Але як толькі ён міжволі накіроўваў позірк туды, да смуглявага, барадатага твару на пацямнелым абразе, сярдзітыя вочы зноў пачыналі сачыць за ім, а густа-чырвоныя вусны, здавалася, варушыліся і прамаўлялі: «Навошта ты сюды ўлез?» Ён рабіў яшчэ адзін крок назад, другі — убок, але вочы таксама пасоўваліся ўслед за ім, праціналі пагрозлівым пытаннем: «Што табе тут трэба?» Страх рабіўся

невыносны, здавалася ўжо, нікуды не ўцячы ад жахлівага гэтага позірку, колькі ні бяжы, дый як было бегчы, калі ногі не слухалі зусім, нібыта ўжо не яму належалі, а проста прыстаўлены былі да яго, усё роўна як нежывое штосьці...

Мільгала думка, што паратунак адзін: кінуцца вобзем, распластацца, з усяе сілы, якая яшчэ заставалася, уціснуцца ў халодную зямлю, закрыць рукамі вочы і вушы, каб не бачыць гэтага дапытлівага позірку, праваліцца ў бездань, дзе не знойдуць яго ўжо гэтыя вочы,— але што, калі гэта сам Копша, уладар магільнікаў, кліча яго да сваіх шкілетаў, хоча забраць да пары ў свой страшны хаўрус, раззлаваўшыся на яго за тое, што ўвёў ён учора ў зман дзеда, які не хлусіў ніколі нікому і вучыў гэтаксама рабіць і свайго ўнука,— што тады?.. Ад страху толькі памерці заставалася. Сэрца білася ў грудзях, як верабей у яго руцэ, якога ён злавіў быў колькі дзён таму і не выпускаў доўга на волю, колькі ні трапятала ўмольна ў далоні гарачае птушынае цельца. Мусіць, і за гэта таксама сабраўся яго пакараць люты Копша...

«Не, Копша, не радуйся да пары, я ўцяку ад цябе ў бездань, і ты не здолееш знайсці мяне там, колькі ні ганіся! Трэба адно ўціснуцца як след у зямлю і закрыць рукамі вочы і вушы шчыльна-шчыльна — тады усё роўна як мяжа нейкая праведзена будзе між намі, адгародзіць мяне ад цябе, і ніяк ты праз яе не ўшчэмішся! Я ведаю, што трэба рабіць, калі напаткаў здань і нікога нельга паклікаць на помач, бо схопіць яна тады цябе адразу ж, як крыкнеш, сваімі ўчэпістымі рукамі... Гэтак ратавацца вучыў мяне дзед, калі расказваў узімку на печы байкі...» Але ж сілы не было ніякае кінуцца вобзем, гэтак прыцягвалі да сябе злыя Копшавы вочы — во як звузіліся, утаропіўшыся ў яго, пражэрлівыя! Ад паганага страху хацелася ступіць насустрач Копшу крок (і зрабіць яго было шмат лягчэй

за крок назад), аддацца ў яго жалезныя абдымкі — гэтаксама цягне раптам чамусьці кінуцца ў глыбокі калодзеж, калі доўга ўзіраешся ў ваду... «Дзеду,— збіраўся ён ужо крыкнуць з адчаю і жаху,— выратуй мяне!..» Але словы, што камякі, захраслі ў горле. Дзед сурова глядзеў на яго...

«За што, дзеду, не магу я нават паклікаць цябе, чаму сярдуеш ты на мяне, быццам злы Копша — я ж унук табе, дзеду, няўжо ты не хочаш расказваць мне больш узімку казкі на печы?.. Хто ж тады, як забярэ мяне да сябе Копша, будзе падносіць табе дошкі, калі станеш ты іх габляваць для новых лаў, сталоў і шафаў, што прасілі цябе зрабіць суседзі?.. Хто ж прынясе табе на сняданак свежых яек і пойдзе з табою ў пуню паляваць на тхара, якога ты ўсё збіраешся забіць, каб здзерці з яго шкурку,— нашто толькі вось?.. Хоць і шкодзіць нам тхор, ды жывое ўсё-ткі стварэнне, а ты ж такі добры, усіх шкадуеш... Але, мусіць жа, трэба, калі так вырашыў ты, дзеду, самы разумны і справядлівы... Ды чаму толькі ты да мяне нядобры цяпер, хіба не чуеш, што бяда з унукам тваім Міколкам? Ці дараваць не можаш учорашні падман, пра які аднекуль даведаўся — можа, Настаська суседава выдала, бо бачыла, як хаваў я пад камень у садзе тыя пяць капеек рэшты, што не дадаў табе, прыйшоўшы з крамы, куды ты паслаў мяне па муку... Дык не буду я болей, дзеду, рабіць так, не буду ніколі больш хлусіць, і не будзе табе лепшага памочніка ў тваёй сталярскай рабоце — а ты ж яшчэ абяцаў мяне вывучыць, дзеду, каб рабіў я такія ж добрыя лавы, сталы і шафы і лічыўся лепшым майстрам на ўсе двары!.. Дык памажы, дзеду, падкажы, што рабіць, каб уцячы ад ненавіснага Копшы!..»

І дзедаў твар, які ён, заплюшчыўшы вочы, бачыў цяпер, мякчэў — ніколі стары не ўмеў быць суровым, заўсёды хутка перамагала ў ім дабрыня, які б строгі

ні рабіўся раптам... Дзедаў голас падказваў: пераступі праз страх, збяры ўсю сілу і крыкні, гукні каго-небудзь, ты ж не адзін, пэўна, улез у царкву, хоць і казаў я табе не лазіць, бо грэх выйдзе і напаткаеш тады ў пакаранне страшнага Копшу — дык што ж ты тады не паслухаў мяне, га?..

Узрадаваўшыся, ён крычаў немым голасам — адкуль толькі той узяўся? — і адразу ж нехта з сябрукоў адгукаўся з двара на працяжнае «Хло-о-о-опцы-ы-ы-ы!»: — «Мі-і-і-іко-о-о-олка-а-а-а!» Ён асцярожна расплюшчваў вочы і не без боязі, але ўжо шмат смялей узіраўся ў кут, адкуль глядзеў толькі што пагрозліва Копша, збіраючыся схапіць яго сваімі даўжэзнымі кашчавымі рукамі — перад ім быў звычайны абраз, акурат падобны на той, што вісеў у іх у хаце, толькі вялікі і больш размаляваны... Але, каб упэўніцца яшчэ раз, што ён не адзін тут і хлопцы яго сам-насам з Копшам не кінуць, ён крычаў зноў. Рэха, нарадзіўшыся з крыку, паволі падала ўніз ад самых купалоў, дрыжэла, завароджвала яго сваёй таемнасцю — і ён здаваўся сабе маленькім мурашом у неабдымным свеце з яго бясконцымі загадкамі...

Яны бегалі ў тую занядбаную царкву то шукаць схаваныя там скарбы, пра якія расказваў дзед, то гуляць у вайну: нашы супраць фінаў на лініі Манергейма — ад пачутага па радыё слова дыхала нечым халодна-сталёвым... Сцены былі старыя, патрэсканыя, а маленькія акенцы, што выдавалі на байніцы ў замку з фільма, які яны нядаўна глядзелі, былі дзе-нідзе не надта шчыльна пазабіваныя дошкамі, і святло, цёплае і пыльнае, прасочвалася ў царкву маленькімі струменьчыкамі, нібыта паволі ўплывала ў яе, пракрадвалася ўпотайкі, парушаючы сон абразоў на сценах — твары на тых абразах, змрочныя і суровыя ў зацемненых кутах царквы, здзіўлялі непадалёк ад акенцаў сваёй светласцю і самотнаю дабрынёю...

Царква, расказваў дзед, была зачынена яшчэ ад вайны з панамі — тады яшчэ вёска іх не была, як цяпер, гэтак блізка ад горада,— з таго дня, калі тут засела як у пастку загнаная банда Яські Голуба, тутэйшага чалавека, што сабраў у сваю хеўру самых адчайных гіцляў з усяго наваколля, бо не хацеў аддаваць новай уладзе збожжа... Да апошняга патрона адстрэльваліся Яськавы людзі; ведалі ж: так ці інакш, усё роўна смерць — колькі ж людзей перавешалі, пазастрэльвалі ў гэтых мясцінах, колькі хат папалілі... Калі бой скончыўся і Яську вялі з царквы, валасы ў яго былі раскудлачаныя, і жанчыны з лямантам так і цягнуліся ўчапіцца ў іх рукамі. А Яська толькі круціў галавою, усё адно што бык, які адмахваецца ад мух, і колькі кабеты ні віслі ў яго на плячах, скідваў іх з сябе ўсіх, хоць і былі звязаны рукі... І жанчыны, і міліцыянеры, што ніяк не маглі адагнаць іх ад Яські, і сам Яська, злы, высачэзны, дужы, яго пагардлівы позірк проста стаялі ў вачах, калі расказваў дзед гэтую гісторыю,— так умеў ён словамі надаваць жыццё ўсяму даўняму, робячы гэтае даўняе больш жывым, чым самое жывое нават...

Ён выходзіў з царквы, краўся ўздоўж сцен, углядаўся ў сляды таго бою — выбоіны і драпіны ад куляў, якімі з усіх бакоў пасечаны быў мур...

А пасля раптам пачаўся дожджык, дробны і цёплы,— яго называлі «цыганскім». Сонца пры ім ніколі не знікала, наадварот, рабілася нейкае яснейшае, цяплей пачынала струменіць сваё ласкавае святло, што нібыта рассыпалася бліскучымі іскрынкамі ў косай, празрыстай сцяне лагодных кропляў. Разам з астатнімі хлапчукамі ён падстаўляў пад дождж рукі, твар, звонка, залівіста смяяўся, шчасліва заплюшчыўшы вочы, падскокваў на месцы, высока, як толькі мог, і асколачкі яго смеху, што таксама, здавалася, рассыпаўся ў цёплай сцяне кропляў, натыкаліся на іскрынкі свят-

ла і таксама пачыналі іскрыцца, а святло звінела, звінела, звінела...

За акном пачынаўся дождж.

«Дождж ачышчае,— часта казаў яму некалі дзед, выходзячы пасля дажджу на ганак,— глядзі, як ціха стала...»

Але толькі праз шмат гадоў пасля таго, як у хаце назаўсёды сціхлі мерныя дзедавы крокі, калі Мікалай Пятровіч, гуляючы неяк па горадзе ўжо са сваім сынам, перачакаў дождж пад мостам, па якім праносіліся цягнікі, бы прарэзваючы сваім грукатам шум ліўня, так што закладвала ўжо вушы, і сыну рабілася страшна,— тады толькі адчуў ён упершыню ў жыцці, якая ж напраўду настае адразу пасля дажджу цішыня: нібыта чуеш усё, што робіцца ў цябе ў душы, у самай яе глыбіні...

«Тата,— спытаў раптам сын,— а ці ёсць месцы, дзе няма злых людзей?..»

«Злых людзей?» — перапытаў ён, здзівіўшыся, што сынава пытанне акурат выдавала на тое, якім ён сам калісь збянтэжыў дзеда,— і тут цішыня ўзарвалася: затарахцеў недзе непадалёк кампрэсар, зараўла сірэна пажарнай машыны, пачуўся віск тармазоў, чыйсьці крык... Але выплыла аднекуль, прабіваючыся праз усё гэта, музыка невялічкага духавога аркестра...

У дзяўчыны, з якою ён стаяў на танцпляцоўцы, была паркалёвая, у гарошынку сукенка і сінія, быццам валошкі, вочы, што, здавалася, напаўнялі ўсё вакол яе радасным святлом. Яна ўсміхалася, а ён пераступаў з нагі на нагу, няўклюдна трымаючы ў загрубелых руках цёплыя фіялкі — упершыню ў жыцці збіраўся падарыць дзяўчыне кветкі,— і прыкрываў свой лагер-

ны нумар на абцягнутым танюткай ружаватаю скураю прадплеччы — выпальваў няўдала ў арміі...

Аркестр зайграў павольны танец, і ён, хоць і не ўмеў зусім танцаваць, не вытрымаў і запрасіў яе, гледзячы на астатніх, што шчасліва ўсміхаліся ў танцы, а калі яна кіўнула, згадзіўшыся, падхапіў яе і, нібы ў сне, няўмела закружыўся, наступіў ёй на нагу, пасля ледзь не збіў нават некага, так што самі яны ледзь утрымаліся, каб не ўпасці. Спыніўшыся, ён стаў прасіць прабачэння, растлумачыў, што танцуе ўпершыню ў жыцці, але яна не паверыла, павяла яго далей — і тут ён убачыў раптам Грышку Макарэвіча, з якім калісьці разам бегалі ў царкву гуляць у вайну, і, асцярожна прытрымаўшы дзяўчыну за руку, спыніўся. Грышка стаяў непадалёк, нешта жаваў і ўсміхаўся нахабна ў самыя вочы сваім заўсёдным невыносным пытаннем: «Ты дзе ў вайну адседжваўся?.. Каваў перамогу германскай зброі?.. А я, сябар ты мой, у партызанах, ведаеш, хадзіў, не тое што некаторыя...»

«А ты там быў?.. Не, ты там быў, скажы!.. Ты ведаеш, што там было такое?!» — кінуўся ён на былога сябрука, выкрыкваючы словы так, быццам выдзіраў іх з самага сэрца... Калі іх разнялі, Грышка, хрыпла лаючыся, выціраў рот і пляваўся крывёю, а ён задыхаўся і глядзеў на таго з крыўдаю, што душыла яго, выціскала з вачэй бяссільныя слёзы — ён не зважаў на іх, зусім не бачыў таго, што побач яго дзяўчына, людзі...

Бо ўспомніўся раптам Кіль, змрочны шэры порт у вячэрнім тумане, баржа з моркваю... Яны перабіралі яе з самага ранку і нічога яшчэ не елі. Не выцерпеўшы, ён схапіў адну морквіну і, выцершы ўмомант аб штаніну, сунуў у рот. І тут немец пхнуў яго ботам у грудзі, абазваўшы свіннёю, бо гэта ж трэба панадзіцца

на такую брудную морквіну, ён бы, будзь яго воля, усіх іх *адзін* парасстрэльваў... Немец быў маленечкі, хударлявы, і твар яго, з халоднымі шэрымі вочкамі і тонкімі бяскроўнымі вуснамі, здаўся раптам такім ненавісным, агідным, што, не разумеючы яшчэ, да чаго можа прывесці тая сіла, што ўзнялася ў ім, ён кінуўся на салдата і штурхнуў у моркву, наваліўся на яго і пачаў душыць...

«Што робіш, Мікола?!» — быццам у сне, пачуў ён, як закрычаў спалоханы сябрук, і адразу ж крык змяніўся дружным рогатам і ненавісным гергетаннем... Разумеў ён да канца толькі тое, што задушыць зараз гэтага фашыста. Ён павінен быў задушыць яго, каб адпомсціць — і за тое, што зрабіў ужо з ім, і за тое, што мог бы зрабіць *адзін* з *усімі*... І, пэўна, задушыў бы, столькі сілы з'явілася ў кволых, знямоглых руках ад прыліву нянавісці. Раптам рогат і гергетанне сцішыліся. Нехта, злосна пхнуўшы нагою, скінуў яго з салдата... Пакаціўшыся ўбок, ён стаў чакаць стрэлу.

Афіцэр, што падышоў да яго, доўга моўчкі глядзеў яму ў самыя вочы, пасля нечакана зарагатаў, аж но аслёзы выступілі на вачах... За ім пачалі рагатаць астатнія, адзін толькі танклявы карантыш, якога ён ледзь не задушыў, моўчкі соп і пляваўся. «Чаго рагочаце, морды фашысцкія?!» — захацелася крыкнуць яму, але, спакваля ачомаўшыся, ён зразумеў, што ў роце ў яго так і засталася тая морквіна — і са злосцю выплюнуў яе...

Афіцэр, выціраючы насоўкай вочы, кінуў яму шакаладку і загадаў: «Еш!» Але ён нават не паварушыўся, глядзеў спадылба немцу ў вочы. «Еш!» — зноў загадаў афіцэр і ўзвёў на яго рэвальвер, ад халоднага бляску зброі ў грудзях падняўся страх перад смерцю, і захацелася крычаць: «Не!.. не!.. не!..» Ён ужо хацеў быў падняць шакаладку, але штосьці ў афіцэравым позірку падказала: падымеш — заб'е... Немец узвёў

курок, стаў узнімаць руку — вышэй, вышэй, чорнае дула рэвальвера глядзела яму ў самы лоб... Праняли дрыжыкі, пасля зусім стала калаціць, ажно ляскалі зубы... «Еш!» — загадаў афіцэр, голасам даючы знаць, што робіць гэта апошні раз, і ён ледзь стрымаў сябе, каб не нагнуцца... І тут немец стрэліў — ногі ўраз і падагнуліся...

Калі апрытомнеў, заўважыў, як кружыцца над ім неба — сіняе-сіняе, нават дома такога ні разу не бачыў,— пачуў, як рагочуць немцы, а больш за ўсіх афіцэр, які зноў дастаў з кішэні насоўку і, уздрыгваючы, выціраў ёю слёзы... Але цяпер ужо не было ў душы ні раз'юшанасці, ні страху — ён нічога не разумеў, не хацеў і не баяўся, бачыў толькі нешта і нешта чуў... Пуста было ў душы, нават неба — жывы, значыць! — не хвалявала... Нарэшце, калі смех аціх, афіцэр халадна, нібы высякаў кожнае слова з металу, вымавіў: «Калі яшчэ раз такое — здохнеш на месцы...» Ад жудаснага позірку немца ўсё ў вачах стала кружыцца яшчэ больш, некуды паляцела, перавярнулася, правалілася,— і вось ужо бачыў ён хату, вёску...

Той лістападаўскі ранак быў золкі, і галіны нязвыкла, да пары былі прыцярушаны снегам... Ён еў хлеб, сціскаючы ад холаду плечы, і хаваў рукі ў кішэні старых вельветавых штаноў. У правай кішэні была дзірка, і хлебныя крошкі прыставалі да нагі. Хатулёк на плячы быў зусім маленькі, таму што маці не змагла нічога сабраць: свінню ўлетку разарвала снарадам, што трапіў акурат у іхні хлеў. Маці плакала, але да вагона яе не падпускалі, і яна ўвесь час натыкалася грудзьмі на дулы аўтаматаў...

Куды яго павязуць і што там з ім будзе, ён разумеў цьмяна, адчуваў адно няясную трывогу, ад якой, калі яна наплывала, раптам усё халадзела ўсярэдзіне.

І амаль не плакаў, бо выплакаўся да таго, за ноч, а пасля яшчэ і ўранку, калі яго знайшлі ў старым калодзежы на ўскрайку вёскі, дзе ён, не сказаўшы родным ні слова, схаваўся ад немцаў, прыхапіўшы з сабою кавалак хлеба і колькі цыбулін — разлічваў праседзець там тыдзень...

Яшчэ дзівіўся з таго, што было гэта сёмага лістапада, якраз на свята — прыгадалася раптам, як летась дзед вадзіў яго ў горад на парад, частаваў марожаным і шакаладнымі цукеркамі... Маці ўсё плакала, і ён з жалем глядзеў на яе... Бацькі і дзеда не было: іх забралі ў горад на нейкія работы... Побач з імі было шмат такіх, як ён,— маленькіх, азяблых, з вузельчыкамі на кволых плячах. Калі цягнік крануўся, маці, ускрыкнуўшы, рванулася наўздагонку, а з прыцярушанай снегам галіны ўзляцела, крыкнуўшы, напалоханая варона — на чорную зямлю, што патыхала яшчэ, здавалася яму, цяплом, пасыпаўся снег...

Па вуліцы прапаўзла першая з ночы машына — палівалі, чысцілі ад пылу асфальт.

Падумаўшы, ён адчыніў халадзільнік і паглядзеў, што ж там у яго назапашана гасцям...

Мікалай Пятровіч вырашыў, што адзначыць для таварышаў па рабоце свой юбілей, калі прыйшоў дамоў пасля пахавання Сенькі, токара з яго брыгады, з якім ён шмат гадоў гуляў у заводскай футбольнай камандзе. Мікалай Пятровіч не памятаў, калі менавіта, у які момант надумаў ён гэта, толькі бачыў, седзячы ў той вечар каля акна, як бліскалі рыдлёўкі, як ляцелі камякі гліны, пяску, зямлі...

Раней ён проста забываўся пра дзень нараджэння. Лёс яго ніколі не песціў, а сам ён праз змрочны свой характар не ўмеў рабіць сабе святы. Зрэшты, занятак

гэты і для тых, хто да яго здатны, не з самых лёгкіх.

У дваццаць шэсць гадоў ён ажаніўся з дзяўчынай, якую кахаў. Праз год нарадзіўся сын. Праз дванаццаць гадоў сям'я перабралася з пакойчыка ў хаце на ўскраіне горада ў новую кватэру. Нарэшце сын Расціслаў паступіў у інстытут кінематаграфіі, і гэта стала бацькавым гонарам.

Вось, бадай, і ўсе яркія ўражанні ў жыцці ў Мікалая Пятровіча, усе яго святы.

Але ці ад нараджэння быў ён да суму схільны чалавек, ці стаў такі самотны з гадамі, Мікалай Пятровіч і сам бы не змог адказаць, гэтак даўно жыццё для яго займела гаркавы прысмак. Здаецца, быў у дзяцінстве вясёлы...

Колісь казалі, што ў яго быў абсалютны музычны слых, і ў футбол ён гуляў адмыслова. Але ні музыкантам, ні футбалістам праз вайну і пасляваенную беднасць стаць не пашчасціла. Адбілася не раз на ягоным жыцці і тая дужа важная тады акалічнасць, што вайну ён правёў у Германіі.

Блізкія Мікалая Пятровіча, ягоныя знаёмыя лічылі, што жыццё ў яго не ўдалося.

Сам ён ніколі не гаварыў пра свае няйздзейсненыя мары, а калі ўжо гамонка такая заходзіла, адразу ж пераводзіў размову на іншую тэму. Уважлівыя вочы прыкмячалі, што рабілася чалавеку балюча...

Словам, будзённым было для яго заўсёды жыццё. А часта, калі даймалі без меры дробныя клопаты, яно здавалася яму нудным, як доўгі шэраг таварных вагонаў, і выходзіла, што, вазьміся ён, скажам, лічыць гэтыя бясконцыя, нічым адзін ад аднаго не адметныя дні-вагоны, дык немагчыма было б не збіцца з ліку, бо лік гэты пераставаў ужо мець хоць якое-небудзь значэнне і пераўтвараўся ў простае нанізванне колцаў на

адмераны жыццём ланцужок: колькасць звенняў манатонна ўзрастае, пакуль не падыходзіць да мяжы,— ланцужок злучаецца і зараз жа разрываецца, рассейваючыся ў нішто...

Але калі Мікалай Пятровіч надумаў справіць дзень нараджэння, дык стаў тады жыць адным чаканнем гэтага свята. Пяцьдзесят гадоў трэба было адзначыць як след, каб не было потым сорамна. Тым больш што ён заўсёды трымаўся крыху асобна ад таварышаў па рабоце і цяпер лічыў сябе перад імі ў даўгу, які трэба сплаціць, хоць гэты раз не здацца людзям скупым самотнікам. З тае пары, як ён ажаніўся, сяброў у яго не было, як, зрэшты, і ў большасці ягоных знаёмых, што, як кажуць, пасталелі, але Мікалай Пятровіч быў усё ж неяк незвычайна моцна адданы сям'і і часцей за ўсё, калі брыгада адзначала розныя святы ды прэміі, цягнуўся дадому, шкадуючы траціць грошы, якіх і так не ставала. З яго кпілі, але ён, хоць і нялёгка было, прыцярпеўся да насмешак. Так і апынуўся зусім адзін у сваім жыцці: жонка вечна аглядвалася на яго братоў, бо зайздросціла іх багаццю, а сын...

Ды пра сына крыху пасля.

Цэлы тыдзень перад днём нараджэння Мікалай Пятровіч, засынаючы, доўга варочаўся ў ложку, думаў пра тое, што лепш купіць, якія стравы згатаваць, часта пачынаў раіцца з жонкаю, будзіў яе раптоўнымі пытаннямі: здавалася ж яму, што яна таксама не спіць — так што тая стала нават злаваць. А клопату ў яго хапала. Ён адмовіўся ад паслуг брата, дырэктара прадуктовага магазіна, бо лічыў, што ўсё неабходнае кожны павінен купляць у агульнай чарзе, і цяпер увесь вольны час бадзяўся па магазінах.

У апошнюю ноч так і не ўдалося заснуць хоць на гадзіну, хіба што клопат пра дзень нараджэння змянілі ўспаміны і роздум пра тое, дзеля чаго жыў і ці варта было тое жыццё пражыць...

Стол атрымаўся добры. Мажліва, на чыйсьці погляд быў ён і не зусім юбілейны, але ж і гаспадар прымаў такіх, як і сам, простых людзей, якім гэты стол здаўся адмысловым.

Хіба што спазніліся госці — гэтага Мікалай Пятровіч ад іх не чакаў.

Незвычайным аказаўся і падарунак юбіляру — акваланг.

Вельмі ўжо доўга думаў імяніннік пра дзень нараджэння — адно ж прычакаўся такой неспадзяванкі. Адразу ён і вачам не паверыў — ну нашто яму акваланг? — і яму стала крыўдна: усе ж добра ведалі, што ён каторы ўжо год збіраўся купіць прайгравальнік. З месяц ужо як пачаў прыглядацца ён да пласцінак і ўсё ніяк не мог адшукаць любімую — «Венгерскія танцы» Брамса, але паланез Агінскага «Развітанне з радзімаю» знайшоў. Нават змайстраваў спецыяльную паліцу для пласцінак і паставіў яе на стол — там, дзе будзе стаяць прайгравальнік. Кожны дзень ён лашчыў прыгожы глянцавы канверт, нібы гэта было што жывое, і выглядваў, ці няма на пласцінцы драпін.

Мікалай Пятровіч з сумам глядзеў на падарунак, і яму здавалася, што ўсё гэта сон ці няўдалы жарт. Сабе купілі хлопцы акваланг, хацелася думаць яму, а прайгравальнік схавалі на лесвічнай пляцоўцы, каб разыграць яго, і калі ўрэшце ўнясуць апарат у кватэру, ён паставіць ім паланез — дарма што яны непрывычныя да класічнай музыкі, гэтая пэўна ўжо ім спадабаецца.

Але сказалі яму — бо немагчыма было не апраўдацца, гледзячы на маркотнага юбіляра,— што паслалі купляць прайгравальнік маладзейшага, Сюлю, а той узяў дый зайшоў у «Спорттавары» паглядзець сабе сетку для бадмінтона, вось і прыгледзеў там акваланг.

Для ўсіх быў Сюля вядомы блытанік і недарэка, нездарма ж у яго вока адно зялёнае, а другое блакіт-

нае, ды абодва яшчэ і касыя. Толькі ўсё роўна ніхто не мог зразумець, як гэта нават ён, Сюля, дадумаўся да гэтага акваланга.

«Адмачыць такі нумар! Рукі мала паадрываць за гэтакі фокус дурню!» — казалі яны, калі, сустрэўшыся з Сюлем ля самага ўжо дома, дзе жыў Мікалай Пятровіч, даведаліся пра акваланг. Пагналі Сюлю назад акваланг здаваць, але ў магазіне яму сказалі, што аквалангі — не мяхі, на месцы ніяк не праверыш, таму іх ні на што не абменьваюць... Можна было, вядома, усунуць той акваланг самому Сюлю, каб ведаў, як трэба траціць чужыя грошы, але шкада было і яго...

Таму і спазніліся да Мікалая Пятровіча, што чакалі Сюлю ды меркавалі, як быць.

А Сюля расказаў імянінніку, які прыгожы здаўся яму акваланг, толькі ён яго ўбачыў: фантастыка, а не падарунак! Усе ў магазіне цмокалі языкамі, прыглядаліся да акваланга і нават прымервалі, а ён, Сюля, і паварушыцца баяўся, бо як зараз, думаў, убачаць, што ён не абы-які разявака, а пакупнік сур'ёзнік, дык адразу ж схопяць акваланг перад самым носам. Акваланг жа быў апошні, і мадэль гэтая — найсучаснейшая, і ўвогуле ўпершыню ў жыцці бачыў ён, Сюля, каб акваланг проста так у магазіне ляжаў, гэта ж дэфіцыт, упэўніваў хлопец з шалёным бляскам у касых блакітна-зялёных вачах. Вось і не вытрымаў, пабег да касы, бо каб не ён, Сюля, дык акваланг адразу ж купілі б: адзін пакупнік, амбал, здаровы, што конь, ужо на прылавак клаўся і накрываў акваланг рукамі, а яго, Сюлю, у бок штурхаў...

Яшчэ расказваў Сюля, якая гэта неверагодная асалода: паляваць у нядзельку на возеры з падводнаю стрэльбаю ці з фотакамерай, як ёсць акваланг — сам ён даўно пра гэтакі марыў і сабе ж бы яго купіў, адно ж, бяда, грошай у яго цяпер няма, бо ўсе на матацыкл ухайдачыў і па вушы залез у даўгі. Прыгадаў

ишчэ Сюля нейкія лічбы з пашпарта акваланга, спадзяваўся ўразіць імі Мікалая Пятровіча, але позіркі таварышаў прымусілі хлопца змоўкнуць.

Усе пераступалі з нагі на нагу, не ведаючы, што рабіць: добра ж знавалі, што Мікалай Пятровіч і ў дзяцінстве нават рыбу тую дужа лавіць не любіў, а плаваць амаль не ўмеў, хіба што крыху наверсе — дзе ўжо там яму пад вадою са стрэльбаю ўправіцца! І дзе ж яны былі, тыя азёры — кіламетраў, можа, якіх за дзвесце, а то і далей. Ці хіба тая копанка, што каля горада,— дык якое ж у ёй паляванне: адзін толькі бруд і пабітае шкло, а калі і ачуецца раптам якая рыбіна, то яе, пэўна, і чэмпіён свету па падводным плаванні не разгледзіць, няхай сабе той акваланг і будзе, як кажа Сюля, найсучаснейшы. Ды і на чорта яму, нармальнаму, сталаму чалавеку, гэты акваланг?!

Адно ж Мікалай Пятровіч сказаў раптам з дзіўным спакоем, што ўсё гэта — толькі нявартая ўвагі дробязь, а галоўнае — тое, што людзі прыйшлі і людзі ўсе не абы-якія, а добрыя, сумленныя, працавітыя, хоць і лепей было б, вядома, калі б прайгравальнік. Вось ён сабе ўжо і паланез купіў — Мікалай Пятровіч неяк вінавата паказваў пласцінку, нібыта прабачэння прасіў за тое, што не ласты набыў,— але нічога, з аквалангам ён нешта прыдумае, рэч гэта адмысловая, грошы каштуе, а Сюлю ганьбіць нягожа, таму што хоць і блытанік ён, ды хлопец усё ж добры, у працы кемлівы, а калі што, дык заўсёды выручыць,— і ўсе пачалі ажываць.

Нехта нават пажартаваў, што будзе цяпер Мікола акурат спартсмен той па азёрах гойсаць, а то, можа, нават і фотаапарат, каб можна было пад вадою шчоўкаць, прыкупіць: вунь Юзік з інструментальнага летась за здымак для «Фізкультурніка» дваццацьпятку адхапіў дый пайшоў здаровы — прэмію ў нейкім там конкурсе прысудзілі, а што ён там зняў — смеху вар-

та, дый толькі: малое нейкае за футбольнымі варотамі рот разявіла, гэта ж табе не азёры, дзе во як разагнацца можна здымкі рабіць, была б адно ахвота!.. Лепей было б, якая ўжо тут гаворка, калі б прайгравальнік,— мы паланезы гэтыя мала разумеем, але ты, Мікола, у музыцы кеміш,— ды толькі што ўжо тут зробіш: нічога з Сюлі не возьмеш, апроч матацыкла, дый той, кажуць, зламаны — носіцца ж, боўдзіла, што шаленец гэкі, шыю, як не паразумнее, пэўна ўжо скруціць... Гэта вы дарма на яго, зноў пачаў бараніць Сюлю Мікалай Пятровіч...

Усім стала лягчэй ад таго, што імяніннік — малайчына, чалавек, якіх пашукаць, хоць і ведалі: не купіць ён ні пуцёўку на возера, ні, тым больш, фотаапарат ці падводную стрэльбу, і не толькі таму, што гады ўжо былі не тыя. Трэба было яму ў час адпачынку ездзіць да цешчы: там работы заўсёды хапала, а галоўнае, шкадаваў ён траціць на сябе грошы, клапаціўся пра сына.

Вось і цяпер успомніў ён пра яго і дадаў, усміхнуўшыся, што, можа, аддасць акваланг Славу: купім пасля кінакамеру — што там фотаапарат! — і будзе ўжо ён не толькі крытыкаваць, але і сам фільмы здымаць падводныя. Госці адразу ж звярнулі ўвагу на сына Мікалая Пятровіча, які прыйшоў на дзень нараджэння разам з жонкаю.

Той скончыў ужо інстытут, вярнуўся з Масквы і працаваў цяпер у гарадской газеце ў аддзеле культуры — крытыкам, казаў бацька, бо такую мае ўжо адукацыю. Мікалаю Пятровічу было неяк няёмка вымаўляць слова «працуе»: большасць з тых, хто прыйшоў да яго, дрэнна разумелі, як гэта можна зарабляць на хлеб нейкай там крытыкай — быў бы ўжо хоць спартыўным рэпарцёрам і працаваў у «Фізкультурніку»... Але гучала гэта вельмі ўжо значна — «крытык»,— і Мікалай Пятровіч не мог стрымацца, каб не пагава-

рыць пра сына. Гэта заўсёды напаўняла яго гордасцю і ўсведамленнем нейкай сваёй выключнасці: ніхто ж у брыгадзе і блізка не мог пахваліцца чымсьці падобным. Нават над Казікам, майстрам, сын якога быў хакеіст у камандзе першай лігі, адчуваў ён перавагу.

Мікалай Пятровіч, праўда, ніколі не казаў пра тое, што Слава, скончыўшы школу, збіраўся паступаць не ў інстытут кінематаграфіі, а ў літаратурны. Спачатку, даведаўшыся, дзе будзе вучыцца сын, Мікалай Пятровіч страшэнна расчараваўся і занудзіўся: яму здалося, што гэта, хоць і няпоўнае, ды ўсё ж паражэнне... Бо як жа прыемна было ведаць раней, што Слава збіраецца стаць пісьменнікам! Незвычайная задума хвалявала дзёрзкасцю і прыгажосцю. На сына ж ускладваў усе надзеі, марыў: «Калі не я — дык ён!» Але, адумаўшыся, адчуў усё ж радасць: надта нязвыклая была абраная Славам прафесія, дый інстытут, што ні кажы,— маскоўскі!.. А паступова, прыкмячаючы, як сталее сын, як шмат ведае, з якою годнасцю ўмее трымацца перад сваімі дзядзькамі, што кпілі з брата, Мікалай Пятровіч прызвычаіўся думаць, што ніякага паражэння Слава не пацярпеў: адбылася проста, як той сам растлумачыў, натуральная ў яго ўзросце пераарыентацыя...

Бацька з радасцю стаў знаёміць гасцей з сынам, пачаў расказваць, колькі той спазнаў там усялякіх навук пра кіно і замежных моў. Слава вучыўся ў спецгрупе і, як падкрэсліваў Мікалай Пятровіч, у дасканаласці авалодаў італьянскаю моваю. Не якой-небудзь там нямецкаю — італьянскаю, якую мала хто ў нас ведае, калі і па ўсёй краіне паглядзець! А ўжо англійскую вывучыў самастойна, гэта каб крытыкаваць лепш, больш у замежным кіно разбірацца. Цяпер во яшчэ за японскую ўзяўся, і ці ж не кітайская толькі і засталася адна — хобі ў яго такое вось выспела, мовы, бы якія арэшкі, лускае.

Госці здзіўлена разглядалі Славу, дзівіліся ягонай не па гадах раскошнай барадою ды надта ўжо цікавымі (як паглядзіш з іншага боку, дык і колер у іх мяняецца) акулярамі — ці не замежнымі? Ужо адзін той факт, што пасля заканчэння школы сын Мікалая Пятровіча паехаў у няблізкую Маскву вучыцца рэдкай такой спецыяльнасці, выклікаў у іх вялікую да яго пачцівасць. Ты, Мікола, казалі яны калісьці, ці не блат маеш у тым інстытуце, туды ж проста так не ўбіцца— але ж які блат мог быць у Міколы дзесьці ў Маскве?..

Цяпер яны маглі праверыць Мікалая Пятровіча, паглядзець, ці праўду тады ён казаў, як бажыўся, што няма ў яго ніякага блату, выведаць, ці сваім розумам дайшоў яго сын да такой самавітай пасады, што іншых крытыкуе, пачуць, як спазнаў гэтыя мовы: ці толькі на пальцах здольны што растлумачыць, ці напраўду можа пагаманіць троху, а то нават і кніжкі замежныя чытае.

— А што, скажыце, калі ласка, крытыкуеце? З якой, так сказаць, пазіцыі? — спытаўся ўжо за сталом адзін з гасцей.

Слава адказаў, не шкадуючы слоў. Ён расказваў штосьці пра дабрыню, пра любоў да бацькоў, пра тое, што дзеці павінны быць іх сапраўднымі, вартымі жыцця, якое тыя ім далі, спадкаемцамі, пра складаную і супярэчную сутнасць чалавека, якога так важна своечасова засцерагчы ад душэўнае чэрствасці, каб не прыйшлося пасля ствараць «Чырвоную кнігу забытых пачуццяў», пра вяртанне да вытокаў...

Праўда, атрымаўшы ў Маскве сапраўды някепскую адукацыю, ён амаль нічога не ведаў пра гісторыю бацькаўшчыны, яе культуру і не імкнуўся пакуль надта імі цікавіцца. Тут ён быў яшчэ невук. Але ў астатнім падрыхтаваны быў для свайго ўзросту няблага.

Усе адразу ж зразумелі, што галава ў гэтага Славы не пустая, язык падвешаны добра, тут яго правя-

рацъ болей не трэба, а людзей, што ўмеюць гаварыць прыгожа і без паперкі, яны паважалі, яшчэ больш прыйшоўся ён даспадобы таму, што абыходзіўся без незнаёмых ім мудрагелістых слоў і не пускаў пыл у вочы.

Мікалай Пятровіч зусім забыўся пра акваланг і стаў прасіць сына, каб той сказаў што-небудзь па-італьянску. Слава спачатку адмаўляўся, але ўрэшце расказаў санет Петраркі. У бацькі закалацілася сэрца.

Яго сын, сын *Міколы*, гаворыць *па-італьянску*!

«Ці ж чуеш ты, Казік? — паглядаў ён на майстра, які з недаверам узіраўся ў Славу.— Адно ж і ты майго сына ад італьянца ніяк не адрозніш, хоць твой і хакеіст!» Думаў ён так не ад злое памяці — гэта крычала ў ім крыўда за тое, што менавіта Казік асабліва не верыў яму калісьці...

Урэшце, пасля маналога Гамлета па-англійску, бацька ўгаварыў сына намаляваць іерогліфы і прачытаць іх — гэта было ўжо за мяжою ўсякіх уяўных магчымасцей! Усе смяяліся, круцілі галовамі, перадаючы з рук у рукі сурвэтку з дзіўнымі значкамі, зноў недаверліва паглядалі на Славу.

«І як ты, Мікола, просты чалавек, вывучыў так свайго хлопца?» — пыталіся ў бацькі вочы гасцей, і яму ўжо не трэба было больш нічога: дзеля гэтага аднаго можна было спраўляць дзень нараджэння!

За сталом адразу ж стала шмат цяплей, усе беспярэпынна гаварылі, смяяліся, а галоўнае, упершыню ў жыцці глядзелі на Мікалая Пятровіча іншымі вачыма — цудоўны ладзіўся юбілей!

— Добрыя ў цябе памідоры, Мікола! — казалі яму госці.— І жонка ў цябе, бач, як памідоры гатуе! Дый пагляднная якая!

Мікалай Пятровіч усхвалявана ўсміхаўся.

— А ўспомні, Мікола, як ты гуляў у футбол!

Мікалай Пятровіч не любіў, калі гаворка ішла пра яго, і ў адказ выціраў сарамліва вусны.

— Ды хіба ж ты, Мікола, не помніш, як абводзіў усіх па краі?.. А ўдар жа, удар быў які: з левай, што з правай — смяротны!.. Я ж ведаю: разам гулялі...

— Дрэнна ты сам помніш, бэк заваротны,— папраўляў другі.— Колькі ж ты там гуляў, больш мячы падаваў... Мікола хоць і па левым краі быў, але ўсё ж інсайдам, бліжэй да цэнтра такіх, як ты, між ног правяраў...

— Во як, сынкі, лепшым у горадзе быў наш Мікола з усіх левых інсайдаў, ажно ў «Дынама» яго бралі!..

— Мікола, паслухай, Мікола, а помніш, як мы гулялі з трактарным, удзесяцёх, калі Сеньку падкавалі і нельга было болей мяняць?.. Ты тады яшчэ два галы загнаў, адзін у адзін, пад самую бэльку...

І тут раптам усе ўспомнілі пра Сеньку, і Мікалай Пятровіч замаркоціўся, прыгадаўшы той змрочны дзень...

...Дождж ліў не перастаючы, і ўсе прыціскаліся да сцяны, хаваліся пад балконамі, а калі ён заціх, з пад'езда вынеслі труну, і панурлівая працэсія пацягнулася ад дома, з якога яшчэ тры дні назад выходзіў на працу Сенька, да недалёкіх адтуль могілак. Было холадна, быў вецер, і музыканты нібыта падыгрывалі яму. Неяк у баку ад усіх плёўся таўстун з барвовым тварам — паволі, быццам у сне ўздымаючы калатушку, глуха біў ёю ў намоклы барабан, які, здавалася, вось-вось лопне, не вытрываўшы гэткіх кухталёў. Самы апошні цягнуўся маленькі ссінелы ад холаду чалавечак з чорнаю павязкаю на правым воку і талеркамі ў руках — б'ючы імі адна аб адну, ён нават хістаўся, такі быў нядужы. Калі амаль ужо дайшлі да могілак, дарогу перабег

хлопчык з сабачкам — кінулася ў вочы, што ў сабачкі быў абсечаны хвост,— а каля самых варотаў сустрэлася іншая працэсія, такая ж змоклая, але маленькая і без аркестра...

На могілках у аднавокага пачаўся кашаль, і ён ледзь падымаў ужо свае талеркі. Чамусьці доўга не маглі знайсці месца пахавання, і начальнік цэха, які раней пра тое месца дамаўляўся, спрачаўся [redacted] камлюкаватым чалавекам у скураным паліто і [redacted] фурункулам на шчацэ. Распачаўся дождж, дзьмуў пранізлівы вецер, і пра што яны гаварылі, не было чуваць. А Сенька, любімы ўсімі жартаўнік, цяпер ужо, бадай што, упершыню ў жыцці таварышаў, Усевалад Іванавіч, ляжаў у труне, і твар у яго быў спакойны, зноў жа ўпершыню на іх памяці,— але ўсё роўна застыла на ім разам з нязвыклаю ціхасцю і здзіўленне...

Далакопы ўжо дрэнна трымаліся на нагах, і адзін ледзь не ўпаў у яму... Пясок быў рыжы, зусім як валасы ў Сенькі, а гліна чырвоная і цяжкая. Калі паляцелі апошнія камякі, у начальніка зляцеў з галавы капялюш. Начальнік ступіў быў за ім крок, але вецер панёс капялюш па зямлі... Начальнік махнуў рукою і вярнуўся да труны, а нехта з родных нябожчыка пабег за капелюшом, пераскокваючы праз магілы... Аднекуль зноў выбег сабачка, ужо без хлопчыка. І хоць і тырчаў у яго замест хваста нейкі ўцінак, ён усё роўна спрабаваў ім віляць. Таўстун праціраў насоўкаю вочы — сіберны быў вецер, а аднавокі кашляў і курыў «Беламор»...

У некага выпаў з рукі відэлец, і Мікалай Пятровіч уздрыгнуў.

— Нічога, нічога,— прашаптаў ён амаль бязгучна і, не зразумеўшы нават, пра што ідзе гаворка, задумаўся зноў...

...Сенька памёр каля станка, не дапрацаваўшы да пенсіі два месяцы,— дактары казалі, што праз асколак, які насіў у сабе з вайны... І вось і самому працаваць робіцца ўсё цяжэй... Балела спіна (мучыў застарэлы радыкуліт), а пад раніцу штоноч даймаў кашаль — жонка прачыналася і кляла яго як магла, але кінуць курыць не ўдавалася... Не прыгадвалася нешта, каб Сенька хоць калі-небудзь хварэў, а вось у яго дык наадварот: тры бюлетэні ў гэтым годзе... І хлопцы быццам абавязаны працаваць за некага, цягнуць за яго на прэмію...

А помнік у Сенькі ўсё ж такі быў неблагі — вялікі і нібыта мармуровы... Толькі вось фатаграфіі добрае не знайшлося: усё жыццё ўсміхаўся, а на помніку сумны і на сябе непадобны...

— Паслухай, Мікола,— перапынілі тут яго думкі госці, успомніўшы пра гаспадара,— а гуркі ў цябе, бадай што, лепшыя за памідоры...

Ён разгублена ўсміхнуўся, пацiснуў плячыма, і тут раптам Руль, малады хлопец, дастаў з кішэні свярдзёлак і, хітра падміргнуўшы Сюлю, ціха загаварыў.

Кожны за сталом быў заняты — ці закускаю, ці гамонкаю, у вясёлым шуме цяжка было разабраць, што казаў сусед, і ніхто не прыкмеціў ні гэтага свярдзёлка, ні раптоўнае перамены, што здарылася з Мікалаем Пятровічам.

— Такому свярдзёлку і цаны няма, лічы, не горшы за алмазны,— любоўна пагладжваў Руль свярдзёлак, і Мікалай Пятровіч ужо толькі целам быў за сталом: прыгадалася, як, паддаўшыся братавым угаворам, ён таксама вынес з цэха свярдзёлак, і бачылася цяпер у пакутлівым кашмары таго праклятага дня шэрая заводская прахадная...

«...Ці ж не ты гэта на Дошцы гонару, га?» — апёк яго спакойным пытаннем ахоўнік.

Ніжні гузік на шынялі абарваны, з рота смярдзіць, на двайным падбародку рэдкае рыжае шчацінне, вочы чорныя, уедлівыя... Гнюсны тып, ніхто яго не любіў: агідны быў і заўсёднай неахайнасцю, і вечным падазрэннем у тупым позірку.

«Я», — адказаў ён, аблізваючы перасохлыя вусны, і нібыта да зямлі прыварыла падэшвы чаравікаў. Яму здавалася, што маленечкі свярдзёлак выпірае з кішэні бруском, хоць на самай справе яго зусім не было відаць. У горле засеў камяк, не даваў дыхаць...

Чаму ён раней не прыкмячаў ніколі, што на прахадной так шэра?.. З плаката на сцяне на яго глядзеў, вгняўліва звузіўшы вочы, чалавек у камбінезоне з вялізнай гладкай чупрынай і правільным перакананым тварам, які можа быць адно на такіх выявах...

Людзі збоку з цікаўнасцю спыняліся, тыя, што былі ззаду, незадаволена шумелі... Ахоўнік даў ім знак перайсці на праверку да яго суседа.

«Дык што там у цябе? — спытаўся ахоўнік і шмыгнуў носам.— Паказвай кішэні».

Чалавек на плакаце працінаў яго пальцам: «Злодзей... злодзей... злодзей...»

Да Мікалая Пятровіча цягнуўся тлусты палец Руля.

— Ты што скіс, Пятровіч? — прагугнявіў Руль.— Ты ж у нас сёння юбіляр!

Мікалай Пятровіч машынальна ўзяў на відэлец кавалачак катлеты, але Руль ужо забыўся на яго, як і ўсе астатнія, нават сын, што затрывожыўся быў, гледзячы на змрочнага бацьку, а цяпер расказваў нешта Сюлю па-англійску, і Мікалай Пятровіч зноў стаў патанаць у бездані неадчэпных успамінаў — нясцёрты часам боль аглушаў гэтаксама ж як і гады назад...

«...Ды не нудзіся, Пятровіч! — казаў яму, даганяючы, Руль.— Вунь на вагонарамонтным цягнік выкацілі дый грузінам прадалі, а тут ты са сваім свярдзёлкам — плюнуць, ды толькі!.. Вядомая справа: закон подласці. Вочы ў цябе ненармальныя — вось ты сябе і выдаў. Я, калі не выношу нічога, дык тады яны ў мяне неспакойныя. Не нудзіся... Людзі ж не дурні, бачаць, хто аўтамабілі па частках выносіць, а хто раз у жыцці свярдзёлак прыхапіў...»

Але ўсё, што казаў яму на хаду Руль, ён чуў нібыта скрозь сон, а перад вачыма праходзілі твары ўсіх тых, каго сустрэў сёння, і ў кожным з іх, які б спагадлівы ці абыякавы твар той ні быў, бачылася ўсё адно і тое ж: «Злодзей! А яшчэ ціхоняй прыкідваўся! Відаць, даўно, хітруга, выносіў, толькі не пападаўся — во як людзі ўмеюць!..»

«Не забівай, Пятровіч, дурным галаву, хадзем лепш піўца вып'ем! — даносіўся аднекуль ззаду голас Руля.— Ну чаго ты бяжыш, куды?.. На той свет справядлівасці шукаць?.. Ну, шабутны, ну, артыст!.. Давай завернем, Мікола, чуеш?..»

Сталы былі залітыя півам, каля рыбінай лускі, што мокла ў смярдзючай жыжцы, круціліся пацяжэлыя мухі. Пад суседнім столікам разлівалі гарэлку, рука ў наколках дрыжэла.

«Мікола, паслухай, Мікола!..» — гугнявіў нешта Руль, але перад вачыма, выплываючы з рыбінага вока, паўставаў тлусты братаў твар...

«...Ды ты Мікалай, ненармальны нейкі, проста хворы,— казаў яму брат.— У вас што там, мачу з зямлёю мяшаюць, у гаспадарку нічога дзельнага не знойдзецца?.. Ну куды ты з гэтым сваім сумленнем лезеш? Ты схавай яго лепш — як мага далей. Цяпер так не пражывеш: зжаруць. Не ты, дык іншы сапрэ: дурняў мала, кожны хоча кавалак схапіць... Што ты сумленнем гэтым сабе зарабіў?.. Во-во, кватэрку ў сорак гадочкаў.

А табе, калі хочаш ведаць, гэты свярдзёлак можна ў адкрытую ўзяць і парадным крокам перад дырэктарам прайсціся! За дваццаць гадкоў, што на заводзе ад'ішачыў, сто такіх свярдзёлкаў заслужыў. Тут, брат, павер, граху няма, па справядлівасці ўсё: тое бярэш, што не дадалі. А мне гэты свярдзёлак, ведаў бы, як да зарэзу патрэбны... Гэта ж табе што плюнуць: паклаў у кішэню дый пайшоў сабе спакойна, насвіствай адно ад пчасця... Хто захоча, не ўбачыць. Ну, як?.. Ды што ■ цябе ўзяць: Алёша з піўзавода... Паслухай во, што Васёк табе скажа».

Брат спыніў каля стала свайго рабога сына, які акурат яшчэ праходзіў пад стол.

«Вася, ты кім будзеш?» — спытаўся брат.

«Нацальнікам»,— жвава адказаў малы.

«Ну, а пажарнікам, лётчыкам?»

«У-у,— упэўнена крутнуў галавою Васёк.— Нацальнікам».

«Ну, а чаму ж так? Хіба лётчыкам дрэнна? Самалёт дадуць, лётаць будзеш куды захочаш».

«Нацальнікам зыць добра, і галава ні за сто не баліць...»

«Вось гэта арол будзе: зразумеў жыццё,— брат задаволена ўсміхаўся і кудлаціў віхор на макаўцы ў сына.— Будзе ў цёплым фатэлі каньячок папіваць і такімі, як ты, абалдуямі камандаваць. Палец у рот не кладзі: у бацьку ўдаўся — адкусіць. Вось так, Мікалай... Ну дык што, прынясеш мне свярдзёлак?..»

Руль узнімаў кухаль. Рука ў наколках крышыла хлеб.

«Хопіць табе ўжо, Мікола, з кім не бывае? Вось і мяне ўсе Рулём завуць, а то і проста,— смяяўся Руль,— толькі «С» дадаюць — ну і што?..»

Мікалай Пятровіч узняў на Руля вочы.

«Пайду я, мусіць, а то жонка зачакалася...»

— Залiваеш, Руль! — зарагаталi ўсе за сталом — i Мiкалай Пятровiч схамянуўся. Пачуўшы, як манiць, не саромеючыся, Руль, ён таксама засмяяўся: да таго непадобным хоць на якую праўду было тое, што ён расказваў. Усе зноў прыкмецiлi юбiляра i тост прапанавалi за яго. Гарэлка цёпла разлiлася ў iм, разарвала павуцiну ўспамiнаў, з якой ён не ведаў ужо быў, як выбрацца, перасталi мроiцца i тлусты братаў твар, i змрочная шэрасць заводскай прахадной...

Ён азiраўся, бачыў, як малюе сын iерогліфы, i шчаслiва ўсмiхаўся...

I Славу таксама стала цяплей у гэтай нязвычнай яму кампанii рабочых людзей, якiх ён, сын рабочага чалавека, нiколi так блiзка не бачыў. Спачатку яму было сярод iх няёмка. Яму падабалася, што госцi паважаюць яго, а галоўнае, бацьку, якога ён пачынаў любiць пасля доўгай адчужанасцi.

У маленстве ён быў нашмат блiжэйшы да адкрытай i ласкавай мацi: надта ўжо суровым, далёкiм здаваўся яму стрыманы ў пачуццях, замкнёны, заўсёды маўклiвы бацька. Потым, калi стаў падлеткам, усё ўжо iшло па звычцы. А калi паступiў у iнстытут, то стала яшчэ перашкаджаць збліжэнню ягоная адарванасць ад дома: сустрэчы iх былi рэдкiя i небагатыя на скупыя размовы, якiя нiколi не давалiся лёгка i часцей за ўсё былi проста фармальныя. I толькi калi ён завёў сваю сям'ю (а ў яго ўжо i дачка была), шмат на што паглядзеў iншымi вачыма, толькi тады ён пачаў патроху ўзiрацца ў бацьку, стаў прыкмячаць у iм нешта глыбiннае, цi, дакладней, толькi тое з прыхаванага, што ляжала ў ягонай душы блiжэй да паверхнi,— дый так, нямногае i збольшага пакуль яшчэ... Бачыць як след бацькаву сутнасць, разумець яго жыццё не давалi ранейшыя бар'еры. Да таго ж, новае пачуццё несла яшчэ на сабе прыкметны налёт штучнасцi: была i мана, таму што iшло яно не толькi ад сэрца i разумення жыцця, але i

ад цьмяных філасофскіх пабудоў, якія ён пачынаў ствараць, як яму здавалася, ужо на ўсё сваё далейшае ў гэтым свеце існаванне... Ён не толькі захацеў разумець бацьку, ён яшчэ і *надумаў любіць* яго — нібыта можна любіць некага надумаўшыся...

«У дзяцінстве мы часцей больш хінемся да маткі, але праходзіць час — і нам усё бліжэйшы робіцца бацька. Дзіўна, здавалася б, на першы погляд: мы ж яшчэ больш аддаляемся ад яго, заводзячы сям'ю, а любім куды мацней, чым раней, калі жылі разам з ім. Але нічога дзіўнага ў тым няма: *вось якраз у гэтым аддаленні і тоіцца прычына зблІжэння*»,— думаў цяпер за сталом сын Мікалая Пятровіча, і яму рабілася неверагодна цёпла ад салодкага юнацкага захаплення, якое агортвала яго пры думцы аб тым, што ён канчаткова пасталеў і пачынае разумець бацьку, бо сам стаў бацькам, сам стаў мужчынам — а ў тым, што ён ім стаў, сумненняў у яго яшчэ не было.

Гледзячы на вясёлае застолле, Слава ўспомніў пра тое, як надоўга засумаваў раптам бацька колькі гадоў назад... Сын не ведаў, што роспач тая звязана была са свярдзёлкам, які Мікалай Пятровіч выносіў з завода, і так і не распытаў бацьку, чаму ж ён такі маркотны...

У той год Мікалай Пятровіч стаў браць калі-нікалі таннае віно, чаго ніколі раней не рабіў... Вып'е шклянку, сядзе каля акна і ўтаропіцца вачыма ў вуліцу — што ён там бачыў?.. Пасля дастане з шафы свой стары акардэон і пераварочвае сваёй тужлівай музыкай душу — і сабе, і іншым. Дагэтуль ён мала ўжо граў на ім, усё радзей і радзей браў яго ў рукі, а то стаў здымаць інструмент з шафы штодня. Іграў ён, неяк пасвойму, прыцісНуўшыся падбародкам да грудзей — такой звычкі Слава не ведаў ні за кім іншым,— і, здавалася, утрая больш сумны рабіўся тады бацька, нібыта злучаў сэрца з галавою, а тыя — з акардэонам, быццам і не было тады ўжо яго ў доме, а патанаў ён увесь у

музыцы... Іграў ён заўсёды ці не адно і тое ж: полькі, вальсы і паланез Агінскага «Развітанне з радзімаю». Толькі і ў самай вясёлай польцы была ў яго адно што журба, таму што і акардэон даўно ўжо не верыў ягонай весялосці, дый не ў музыцы быў ён зусім, а ў сваім жыцці, пра якое спавядаўся клавіятуры...

Але прыйшлі цяпер гэтыя добрыя людзі, і Слава ўбачыў бацьку вясёлым — ці не ўпершыню ў жыцці. Шчаслівы і ўдзячны, сын захацеў сказаць гасцям штонебудзь цёплае і папрасіў слова.

Ён глядзеў на ўсіх затуманенымі, замілаванымі вачыма і гаварыў пра тое, што вось яны — простыя людзі, а ён убачыў, што і ў іх, пэўна, былі калісьці свае здольнасці, а можа, нават і таленты... Ён разгледзеў між іх і артыста, і клоуна, і штангіста, і спачувальна паскардзіўся на недарэчнасць і сумную несправядлівасць лёсу... Вось і бацька не змог стаць музыкантам з ягоным абсалютным слыхам — вайна рассудзіла пасвойму, і ў «Дынама» яго бралі, ды толькі зламаў ён нагу, як апошні раз прыйшоў паглядзець на яго трэнер... Гаварыў Слава з журботнаю асалодаю, нічога вакол сябе не прыкмячаючы, і думаў, што ён разумны і добры, бо збуджае ў гасцях казытлівы ўспамін аб колішніх марах...

Адны ўважліва слухалі яго, іншыя чакалі, калі ён скончыць, каб падняць яшчэ адзін тост — за артыстаў, штангістаў і клоунаў, што сядзяць, аказваецца, паміж іх, нехта пакрэктваў (бач, як прыкмеціў, дзіва што — кінакрытык!), а хто, апусціўшы галаву, засумаваў, асабліва бацька, які спачатку слухаў сына...

Невядома, колькі б яшчэ гаварыў так Слава, калі б не хлопец [redacted] сумным разумным тварам і танклявымі доўгімі пальцамі, прызнаны піяністам. Нехта сказаў, што Косцік — так звалі хлопца — і на самай справе вучыўся калісь у музычнай школе, а цяпер іграе на электраарганае ў заводскім вакальна-інструментальным

ансамблі. Косцік насмешліва глядзеў Славу ў самыя вочы, і ўсмешка ў яго была самотная, з горыччу. Слава раптам адчуў, што гаворыць ён нешта зусім недарэчнае і што даўно ўжо лепш было б змоўкнуць. Жонка стала штурхаць Славу ў бок, але скончыць проста так было нельга: ён хацеў паставіць нейкую ўдалую кропку, нешта змяніць — і яго ўсё несла і несла далей, немагчыма было спыніцца... Ён злавіў бацькаў позірк і ўбачыў у ім боль і сорам за сына...

Выратавала жонка. Яна сказала штосьці вясёлае, дасціпна павярнуўшы мужаву думку,— усе засмяяліся,— і адразу прапанавала тост. Слава таксама падняў чарку і цяпер закусваў, але толькі дзеля прыліку, бо ў горла нічога не лезла.

«Дурань, дурань, дурань,— стаяла ў яго ў галаве,— сляпы... Як ты мог быць такім жорсткім?..»

Ад сораму хацелася скрозь зямлю праваліцца, толькі б не бачыць людзей, што сядзелі побач [illegible] ім за сталом.

Нарэшце нявестка Мікалая Пятровіча прапанавала патанцаваць, і хоць свабодны пакой быў і не надта вялікі, дый жанчын было толькі дзве (бацькава і сынава жонкі), але ўсе ахвотна падняліся з-за стала. Мікалай Пятровіч дастаў з шафы акардэон. Іграў ён адны толькі полькі. Часам гучалі яны, як і мусіла быць, весела, нібыта і не ў яго, а ў некага іншага, зусім нікому тут не знаёмага, быў цяпер у руках інструмент,— адно ж рабіліся раптам гэтыя полькі сумныя. Хто хацеў — танцаваў, іншыя курылі на калідоры ці лесвічнай пляцоўцы.

Слава таксама выйшаў у калідор. Так атрымалася, што апынуўся ён якраз каля Косціка.

— Курыш? — спытаўся Косцік, прапануючы цыгарэту.

Слава фактычна не курыў, толькі зрэдку закурваў у кампаніі, пускаючы дым для выгляду,— навошта, і

растлумачыць не змог бы. А ўжо такіх крэпкіх цыгарэт, як «Прыма», што працягнуў яму Косцік, ён і ўвогуле ў рот ніколі не браў. Але адмаўляцца не стаў: здалося раптам, што з'явілася неблагая магчымасць загладзіць памылку.

— Пакурваю,— адказаў ён і стаў размінаць цыгарэту.

— А ты як — працай сваёй задаволены? — нечакана спытаў Косцік.

— Ды як табе сказаць? — прыглядаючыся да яго, пачаў Слава.— Чаго чакаў — не прычакаўся. Ведаеш, ілюзіі пачынаюць знікаць ужо на апошніх курсах, а пасля года работы нічога не застаецца — адно разуменне суровай рэальнасці,— выразна махнуў ён рукою.

— Што ж так? — з цікавасцю спытаўся Косцік.

Слава раптам адчуў, што гэты сумны насмешнік усё ж прасцейшы за яго, як бы балюча-глыбока ні заглядваў у вочы. І тут у сыне Мікалая Пятровіча прачнуўся той дробненькі чалавечак, што ўжо не раз пераважаў чамусьці яго самога (часцей на падпітку, але не толькі тады) і вымушаў пры сустрэчы з людзьмі не свайго кола некага з сябе разыгрываць, каб толькі здацца бліжэйшым, прасцейшым, нават у тых выпадках, калі людзі гэтыя былі настолькі ад яго далёкія, што ніякай і ўяўнай блізкасці паміж імі і быць не магло: па адной хадзілі зямлі, але жылі ў процілеглых сусветах зусім па-рознаму ўладкаваных душ...

— Ды што ж добрага? Сказаць, якая ў мяне зарплата?.. Толькі паміж намі, добра?.. Не хачу, каб ведаў хто з вашых: слязьмі б ад смеху заліўся, дазнаўшыся, колькі трэба моў вывучыць, каб сто пятнаццаць рэ зарабляць...

— Не думаю. Па-мойму, ёсць рэчы больш важныя, чым грошы. І казаў нам твой бацька, колькі ты зарабляеш — лічы, ніхто не смяяўся... Ведаеш,— кіўнуў Кос-

цік у бок таварышаў,— гэтыя людзі паважаюць адукацыю, калі толькі гэта не ліпа: тады за ёю і розум, і веды... І вераць у перспектыву... што веды гэтыя спатрэбяцца — і будзе за іх нарэшце нейкая плата... Былі б яны сапраўдныя і неабходныя людзям, а не якое-небудзь там ляскатанне, вада... Дыпламаваных дурняў, канечне, хапае... Але ж ёсць у цябе нейкая перспектыва?

Удар быў дакладны, толькі адступаць ужо ніяк не выходзіла, трэба было працягваць тое, што пачаў пераконваць хлопца неабвержнымі аргументамі. Сабраўшыся з думкамі, Слава перайшоў у наступ:

— Перспектыва, кажаш? — Спагадліва ўсміхаючыся, ён нават вытрымаў па-акцёрску паўзу.— Перспектыва адна: пакуль дысертацыю не напішаш — круціся, як той уюн на патэльні.

— Дык ты пішы,— спакойна сказаў Косцік.— І круціся, раз трэба.

— Думаеш, лёгка?

— Лёгка ў носе калупацца, дый тое — палец можна зламаць,— усё роўна як сцебануў яго іранічнай гэтай заўвагаю Косцік.

Але ўсё ж такі адступаць было нельга.

— Гэта ты так, браце, кажаш, не ведаючы, [illegible] пасядзеў бы сам! Свету божага не ўбачыш.

Прамільгнула ў напышлівым «браце» паблажліва-пераможнае пачуццё разумення ісцін, не многім адкрытых.

— Нашто ж тады ў інстытут пайшоў, калі свет божы так любы? Ішоў бы тады на завод, а вечарам цешыўся б гэтым светам, колькі душы захочацца.— Хлопец нібы праколваў яго сваімі пытаннямі, і Слава канчаткова зразумеў, што суразмоўцу напаткаў не з лёгкіх.

— Ды так, у школе добра вучыўся, вось маці і слухаць пра што іншае не хацела: інстытут ды інстытут...

Сама ж не разбіралася... А пайшоў бы на завод — зарабляў бы цяпер спакойна ўсе дзвесце і ў вус бы не дзьмуў...

— А ты ведаеш, як дастаюцца яны на заводзе, гэтыя дзвесце?

— Уяўляю, не за прыгожыя вочы даюць,— нібы адсек Слава, хоць, папраўдзе, і не ўяўляў.— Затое ў вас перспектыва — адна, ясная: ад разраду да разраду, ад тарыфу да тарыфу...

Слава маніў.

Ён заўсёды, колькі помніў сябе, прагнуў вучыцца: не было для яго ніколі нічога больш цікавага, чым набываць новыя веды... Што ж да перспектывы, дык ён яшчэ ў інстытуце пачаў разумець, што памыліўся ў выбары прафесіі, а пасля года працы ў газеце пераканаўся ў тым канчаткова і цяпер напружана думаў: што ж рабіць?.. Зноў мільгалі калі-нікалі думкі пра літаратуру. Але ўрэшце зацікавіўся гісторыяй філасофіі і стаў рыхтавацца да экзаменаў у аспірантуру. Здзіўляючы жонку, праседжваў над кнігамі ночы. Ён без сумненняў згадзіўся б займацца любімаю справаю і атрымліваць за тое сто рублёў у месяц праз усё жыццё, чым быць на якім-небудзь іншым месцы і зарабляць у колькі разоў больш з самага пачатку, бо ўжо адчуваў перакanana, што не зможа быць шчаслівы без такой справы — ведаць толькі б, што за яна! Зрэшты, ён і цяпер ужо быў шчаслівы: бо шукаў і думаў, апантана, са смакам паглыбляўся ў навуку...

Але штосьці ў ім падштурхоўвала яго і вымушала хлусіць — як здавалася, дзеля таго, каб гэты Косцік адчуў сябе роўным яму і мог даравацць тую памылку...

А Косцік слухаў Славу і пачынаў верыць, што, пэўна, і праўда, без блату ў гэтага крытыка не абышлося, што лепш бы стаяў ён каля станка: можа, чаму б навучылі, бо іерогліфы іерогліфамі і італьянская

мова, вядома, прыгожая, але ж у кінакрытыцы з такімі поглядамі наўрад ці пацягнеш...

Ён глядзеў на Славу з раптоўным для сябе самога пачуццём перавагі і ўжо слухаў не так уважліва, як спачатку, азіраўся на тых, што гаманілі побач,— але нічога гэтага не бачыў ужо сын Мікалая Пятровіча, бо, хоць у яго скаламучанай свядомасці і жыў цяпер сорам, было ўсё ж цяплей ад непатрэбнай, падманлівай роўнасці, якую ён, як здалося яму, змог усталяваць.

— А я вось, ведаеш, усё б аддаў, толькі б музыкантам стаць,— усміхнуўся сумна Косцік, калі Слава скончыў.— Малы быў, так марыў!.. Ты і ўявіць сабе не можаш, як... Не ў грошах, хлопец, галоўнае — гэта я табе дакладна скажу. Можаш мне паверыць, я то ўжо іх зарабляю... Важней, каб душы дыхалася...

— А тваёй як — дыхаецца? — спытаўся Слава, з нудою думаючы: не трэба было прыкідвацца прасцячком...

— Не жалюся. Музыкантам не стаў, але і жыццё не спаліў, як многія. І на заводзе нармальна. Мару сваю забыць ніяк не магу... У сне, бывае, на піяніна граю — і так прыгожа выходзіць... Прачынаюся — плакаць хочацца... Але гэта так, зрэдку находзіць... Сыны вось цяпер у мяне абодва ў музычную школу ходзяць — можа, з іх што выйдзе.

Косцік патушыў цыгарэту, і твар у яго стаў спакойны.

— Так што дарма ты, крытык, на маці скардзішся. У цябе свая галава была... Семнаццаць гадоў, мусіць, было ж?.. Я ў пятнаццаць ужо на завод пайшоў: бацька нас кінуў, трэба было маці памагаць... Ну добра, пайду я. Пагляджу, як там дзяды весяляцца.— Ён крануўся быў з месца, пасля спыніўся і зірнуў яшчэ раз на Славу.— Ты прабач... але ж ты пакуль... толькі сын Мікалая Пятровіча... Разумееш?.. І да бацькі табе яшчэ дарастаць, дарма што барада вялікая...

Слава роспачна глядзеў услед Косціку, як раптам адчуў на сабе чыйсьці позірк.

Павярнуўшыся, ён убачыў бацьку: той стаяў да яго бокам, але па чымсьці амаль няўлоўным у бацькавай постаці сын здагадаўся, што той нядаўна, якое імгненне назад, узіраўся менавіта ў яго...

Бацька быў нейкі маленькі, згорблены, нібы змяк у адзін гэты вечар...

«...А да бацькі табе яшчэ дарастаць... Толькі сын... толькі сын Мікалая Пятровіча... У цябе свая галава была... свая галава»,— стукалі ў скронях Косцікавы словы...

І бацька чуў гэта, працінала Славу здагадка, а можа, нават чуў і ўсю іх гамонку!..

Узвыць заставалася, дый толькі: не пачнеш ужо нанова ні іх гаворку, ні ўвесь гэты вечар...

«І ці ж вечар толькі?» — падумаў ён раптам. Прыйшло жаданне забіць сябе, знішчыць, спапяліць, як нешта недарэчнае, агіднае, што ні пры якіх умовах не мае права на існаванне: усё жыццё здалося дашчэнту нікчэмным, безнадзейна сапсаваным — не выратуеш ужо нічога, колькі ні пніся, усё будзе марна...

Жахліваю здалася яму адлегласць, што аддзяляла яго ад бацькі.

Што знаў ён пра бацьку, пра яго жыццё *там*, на заводзе, у канцэнтрацыйным лагеры, да вайны, пасля вайны, пра тое, што было яго памяццю?..

Не, ён зусім не быў знаёмы з бацькам — толькі цьмяна ведаў нялёгкага, дзіўнага чалавека, што даў яму калісь жыццё (што гэта за час быў тады, дарэчы, які час?), з якім ён раз-пораз, наязджаючы з Масквы ці забягаючы дамоў па дарозе з рэдакцыі, перакідваўся двума-трыма словамі пра футбол, забеспячэнне прадуктамі ў сталіцы, пра здароўе дачкі (пра бацькава ж, здаецца, і не пытаўся ніколі, як і пра матчына), пра

свае рэдкія, для самога сябе нічога не вартыя публікацыі: «У гэты тыдзень на экранах горада...»

Да каго прыйдзе ў гэтым жыцці шчасце, а міма каго пройдзе, не абдаўшы нават і сваім подыхам, і што такое ўвогуле гэтае шчасце,— балюча працялі душу пытанні...

Слава падаўся быў уперад, хацеў гукнуць Косціка — той стаяў яшчэ перад дзвярыма,— каб прызнацца яму ва ўсім, здолець пераканаць яго, што ён, сын Мікалая Пятровіча, на нешта яшчэ варты, але штосьці ўсё ж утрымала яго на месцы.

Ён зноў азірнуўся і сустрэў бясконца сумныя бацькавы вочы...

...Госці пайшлі ўжо, астыла ад шуму кватэра, а Мікалаю Пятровічу ўсё чулася, як смяюцца з яго...

«Ды што там, даўно час разыходзіцца, а то заседзеліся... Дзякуй табе, Мікола, выдатны ты справіў нам юбілей... І сын у цябе іерогліфы малюе, па-італьянску вунь як шпарыць, усё роўна што Росі які ці Альтабелі [1]... На пасадзе ж кінакрытыка сядзіць, не кожны туды ўзаб'ецца»,— казалі яму на развітанне, але нічога гэтага не помніў ужо Мікалай Пятровіч...

Закусіўшы ад болю вусны, ён заплюшчваў вочы і бачыў і бачыў зноў, як тыкаюць у яго пальцамі, як расплываюцца вакол яго ўсмешкі — гэтаксама як і ў тыя дні, калі злавілі яго на прахадной са свярдзёлкам: «Злодзей, злодзей, а яшчэ ціхонем прыкідваўся... Ну і сын у цябе, Мікола,— нікуды не варты, дарма што па-італьянску лапоча...»

І ўсё мроіўся і мроіўся яму сын...

Не той, у якога ўкладваў такія надзеі, пра якога расказваў з такой гордасцю і бацькоўскай любоўю,—

[1] Вядомыя італьянскія футбалісты.

а той, што так спрытна ўсё прыкмячаў, так спачуваў і стараўся здацца «сваім», так не меў свае годнасці і так не разумеў яго, бацьку...

«Што ж гэта такое здарылася? — пытаў Мікалай Пятровіч сябе разгублена і не знаходзіў адказу.— Быў сын... і марыў некалі стаць пісьменнікам... Масква... іерогліфы... кінакрытыка... І я... як бацька... што быў для яго я?.. Што ж гэта такое?.. Няўжо ўсё дарэмна?..»

Ён паволі прайшоў у кут пакоя, да таго стала, на якім стаяла паліца для пласцінак, і спыніў позірк на акваланзе...

Луг быў балоцісты, усеяны купінамі, і калі дождж пераставаў ісці, яны прыдумвалі гульню.

Трэба было бегчы і пераскокваць з купіны на купіну — хто хутчэй. Спачатку скачкі былі разлічаныя: купіна — раз, купіна — два, пасля купіны пачыналі мільгацець у вачах, страшна было, што ўпадзеш у залітую вадою высокую траву і выбудзеш з гульні, але неўзабаве, варта толькі было пераадолець сябе, рухі рабіліся аўтаматычныя. Іншы раз хто-небудзь раптам усё ж падаў, чуўся гучны пляск, ляцелі пырскі, твар у няўдаліцы быў заляпаны граззю — і разам з пырскамі нябачнымі званочкамі рассыпаўся залівісты хлапечы смех...

На адной купіне спатыкнуўся і ён. Але не падумаў уставаць, і не таму, што не хацеў, каб з яго смяяліся: на незабудцы ў прымятай траве, што прыемна пахла нядаўнім дажджом, сядзеў надзвычай прыгожы матылёк...

Але, на незабудцы сядзеў матылёк... Крылцы ў яго былі жоўтыя, у чырвоных плямачках — вялізныя-вялізныя... І складзены былі, а чамусьці прыкметна дрыжэлі...

Ён імкліва працягнуў да матылька руку, але той успырхнуў і ўзляцеў...

Так, ён імкліва працягнуў руку, хацеў злавіць, але матылёк успырхнуў і паляцеў ці не з самай ужо далоні — і болей такога ён не бачыў ужо ніколі...

Пачуўся звон разбітага шкла: нявестка прыбірала са стала і, мусіць, выпусціла нешта з рук...

Па калідоры прайшоў, зачапіўшы нагою зэдлік, сын.

Мікалай Пятровіч паглядзеў на зачыненыя дзверы: можа, увойдзе сын зараз?..

Цішыня цяжка навісала над ім.

Цішыня, здавалася яму, западала над усім светам...

Ён прайшоў да канапы, узяў акардэон і, прыціснуўшыся да грудзей падбародкам, зайграў паланез Агінскага.

Надзеяй лілася музыка...

«Можа, адчыніць калі-небудзь сын дзверы?..»

II «Дарагі дружа! Ты, напэўна, дужа здзівішся, атрымаўшы гэты ліст. Ведаеш: не люблю я пісаць лісты. Дый ці помніш ты што-небудзь пра тое, што люблю я і што не люблю? Калі ўвогуле мы з табою апошні раз сустракаліся і гаманілі? Даруй мне гэтае шматгадовае маўчанне, даруй, што забыўся я на цябе.

Пішу табе, бо трэба з кімсьці цяпер пагаварыць: так мне будзе лягчэй дачакацца раніцы, таму што спаць, ведаю, не змагу ўжо ўсё роўна. А зрэшты, пра што гэта я? Хіба ў тым справа, што дачакацца лягчэй будзе раніцы?.. Нашто, недакладна сказаўшы, быццам бы падмануў цябе, быццам бы прыхаваў на якую хвіліну некуды шчырасць — не разумею. Бо ж збіраюся

расказаць табе ўсё так, як яно ёсць, нібыта сам сабе. Гэта, відаць, спрацавала ўва мне звычка, сёння нам, бадай што, усім уласцівая: саромеемся сваіх пачуццяў, быццам у тым, што выкажашся да канца, нічога не тоячы, як перад богам, ёсць нейкая загана.

Не любяць цяпер спавядацца, куды зручней хаваць пачуцці ў сабе. Ці ж зразумее мяне хто, думае кожны. І хто патрабуе, хто чакае таго, што ты выкажашся? Часу ў людзей няма дый хапае свайго клопату. Відаць, у сённяшнім жыцці, калі так занядбаны эпісталярны жанр, а рацыяналізм у паводзінах — звыклая норма, не дужа часта дый не кожнаму хочацца раптам адважыцца на споведзь. Таму, мяркую, багата людзей пражывае свой век, так і не адкрыўшыся ні перад кім ні разу. А калі ўжо надарыцца так, што жаданне спавядацца стане калі-небудзь нязноснае і патрабаваць будзе якога выйсця, дык наткнецца яно непазбежна на сурова-няўмольную акалічнасць: ці можна ўсё ж выказацца чалавеку, ці дадзена богам яму такая бязмерная ўлада — перадаць тое, што думаеш, адчуваеш, чым пакутуеш, звычайнымі словамі, недакладнымі, сказаў бы, прымітыўнымі нават злепкамі з тых няўлоўных формаў, у якія выліваюцца на імгненні пачуцці, што захапляюць нас?..

Пэўна, толькі пісьменнікі, і найбольш паміж іх паэты, надзелены гэтай уладай, а таксама здольнасцю не хаваць глыбока ў сабе тыя пачуцці, а раскрываць душу сваю перад іншымі. Але ж наколькі шчырыя могуць яны быць у перадачы сваіх перажыванняў — у кожнага ж, мусіць, ёсць свае вялікія таямніцы, якія ніколі і ні перад кім не прыадчыняеш?.. Таму заўсёды страшэнна зайздрошчу кампазітарам: мне здаецца, што гукі музыкі — дасканалая форма выказвання, якая адпавядае самым затоеным рухам душы... Але, на жаль, я гэтым уменнем ніяк не магу пахваліцца.

Даруй мне, браце,— дазволь назваць цябе так,—

даруй мне шматслоўнасць і, можа, пэўную рытарычнасць, і не спяшайся даведацца, дзеля чаго пачаў я гэты начны ліст. Ты, пэўна, разгублены цяпер (можа, і чытаеш з недаверам, узіраешся ў почырк, бо даўно ўжо забыўся на мяне), але не заглядвай у канец гэтага ліста, калі адвучыўся гаварыць пра нешта абсалютна абстрактнае, не бачачы канкрэтных прадметаў гутаркі,— я не спяшаюся, бо баюся прапусціць нешта вельмі важнае, дый страшна неяк падступіцца да таго, чым жыву цяпер...

Мусіць, ёсць усё ж у жыцці нават сучаснага чалавека рэдкія моманты, калі жаданне споведзі перамагае і пераступае праз усе перашкоды — бо гэта ўжо не жаданне, а патрэба душы, і момант гэты — не момант ужо, а мяжа, у якую ўбіраюцца, бы перад смерцю, усе сумненні і перажыванні, нейкая значная веха.

Сумненні гэтыя, супярэчлівыя пачуцці жывуць у нас паасобку, вельмі рэдка сутыкаючыся ўсе разам, і таму мы ў спешцы сваёй не бачым жыцця, як яно ёсць у сваёй непаўторнай складанасці і неабдымнасці...

Але вось здараецца нешта важнае, моцнае ў праяве сваёй, балючае да немагчымасці, незразумелае нам — і тады ў свядомасці адбываецца выбух, бо ўсе ўяўленні нашыя збіраюцца ў адно, а мы, дагэтуль амаль сляпыя, аднавокія ў лепшым выпадку, не прывыклі так напружана адчуваць свет навокал, свой унутраны свет, свет блізкага чалавека, усе тыя сусветы, што сустракаем на кожным кроку і якія так неашчадна не прыкмячаем, нібыта іх і няма зусім...

Учорашняя пустэльня напаўняецца гукамі, фарбамі, знакамі, робіцца нашым болем,— але мы не прывыклі прыслухоўвацца так да жыцця, да памяці, на якую часта зусім не зважаем, а яна ж невычэрпная, памяць наша, люстэрка душы чалавечай!..

А можа, гэта выратаванне нейкае пасылае аднекуль нам лёс, будзіць нас, каб мы маглі спыніцца, азірнуцца

і падумаць хоць крыху над тым шляхам, па якім будзем крочыць далей, каб не паўтараць памылкі, што нарабілі раней, каб перасцерагчы блізкіх табе і ўвогуле іншых людзей ад гэтых памылак.

Браце, два тыдні назад памёр мой бацька.

Ці помніш ты яго?.. Ён часта пра цябе пытаўся.

Дактары кажуць, што моцны інфаркт, што сэрца ў яго яшчэ з маладосці, з канцэнтрацыйнага лагера хворае было, а мне здаецца, што справа тут глыбей — у душы... Ды не, не буду, ты сам усё пасля зразумееш. Бо, відаць, чалавек у такім узросце, як у яго — крыху больш за пяцьдзесят,— можа перамагчы любую хваробу, калі ёсць надзея, дзеля якой варта жыць. Калі ж яе няма, калі жыццё яе адабрала, дык забіць чалавека можа нават і самае малое занядужанне.

Бацькі не стала, а маці праз тыдзень паехала да сястры ў Смаленск: ёй цяжка і трэба неяк забыцца. Я ж, узяўшы адпачынак, сяджу цяпер у кватэры старых... У кватэры ўжо аднае маці... Таню сваю папрасіў не трывожыць мяне тут, не турбавацца за мяне — яна разумее. Трэба мне пабыць тут некалькі дзён. Пабыць аднаму, ці, дакладней, пабыць разам з бацькам...

Ведаеш, я заўсёды спяшаўся некуды, як, напэўна, спяшаешся звычайна і ты. А цяпер, цяпер спяшаюся толькі ўбачыцца з бацькам, і ўсё роўна ўжо не паспею ніколі: немагчымае болей гэтае спатканне...

На сустрэчы ў свеце іншым мы ўсе даўно ўжо не верым, і, мусіць, ёсць у нашым рацыянальным разуменні парадку ўсяго існага і нешта кепскае нават, нешта такое, што памяншае, нявечыць нашую маральнасць: бо, калі б верылі, дык маглі б, напэўна, засцерагчыся ад некаторых памылак, не збіралі б да самага скону вузел грахоў у душы, хатулёчкі віны перад астатнімі чалавекамі — блізкімі і тымі, якія маглі б стаць нам блізкія, але так і не сталі і не стануць ніколі,— вузлы, якія ўсё павялічваюцца і робяцца больш

заблытаныя, а нарэшце, як прыйдзе той апошні дзень, не дадуць спакойна памерці — не выправіш тады ўжо нічога, не папросіш нават дараваць памылкі, грахі свае, адчуеш адно нязносны цяжар гэтай віны.

Ці ж не лягчэй было б нам і на тым, на няісным свеце падводзіць рахункі сумлення, абдумваць нашу віну, нават пакутаваць праз яе?.. Наўрад ці ёсць што ў жыцці больш балючае, чым падарожжа ў нябыт, няхай сабе і самае кароткае, калі толькі яно не імгненнае ў раптоўнай сваёй нечаканасці...

Дык вось, ёсць нешта страшнае, недарэчнае ў тым, што спяшаюся я зразумець яго цяпер, калі яго няма, а не спяшаўся тады, калі мог дзень пры дні бачыць яго і гаварыць з ім. А я ж нават перад смерцю яго не пабачыў, цэлы месяц пасля таго вечара, пра які ты яшчэ даведаешся, не сустракаўся з ім, бо саромеўся бачыць, як ні хацелася...

Але я спяшаюся, бо ёсць яшчэ магчымасць спаткацца з ім: здаецца мне іншы раз — і дзіўна, што не ноччу, калі так ціха навокал, а ўдзень, калі на вуліцы шумна,— здаецца, што варта толькі заплюшчыць вочы, і я ўбачу яго як жывога — не, убачу жывым... Я адчуў гэта адразу ж, як зайшоў упершыню ў пустую кватэру і пабыў там трохі адзін.

Ты не ўяўляеш, якая пустая стала яна, кватэра, хоць, урэшце, рэчы ўсе засталіся на месцы. Але кожны прадмет здаецца цяпер нейкім асірацелым, асабліва акардэон на шафе, зэдлік у кутку кухні, седзячы на якім бацька любіў майстраваць (ён жа ўвесь час, калі не сядзеў каля акна, майстраваў), крэсла, на якім ён праводзіў свае познія вечары.

Ды колькі я ні заплюшчваю вочы — бацька ніяк не прыходзіць такі, якім трэба мне яго ўбачыць...

Ён знікае раптам у самы апошні момант, якраз тады, калі абрысы яго твару робяцца ўсё больш і больш рэальныя, а не ўяўныя, і здаецца, што вось ён зараз

стане перада мною, нібыта паўтара месяца назад, засмяецца і нешта скажа...

Не, дакладней будзе сказаць, што я яго бачу ўжо, але толькі быццам здалёк, і мне хочацца наблізіцца да яго, ды толькі раблю я крок насустрач, толькі напружваю волю, зрок, памяць, патанаю ў ёй — бацька выслізгвае... Не хапае нечага ў гэтым напружанні памяці...

А што, калі гэтае «нечага» — адсутнасць тае блізкасці, якая адна дазволіла б сустрэцца ў памяці, у нашым агульным з бацькам мінулым?.. Што, калі ў нас ні на хвілю не было гэтае блізкасці?..

Я нікуды не выходжу. Мне добра тут аднаму, калі да таго, што я адчуваю ў гэтай кватэры, пасаваць можа слова «добра». Я нічога больш не хачу — мусіць, вось так будзе лепш. І не думаю, што ў нейкім іншым месцы мне было б лягчэй.

Колькі я тут прабуду — не ведаю. Ва ўсякім разе, адпачынак мой працягваецца трыццаць два дні, а паветра з вуліцы сюды даходзіць. П'ю толькі каву і нешта зрэдка жую. Ляжу на канапе, на той самай канапе, на якой ляжаў, перад тым як ісці на працу, бацька, гляджу на акардэон на шафе або на бацькаў партрэт у куце (маці павесіла перад пахаваннем, ён на ім маладым, у салдацкай форме — адзіная фатаграфія, што знайшлася ў нас) і думаю... Сяджу ля акна...

Уключаю хіба што яшчэ калі-нікалі тэлевізар, але гляджу толькі футбол, які так любіў бацька і да якога я раней быў зусім абыякавы,— і дзіўна, але мне цікава. Часам гляджу яшчэ дзіцячыя мультфільмы, якія ён таксама ніколі не прапускаў,— і нават, бывае, усміхаюся... А іншы раз здаецца, што бацька побач...

Не думай, браце, што я захварэў душою — наадварот, я ніколі ў жыцці не адчуваў сябе яшчэ такім здаровым і чыстым.

Я, магчыма, не вытрымаў бы такога — не ведаю,

як тут лепей сказаць — сядзення ды ляжання ў чатырох сценах, калі б толькі думаў, хоць і гэтага шмат: думаць пра бацьку, якога няма ўжо. Але нейкага дня я пачаў запісваць тое, што адчуваю.

Здарылася так, што я нешта ўспомніў — і гэта ўразіла мяне, як штосьці новае, упершыню адкрытае, а была ноч, я засынаў патроху (хоць увогуле сплю вельмі мала), і таму, спалохаўшыся, што згублю ўбачанае, забудуся пра яго, знайшоў стары сшытак і запісаў тое, што адкрылася раптам... А пасля злавіў сябе на тым, што так я лепш бачу бацьку, неяк больш, сказаў бы, збоку, ясней — і стаў запісваць далей...

Я доўга сумняваўся перад тым, як выслаць табе тыя запісы. Нашто, думаў. Ці варта ўвогуле паказваць іх каму іншаму: можа, гэта настолькі маё асабістае, дакладней, маё і бацькава асабістае, што паказваць запісанае — нельга?..

Але ты мусіш памятаць: я таксама, як і ты, збіраўся некалі стаць пісьменнікам...

Калі ты падаў дакументы ў Літаратурны, а я, перадумаўшы, занёс іх у кіношны, на сцэнарны, а пасля ўвогуле перадаў на кіназнаўства, то, баючыся прызнацца ў тым, што кіравала мною, сказаў табе, што кіно мне, бадай, бліжэй за літаратуру, і што ў ім я буду на сваім месцы, а пісьменнік з мяне наўрад ці выйдзе, дый няма, галоўнае, вялікае да таго ахвоты.

Ты глядзеў на мяне не верачы і спытаўся здзіўлена: а куды ж яна дзелася, тая ахвота, здаецца ж... Я, наколькі мог, упэўнена перапыніў цябе, сказаўшы, што памыляўся. У маіх вачах было столькі шчырасці, што ты мне паверыў. Я ж і сябе падманваў, шукаючы апраўданні таму, што зрабіў.

Гэтаксама ж я падмануў і бацьку, калі вярнуўся з Масквы ўжо студэнтам. Ён, праўда, быў тады ўсё роўна шчаслівы, але прамільгнула на твары ў яго нешта вельмі журботнае... Пасля я падманваў і сябе і яго гэ-

тымі мовамі (памятаеш, як пачаў я раптам імі захапляцца?), якія здаваліся нам — мне і бацьку — маім велізарным багаццем. Можа, калі-небудзь яно ім і стане, але тады, прадчуваючы памылку, я проста шукаў нейкага выйсця.

А прычына таго, што прапала некуды мая ахвота, простая: баязлівец я. Які з мяне, думаў, можа выйсці пісьменнік: Талстога ўжо так ці інакш не дагоніш, а паступіць у інстытут усё роўна трэба — і гэтага будзе нямала. Словам, не хацелася мне вяртацца з Масквы ні [redacted] чым, а ў кінематаграфічны быў тады меншы конкурс, асабліва на кіназнаўстве.

Але і крытыка, браце, з мяне таксама, як ты, мабыць, ужо зразумеў, не выйшла. Няма ў мяне таленту для гэтае справы — і таму яна мне не любая.

Гэтак я апынуўся на ростанях. Сказаць, што мне сумна праз тое — мала. Я дарослы ўжо чалавек. А як мог глядзець на тое бацька, які, лічы, што і жыў для мяне аднаго?.. Як пакутаваў ён!..

Дык вось, мне здаецца: тое, што я запісаў — гэта цяпер адзінае, чым бы я мог парадаваць яго, калі б ён быў яшчэ жывы...

Не ведаю, што ў мяне выйшла — апавяданне? споведзь? ці проста ўспамін? — але пісаў я гэта, запісваў чамусьці не ад сябе, а ад некага іншага, усё роўна як гледзячы на бацьку аднекуль збоку: я ўжо казаў табе, што так мне было лягчэй зразумець бацьку, так разуменне маё здавалася мне больш дакладным, блізкім да праўды. І пісаў, павер, мала думаючы пра пісьменства. Хоць і не буду маніць: калі-нікалі прыходзілі думкі...

Не пра ўсё, вядома, паспеў я ці здолеў сказаць, не ўсё адразу мог прыгадаць, не ўсё ўбачыў, як трэба было б... Шмат пра што варта яшчэ ўспомніць.

Але ж, думаю, новыя згадкі будуць прыходзіць да мяне яшчэ праз усё жыццё, і заўсёды будзе ўсплываць у думках нешта раней не згаданае... Хіба ж можна ўсё

сказаць разам пра *бацьку*, усё адкрыць у ім адным напружаннем думкі?.. Ці ж магу я цяпер, нічога пра яго па сутнасці так і не ўведаўшы, зазірнуць па-сапраўднаму ў яго душу?.. Ці ж магчыма ўвогуле зазірнуць у тое, што завецца чужою *памяццю*—колькі праўды там «убачыш» і ці прыадкрыецца хоць кропля тае праўды?..

Для ўсіх бацька быў чалавек нічым не адметны. «Рабацяга», якіх і не пералічыць. Ну, якое ўнутранае жыццё магло быць у ім на іх погляд — а тым больш складанае? Жыве сабе ціха, не замінае нікому, ходзіць на працу, на футбол, есць, спіць, думае пра рамонт кватэры, пра сына яшчэ...

А я, успамінаючы бацьку, згадваю Экзюпеpы: «Надта шмат у свеце людзей, якім ніхто не памог абудзіцца...» Бацьку не трэба было абуджаць — яму ўсяго толькі не трэба было перашкаджаць. А лёс тут не ўпросіш. Як матылёк на далоні — шчаслівы лёс у жыцці. І злавіць яго можна і выпусціць.

Не ведаю, нашто высылаю табе гэты ўспамін.

Але здалося мне ўсё ж у гэтыя дні, што, як ні запознена, ды прыйшла да мяне тая блізкасць, якой, на жаль, не было паміж намі, калі быў ён жывы... Я быццам адкрыў яго — і адкрыў так глыбока, як толькі магу. Не, гэта ён сам мне адкрыўся ў пустой кватэры, дзе ўсё так згадвае пра яго, і блізкасць гэтая — найвялікшае шчасце, якое я зведваў.

Бывай, браце. Слава.

P. S. Яшчэ да таго, як памёр бацька, пасля таго выпадку, пра які ты даведаешся з успаміну, пераламалася ўсё ўва мне, перавярнулася... Чаму дапісваю тое, што, мусіць, ты і так зразумееў?.. Відаць, баюся: а што як не здолеў данесці словамі тое, што адчуваю — як гэта шмат, калі твой бацька жывы і ты яшчэ маеш магчымасць бачыць яго... Ці жывы яшчэ твой?..»

З м е с т

**Асташонак А.**

**А 91** Фарбы душы: Апавяданні, настроі, аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 174 с.— (Першая кніга празаіка).

ISBN 5-340-00345-0.

Асташонок А. Краски души: Рассказы, лир. миниатюры, повесть.

**У мініяцюры «Фарбы душы», якая дала назву кнізе, малады аўтар гаворыць аб паэтычным бачанні свету. Лірычнасць, псіхалагізм характэрныя і аповесці «Малюнкі на попеле», якая прысвечана драматычнаму лёсу таленту.**

**Вострым сюжэтам вызначаюцца апавяданне «Супер», у цэнтры якога «цяжкая» моладзь, прытчы «Метамарфоза» і «Чарга». Герой апавядання «Вяртанне» — паэт Максім Багдановіч.**

А $\frac{4702120201-081}{М\ 302(03)-89}$ 34—89 ББК84 Бел7

*Литературно-художественное издание*

Асташонок Александр Николаевич

КРАСКИ ДУШИ

Рассказы, лирические миниатюры, повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Асташонак Аляксандр Мікалаевіч

ФАРБЫ ДУШЫ

Апавяданні, настроі, аповесць

Рэдактар А. П. Рыбак. Мастак К. Г. Вашчанка. Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Л. М. Маслоўская.

ІВ № 3170

Здадзена ў набор 09.06.88. Падп. да друку 09.02.89. АТ 06688. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,15. Ум. фарб.-адб. 7,56. Ул.-выд. арк. 7,54. Тыраж 8000 экз. Зак. 1532. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.